М. ГОРЭЦКІ.

# РУНЬ





ВІЛЬНЯ — 1914.
ДРУКАРНЯ МАРЦІНА КУХТЫ.



# Рунь.

## (Памяці друга).

---

Ад аўтора. Не падумайце, людзі добрые, што ў апаведаніўку гэтым выдумка хітрая, плянень мастацкі... Не!

Яўна парушаючы законы пісьменства краснаго, пішу я тут аб тым, што запраўды было. Пішу без прыкрасы самай маленькай; пішу так, як праходзіць цяпер яно, мінулае, прад вачамі духа майго.

Карыстаючы з аўторскіх правоў, пішу тут успамін дарагому, незабытаму таварышу...

Я ведаў вялікіе сілы яго душы маладой і крыштальную чыстату гэтай душы.

Я ведаў... І я павінен расказаць братом беларусам, якую, можэ, сілу, што была паміж нас, страцілі мы.

Ці ж-ткі страцілі, Божэ?

Гдзе то цяпер ты, мой любы Уладзімір?

Гдзе ён, брацьця мае?

Ня думайця, што нябошчык ён. Скуль гэта ведаць? Я-ж блізкі яго сябра, і я ня ведаю, ці на тым сьвеці ён, ці на гэтым?

Для свае радні і знаёмых—ён памёр. І так думаюць, што ён зрабіў самагубства. Так многіе

лічуць, ведаючы яго сільны і арыгінальны характар.

У паліцыі ж запісана каротка: «Уладзімір З *)—прапаў бяз весьці».

Даходзюць, што ён утапіўся, цела ж яго не знайшлі.

А я, мяркуючы па яго натуры, успамінаючы яго думкі і перэбіраючы у галаве некаторые словы, думаю, што ён—жыў!

Жыў і куець долю новаго чэлавека (беларуса) у далёкай Амэрыцы альба у Аўстраліі.

Цяпер (хоць гэта выглядаіць троху сьмешна, але заліваючыся хапаюцца за саломінку), цяпер я папрасіў бы, калі хто будзе ў Амэрыцы і сустрэціць, бывае, такога сурьёзнаго, думнаго, з невясёлымі але хаваючымі агні, вачамі беларуса, то ніхай прыгледзіцца пільней, можэ чадам знайдзіць у ём майго даражэнькаго Уладзіміра З. Росту ён сярэдняго: валасы цемнаватые, у польку; круглавіды... Адна важная прымета была у яго, ды ноды німа цяпер—гэта прывычка даволі часта прыгаварываць: «Кепства кепстволіс».

Дык вось прашу не забыцца.

Ён хацеў словам адраджаць чэлавека ў беларусе (не ў другім кім, бо ён—сын беларускаго народу і найлепі мог паслужыць Беларусі). Але запала яму неяк у галаву, што, вось, прарокі слова у нас знаходзюцца, а пракокаў — эканамістаў німа.

Ён хацеў так. Сабраць у сьвеці ў адных

---

*) Поўную фамілію Уладзіміра пакуль што нагісаць не магу па незалежных ад мяне прычынах.

сваіх руках столькі грошы, каб, напрыклад... купіць усю Вільню, і потым з гэтымі грашамі рабіць эканаміцкае адраджэньне Беларусі. Гэта, у пасьледку, была яго манія, і некаторые лічылі яго блізка што ненармальным.

Быў ён сірата. Матка памёрла дужа рана. Бацька пачаў піць і зара пайшоў ўсьлед. Астаўся адзін хлопчык, маючы усяе радні—нейкаго «сьвецкаго» дзядзьку, што служыў у горадзі бытцым то пісцом. Быў хлопчык і халодзен і галодзен, нацерпеўся сярод людзей, служачы у батраках. Потым навучыўся у аднаго панка троху садоўніцтва і граматы. Служыў у вялікім садзі, пачаў чытаць кніжкі, потым папробаваў пісаць. Далей пісаць абстаўна яго жыцьцё я не магу дзеля таго ж яго «шаноўнаго» сьвецкаго дзядзькі, каторы цяпер працуіць ў канцэляры аднаго губэрнатара.

Аб гісторыі яго астатніх часаў скажу каротка. Як там было, але ён злюбіўся незвычайна с паннай-Ядзяй К., ядыным адросткам старыннаго беларускаго роду, апалячэннаго не раней 19 веку. Ядзя зрабілася сьвядомай беларускай і разгневала радню, бацьку, мачыху. Яе сілком некуды павязьлі, хацелі аддаць замуж за багатырапамешчыка пана П—го. І яна нібы то памёрла у Італіі... Абставы надта загадковы. Можа яна і жыва, але уцекла ад радні німа ведама куды з Эўропы. Каб не было скандалу у гоноровых польскіх салёнах, паны абвесьцілі, што Ядзя пахавана ужо у Ніццы!

Адно ведама: зара, як дайшоў слых аб Ядзі, не стала й Ўладзіміра, «прапаў» і ён.

Просты народ тутэйшы гадаіць розна. Бацька Ядзі пракляў яе, а мачыху прагнаў і жывець

адзін-адным у глухім маёнтку. Адзінокі, стары, глухі. нехалюзы ..

Ці пачуем калі із ноў аб Ядзі і Ўладку—невядома. Тут, на роднай беларускай зямліцы—яны памёрлі...

І калі жывы (як шэпчуць тут людзі), ці скуюць то за колькі гадоў долю і шчасьце сваё на карысць усей Беларусі? Ці, можэ, і запраўды ужо нябошчыкі на далёкай чужыне? Бог сьвяты ведаіць. Пачую што — напішу тады. Цяпер вось матэр'ялы Ўладзіміра, што крывымі дарогамі патрапілі ка мне.

Я лічу сьвятою павіннасьцю шчыра даць тут з яго пісаньнёў усё, што можна і што паказывае нам, які быў Уладзімір. З яго папераў ёсць у мяне два яго напісаных апаведаньня, паказываючые літэратурны напрамак яго, потым запіскі «Да самога сябе», кавалачкі з днеўніка і некалькі пісем да яго ат сьветлай памяці нябошчыцы Ядзі.

Вось яго першае апаведаньне, дзе ён хацеў паказаць страшныя часы прыгоншчыны.

---

## ВОЙТ.

«Комкі сьнегу вылеталі с-пад капытоў, засыпалі перадок саней і лажыліся войту на шубу. Сьцюдзёны рэзкі вецер сьвістаў яму у вочы і круціў наўкола саней і каня і далей па ўсяму полю, як відзіш, цэлые хмары сьнегу.

Мароз браўся на́ нач ешчэ горшы, ешчэ злейшы.

Добры панскі стаеннік, аж белы увесь ат шэрэні, даволі шпарка бег сярод замятухі па

занесеннай дарозі, хуркаў і порскаў белаю параю у бокі. Палозьзя безустаньня скрыпела, звінела, йграла, пеяла, і разам з маўчлівым відам увабраных у белае бяроз, застыхшых абапол дарогі усё наводзіла на пана войта нуду і маркоту.

Пасьля мадэры, што паднесла сама пані, троху вяла ў галаве. У горлі было прыкра-гаркавата пасьля надта масьляных сырнікаў, каторымі частаваў кухар.

«Усё ладна, усё добра, паны здаволены, што патрапілі дагадзіць гасьцям і вясёла прагулялі масьлянку, чаго ж болі?»

Войт сярдзіта варухнуўся і засоп, даргануўшы каня за вожкі.

«Не-е, на канец чорт пацягнуў пана за язык пахваліцца прыгожымі дзеўкамі... На войта нарэканьня, а што тут войту?!.»

Злосна засморгаў вожкамі і збачыў пад узгорак к хатам, што цямнелі там каля рэчкі.

«Яму, старому, трэба езьдзіць за ўсякаю каланіцаю, бытцым німа каму ешчэ з дваровых»...

Конь, пачуўшы цёплы дух, замахаў храпаю з абмёрзлымі вусамі, забарабаніў, зьбегшы з горкі, па вузенькаму мосту і незабавам рухава падвёз санкі к крайняй хаці, гдзе ўжо запалілі лучынку.

Кароткі зімовы дзень мінуў. Неба, цёмнае, пахмурнае, злое, было чырванейшае на захадзі і пагражала аттуль страшэнным марозам.

Войт злез, кінуў каня падляцеўшаму хлопцу і пашоў у хату.

Улез с холадам у невялікіе дзьверы, пахлопаў у парозі валенкамі і хрыпата і важка кінуў, агледаючыся па хаці:

— Добры вечар!

У хаці было ціха. Каля полу вазёкалася нейкая баба; убачыўшы война, атарапела і завугнавіла:

— Добры вечар, паночку!

— Юрка тут?

На печы зашэвяліўся...

— А-а, ты на печ схаваўся! Пазяб? Пан наказаў, каб ты дзеўку сваю прыслаў у двор к яму; там астатні баль сягоньня будзе, гукаюць дзевак пець ды скакаць, каб паном весялейшэ было... А гдзе ж Тацяна?

Юрка заварочаўся моўчкі на печы, саскочыў на запечак, выгаварыў-ткі: «добры вечар пану войту» і заскроб бараду ў задуменьні: «Чым скончыцца нахаба?»

Войт прыхінуўся к зэдліку, абцягнуў лёд з вусоў, расхінуў шубу, здзеў цёплые рукавіцы, разагрэўся, але так сабе, бо ў хаці было, як у пуні.

С чырвонаго поясу зьвесіўся тоўсты бізун— знак войтаўскай грознай сілы

— Ці там, ніхай Бог крыіць, без мае Тацяны, німаш каторых бліжэйшых,—адводзіў Юрка бяду. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .»

---

Вось другое апаведаньне, у каторым Ўладзімір хацеў апісаць гістарычные часы Беларусі.

## КНЯГІНЯ.

«Чутно княгіні маладой, аж з высокай сьвятліцы чутно, як безустаньня плешчыць і бьецца

аб кручы, і стогніць, і выць неўгамонны Дняпро.

Чутно княгіні-адзіноці у ціхім пакою, аж праз таўстые мураваные замковые сьцены чутно, што вецер над борам грыміць безупынна, гудом-гудзяць і шумяць векавые сосны.

І нудна княгіні, і здаецца ёй, што так і дождж на дварэ, мутненькі, дробненькі, пракурыцца безперэстаньня цалютку ноч, а дужэючы ён без канца будзе бубнець аб рознакалёрные балоны вакенные, наводзячы невясёлые думы...

Буль-бом-бом... Буль-бом-бом...

Дрыжыць-мітусіцца чырвоны агонь у лямпадцы прад суровымі строгімі лікамі сьвятых на старасьвецкіх абразох у цёмным куце. Сьвятлеіцца кут ад лямпадкі. А бліскучые, зьяючые, чорнасрэбраные рызы у ва ўсе бакі, бяз лічбы, іскаркамі сыплюць і маркоту цягуча наганяюць.

Ня лёгка на сэрцы у княгіні Ганны, ня лёгка ды й дужа...

Ціха ў пакою, як заўсёды бязглосна пазіраюць райскіе птушкі і сіне-блакітные васількі з дарагіх тканін, што сьцены імі паўвешаны ад столі да нізу.

Не зьмяты, ня склычэны сукенные посьцілкі на дубовых услонах, бо калі тое было, што сядзелі на іх?

І астатняя стараніца Евангельля сьвятога як ляжыць дык ляжыць на чырвоным аксаміці; а недапісана, бо у апошніе часы не ўдаюцца кнігіні узоры-завіткі загалоўных літэраў. Не ўдаюцца... калі ж цяжка на сэрцы ад думак ташлівых, журлівых І недаплецены фарботы прыгожые. Мусіць не плятуцца чагосьці яны. Забыты, закінуты на узорным стале...

І ня сьпіцца княгіні,—адзінотка ж яна.

Непрыхільна сэрцу у ціхамірным, а пустым пакою. О, думачкі, аткуля вы?

Накінула княгіня Ганна кунічую даху на белые плечкі, узьдзела мякка-пушыстые палуботкі на ножкі белые, дэлікатные, па пакою прайшлася, маркотна на пярыны свае зірнула, прысела бязсільна ж саўсім на аббіты куніччымі скурамі зэдлічэк і галоўку прыгожую пакутна схіліла на грудзі.

Скацілася тонкая, беленькая, з дробненькімі кволенькімі пальчыкамі княгініна рука на калена; а валасы, як непрыдумная па сваёй прыгожасьці чыстая, густая кудзеля, рассыпаліся па цёплаватых пухленькіх плечках; с пацямнеўшых ад жалю і смутку вочэк закапалі гарачые, чысте сьлёзы, як сьветлая раса, сьлёзы...

Плачыць княгіня маладая, прыгожая Ганнуся. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

---

Вось і ўсё. А гаспадыня, у каторай жыў Уладзік, перэказывала мне, што пісаў ён цэлые ночы і ужо меў спісаных колькі сшыткаў. Часта гаварыў гаспадыні, што пішыць гістарычную повесць і зара кончыць. Гдзе яго рукапісы, ці ён спаліў іх з другімі паперамі перад ад'ездам, ці ён узяў іх куды с сабою, хто яго ведае. Астаўся прыпадкова у гаспадыні толькі, відаць, першапачаткавы рукапіс, кінуты ім, каторы я і даў тута.

Апаведаньня сьветчуць, што яго займалі ня токма што грамадзянска-палітычные пытаньня, але і перэжываньня чэлавека, яго псіхалогія. Значыцца тож, любіў ён хараство, прыгожасць,

хаця і не любіў паказываць таго занадта, бо па яго сумленьню жыцьцё у наш практычны век вымагаіць іншаго. Але гэта быў такі романтык. Колькі вершаў умеў ён на пямяць! З беларускай жа народнай паэзіі найболі ён любіў ціхіе легенды і страшные праданьня; таксама — казкі, у каторых даводзіцца, што некалі праўда возьме верх над злом.

Дальш я даю запіскі яго: «Да самого сябе», каторые пэўне ён мог напісаць толькі для свайго ж чытаньня і па каторых мы можэм больш усяго пазнаць што ён быў за чэлавек.

---

Ўладзіміравы пісаньня (с папераў, каторые ласкава перэдала мне пані М. — гаспадыня кватэры, гдзе жыў ён астатніе часы).

## ДА САМОГА СЯБЕ.

...Дык так, неўдалы Ўладзімірка, у апошніе часы часьцей ды часьцей зьяўляіцца у цябе думка нядобрая, думка аб самагубстві.

На той нядзелі табе, здаецца, якбы й павясялела, і ты пакрыківаў, як цялё, выпушчэнае с пунькі на двор, і пеў у сэрцы: «Жыць! Жыць!»

А заўчора, пасьля абеду, лёг ты ніц на пасьцелю, жарка дыхаў у пярыну, сьцяў зубы, с сударгай апхапіў галаву і мучыўся...

Нудна! Нудна!

Скуль зьявілася тая нуда, што пад канец, у апошніе часы, так неатчэпна грызець тваё сэрцэ і паддаець ламаты і болю галаве тваёй? Чаму не маіш ты цікавасьці к жыцьцю?

Ідэалаў німа у цябе!

Праўда? Не? Не праўда? А вось праўда!!

Ты—вышэй звычайнаго чэлавека па свайму духу, але дух твой цяжка хварэіць, бо сам сабе дайшоў ты сьмерці у філязофіі свaёй.

Не варта жыць, бо німа нічога на сьвеці, што дзержала-б цябе у жыцьці, што гукала-б цябе к жыцьцю...

Так... чаго жыць табе?

Ты ня жыў, а пражыўся. І невядома, ці разжывешся ты ізноў. Німа ведама, ці палепшаеш ты пасьля сваёй хваробы і ці закрасуіш ты? Ці падасі і другім хварэючым гаючае спадзеваньне, што ня ўсё прапала, што можна шчэ паздаравець?

Уладзімірка! Ты не маіш сярод людзей чэлавека, каторaму б раскрыў душу сваю, да каторaго б прыхіліўся Можа аттаго, што ты сам сабе гідак і непрыемен, дык баішся паказацца людзём у шчырасьці сваёй, у брыдоці сваёй.

А ты-ж—ідэаліст...

Ты-ж змалку гнаўся за праўд . . . . . . ,
. . . . . . . . . . . . гаротн...

Ад аўтора. Тутака частка паперы згрызена смальлянкамі у часі, калі пісаньня Уладзіміравы лежалі у пані М. на вышках. Потым дальш невялікую мясьцінку пісаньня яго я не даю у друк дзеля таго, што у ёй Уладзімір пішыць аб сабе і дзеля аднаго сябе і такое, што, па мойму, не цікава для грамадзянства і, надрукаванае, не пайшло б на карысць сьветлай памяці майго друга).

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . Душэ мая, душэ мая! Возстані!

Што сьпіш? Канец прыбліжаіцца... І імашы смуціціся,—воспрані убо...

Эх, тэмы, тэмы! Ну, Ўладзімірка, вось табе тэма.

Прыгон.. Пан і ў яго цьма людзей-рабоў, падданых яго. Пан ужо й ня можэць думку такую мець, каб і смэрдоў лічыць за роўных паном людзей. А смэрды і ня думаюць, што яны—роўны паном, што яны маюць косткі не чарнейшые за паньскіе, што яны такіе ж людзі, як і паны. А калі і памысьлюць аб волі, дык аб такой, каб не хадзіць на прыгон што дня, а толькі дні два у тыдзень... і каб пан ня біўся.

Страшна! Як людзі самі магуць закуваць сябе і дух свой, і цела сваё у страшные зялезы-путы.

Але і ў жывейшых падданых, хоць на грунці недахвату хлеба, і перасолу на сьпіне, і здзекоў над чэсьцю, пачынаіць будзіцца ненавісць да паноў.

У пана ігрышчэ, баль... Многіе госьці занячэвалі. Мужчыны, хлапцы... Пан надумаўся і загадаў войту. Робіцца лепшая прыемнасьць для госьцікаў. Войт ездзіць па вёсках і зганяіць прыгажэйшых дзевак і маладух да паньскаго двору на́ нач.

Бацькі, мужыкі і браты альбо ня думаюць, што робіцца, альбо кірующца скарыстаць з гэтаго, альбо, чулые і больш заможные, пачынаюць шляхатаць злосьцю і ненавісьцю да паноў. Помста! помста!

А сілу маюць паны. Як гэта сталася?

Не даюць працаваць на сябе, адбіраюць на сваё прыхамаці астатні хлеб, астатнюю адзежынку, астатнюю вольную часінку...

Голад, холад, горэ!

Бізунамі бьюць, у салдаты на ўсё жыцьце бацек атдаюць, на сабак меняюць. Што хочуць, тое робюць, мучаюць салодка.

Помста, помста!

Ад маткі у песьнях, у казках, у сьлезах, у стагнаньні; ад бацькі у рабскай маўклівасьці, у злых славах, у кляцьбе дзяцёнак убіраіць у душу ненавісць і страшэнную імсцівасць да паноў... Ах! Што б зрабіў ён, сын мужыцкі, усім!

Добра.

Ты, Ўладзька, сын народу. Колькі ты змалку бедаваў! Колькі ты усякаго ліха мысьліў, колькі краў сэрцам ад зласьлівасьці да паноў... Ах, каб меў сілу над панамі! У порах, у пыл!!.

Тады шчэ ня чытаў ты кніжак, недалўжка Ўладзімірка, і не хварэў хваробамі інтэлігента.

Добра, і вось ты інтэлігент. А! Рука твая не паднімаецца на заклятых ворагаў тваіх. Ты баішся дайжэ, каб людзі не даведаліся аб думках маленства твайго. Ты пішыш толькі «да самога сябе». Крый Божэ — даведаюцца «інтэлігенты», што на душы у цябе! Стыднінька табе! Стыднінька, што украдня у ночы конікаў вадзіў у панскі лес. Стыднінька, што пакляўся са сьлезамі сам сабе зарэзаць, як вырасьцеш, аб'ешчыка за тое, што ня толькі садраў у ляску хустку у маткі твае за ягады, але і бізуном даў і гідкім, страшным словам зневажыў яе, маму, пры табе, дзяцёнку сінявокім.

Эх, чэлавек, чэлавек! Усё адно не дабіцца табе, аткуля ўсё і што яно...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Людзі капашацца... Ня ўсё роўна, хто там

каго душыць! Я вышэй гляджу!.. Жыцьцё. Дык не варта жыць, бо нудна.

Нудна; цікавасьці німа . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

(Ад аўтора. Тут ізноў канец ліста адзёрты. У далейшым лістку — дзіркі і плямы, і па тых словах, што можна прачытаць, не ўдаецца уцяміць, куды кіравалася думка Уладзіміра; даю тут, што троху многа зразумела у астатніх лістках).

...Па праўдзі, ну чаго ж я буду жыць далей?

Каб толькі не плакала Ш. і не бедаваў Г. (любы хлопчык; які чэлавек у ём!) і *) каб толькі ведаў што будзіць цераз 50 гадоў з беларускай справай *),—дык ціаністы калі...

Беларуская справа... Што я магу? І што хто можыць? Жыцьцё ідзець, ідзець... да нечэга. Праўда, што мы творым жыцьцё, але калі й праўда, то ці ня ўсё роўна! Людзі!...

А каторые з іх болей варты спагаданьня? Хто іх разьбярэць? Я заступаюся за *брата*-мужыка, а ён жэ — *не сымпатычны*, ён жэ мяне крыўдзіў болей, чым хто. А, ты—беларус, ты можыш пісаць, ты павінен працаваць, ты тое—гэта... Пасунь уперад, праслаў родную старонку. Нічога я не маю у сабе; а каб і геній быў я, — ўсё роўна! К чаму? Усё некалі будзіць невядома, усё цяперашнее згініць.

(Ад аўтора. Калі я перэчытаў гэту мясьцінку Валодзіных пісаньнёў, мне узыйшло на

---

*) Словы паміж зорак у рукапісу Ўладзіміра закасаваны.

думку, што многіе даравітые беларусы асталіся невядомы сьвету праз такіе вось свае погляды, каторые к таму ж, дадам, пануюць сярод многіх беларусаў)

...І ўсё роўна а ні шчасьця мець ня буду а нічога, бо у думках дайшоў, што німа на сьвеці цікаваго, новаго і такога, з-за чаго б варта жыці мне.

А тэлефон бяз дроту? Ха-ха!

Хто хочэ жыць—ніхай жывець, а хто хочэ памерці—памрэць ніхай...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

(Ад аўтора. Выкінута, уважаючы не цэнзуру).

...Колькі прыгожых дзяўчын! І колькі з іх шукаюць, як і я, чэлавека сярод людзей. І я, дзякуючы сучаснаму соціяльна грамадзянскаму ладу, павінен жыць антымаральна.

...Пісаць,—значыць працаваць дзеля людзкога чытаньня.

А мне людзі—прыкрасць. Гордасць? Не..

Ой, гняцець нуда-назола; ой гложыць маркота вялікая сэрцэ маё! Стагнаць... А спакою мне!

Хапіць ціаністаго калі і лежаць спакойна...

Думка аб самагубстві улежылася добра і ладна,—

Значыцца...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

(Ад аўтора. Гэта усё, як відаць напісана Уладзімірам да яго знаёмства з Ядзяю. Потым, калі ён з ёю палюбіўся, мусіць, дапісаў ешчэ, што тут ніжэй).

Самагубства ня выйшла. Ды й чаго паміраць, калі я жыў толькі у думках? І толькі у думках прыйшоў да самагубства! Трэба ж

самому добра пажыць, добра жыцьцё пазнаць. Можэ яно атказ дасць.

Дык так... Паехаць! Куваць долю. А там—тады тое будзіць

Як жа з Я? Трэба канешне так ці гэтак... Божэ! Як яна ўсё атдала мне, ўсяго старога адрэклася і пайшла. Сьвятая ты, Я.! Ты ўваскрэсіла мяне. Дай ручку. Пойдзім! Эх, дарогу нам! Мы ідзём долю куваць за моры, акеаны. Вышэй галоўку, Я.!

К жыцьцю!

(Ад аўтора. Звярніця асаблівую увагу на апошніе радкі. Ці ж яны не праўдзюць таго, што гадаў я і гадаю аб долі Ўладзіміра і Ядзі?

Пэўне жывуць яны ў Амэрыцы або ў Аўстраліі).

## КАВАЛКІ З ДНЕЎНІКА.

19...

5 студня. Сварыўся з дзядзькам за беларушчыну. Гаворыць, калі ня кіну, не дасць грошы на навуку 1 лютаго. Пачаў чытаць экономію палітыкі.

10 марца. Бачыў, як хавалі Астапа, што апрогся ад гарэлкі. Жонка, дзеткі—сіроты...

30 красавіка. Сустрэча з Я.К. Яна—лепшая.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

15 жніўня. Люблю... Што будзе?

7 кастрычніка. Паліція пагледаець за мною. Работа пана К. Паваюем!

6 лютаго. Пералом. Навіна пайшла. Будзім жыць.

(А д   а ў т о р а. Потым ёсць і яшчэ у днеўніку тое-гэта цікавае, але друкаваць ня можна па розных прычынах. Ёсць і ўспаміна у яго, напрыклад).

...Чытаю, працую; сяджу у вечары.

Думкі цягнуцца... Маленства мае...

Граза, на начлег не вядуць, а мяне, батрака, гаспадар выправіў. Павёў я коні у вугол, к лесу; спутаў, а сам лёг пад елкаю. Страшна стала аднаму у буру. І каб не забіў пярун. Лёг у ляшчыні пад буйным дажджом. Ляжу, схаваўшыся пад зніз з галавою, а пад мяне ужо патцекаіць, а зверху, па знізу, як па лубу, дождж: бом-больбуль... ліп-ліп... Гром: гу-гу-гурр!.. Гручыць.

Д р у г о е. Мама уміраіць. Не разумею, і вясёл. Потым—у павадыры. Дзядзька забраў. Біў кійком. Дворнічыха ратавала; было непагодна, сьцюдзена, я туляўся па дварэ. Яна узяла, грэла, чаем паіла. «Ногі, як лядні... Лядзень-ляднём... Дзетка маё».

Т р э ц ь ц я е. Сказала мне Я.: «Ты—сільны і справедлівы; я пайду за табою, гдзе хочэш; я усё кіну для цябе. Ты—новы...» Душачка мая, жоначка мая,.. Божа! дзякую Табе!

(А д   а ў т о р а. Потым даю тут пісьмо Ядзі да яго. Вядома ня поўнасьцю, бо у ім яна зачапіла радню, і я не магу усё друкаваць, каб не было на мяне навалы вялікай).

«...Мой Уладзя! Мой любы, мой ненаглядны, мой богаданны! Я рада. Так! Ты мой, а я твая, твая на векі. І татка, і мачыха знаюць усё. І віхай. Кабета беларуска была і ёсць мучэніца, і я не баюся, я — беларуска. Ня думай, і твая маленькая «жоначка» Ядзя любіць татку, шануіць многіх знаёмых, але не паглядзіць ні на гразь-

бу, ні на сьлёзы, ні на жалобные словы, ні на што... Усё я зьнясу, і чаму раз дала я веру і па якому раз шляху пайшла, у тое буду верыць і па таму шляху буду іці, іці, іці... Да труны, або пакуль хопіць сілы . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Што у нас творыцца, Ўладзя! Мяне схавалі за сем замкоў. Імя тваё забаронена гаварыць. Татуся маўчыць і маўчыць, на людзей не глядзіць. Каго сустрэціць бліжэйшага са знаёмых паноў, пачынае жаліцца, што «хам» галаву падняў, а моладзь наша бязпрынцыпна і на галаве пашла хадзіць; што ён шануіць працавітаго мужыка і рад памаччы яму, але гэта новая беларушчына — дурната і выдумка шалёных, што ён «хама», хоцьбы й вельмі здольнаго і таланавітаго, у радні ня меў і мець ня будзіць»...

Мачыха... Ой, мілы, я баюся пісаць аб ёй. Сам Сатана муціць яе. Баіцца, што «імя яе прыплятуць к скандалу». А кампаньонка паддаець: «Ніхай бы праваслаўны, ну што ужо там, а хоць бы ж роду шляхоцкаго, а то... Сорам, сорам!»

Нічога, Ўладзік, не тужы: на такой зямле, упагноеннай леташнім сумецьцем, — рунь закрасуіць.

Паедзім, Ўладзік. . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

(Ад аўтора: Адгэтуль ужо пісьмо друкаваць ня можна; але досыць і таго, каб паглядзець на дарагіе мне абразы Ўладзіміра і Ядзі. Дай Божа, каб выйшла на праўду, што я думаю аб іхняй будучыні. Веру я:—куюць сабе шчасьця яны і йшчэ некалі, як сьпелые каласы на добрай ніві, закрасуюць на роднай зямлі нашай...).

---

# У лазьні.

---

Вучэнь апошняга кляссу каморніцкаго вучылішча, казённы стыпэндзіянт Клім Шамоўскі к Калядам прыехаў у-двору і ужо другі тыдзень жыў у бацькавай хаці ў роднай вёсцы Мордалысаве.

Якраз у трыццаць першы дзень сьнежня, перад Новым Годам, дзядзька Якуб, дамяўшы сваю пяньку, выпаліў лазьню, каторых у Мордалысаве на 25 двароў ёсць ажно дзьве.

У вечэры Клімаў брат Пархвір напаіў коні, падаваў жывёлі, прыйшоў у хату і пачаў рыхтавацца у лазьню. Знайшоўшы апоркі і сеўшы на калодачку разуваць лапці, загаманіў ён.

— Дзядзька лазьню ужо вытапіў. Гатова. Збірайцеся хутчэй. Ты, тата, бяры вядро і йдзі; тымчасам і я пайду с хлапцамі; трэба па венікі на вышкі узлезьць. А Клім што гэта сядзіць? Ай ты ня пойдзеш сяньня у лазьню, — запытаўся ён у брата.

Клім палажыў на палічку «Нізшую геодэзію» Біка і «Песьні жальбы» Я. Коласа, што дагэтуль былі у руках, нечэга задумаўся, аткінуў з лобу свае доўгіе валасы і троху памаўчаўшы, атказаў:

— Я й сам ня ведаю, іці мне, ці-то ўжо не

пачынаць. Колькі гадоў ня мыўся я у вашых лазьнях, адвык. Але памыцца сягоньня не вадзіла-б: цела пачынае сьвярбець.

— Што ты гэта, Клімачка,—загаварыла яго маці.—Чаму-ж табе не схадзіць у лазьню? Праўда гразнавата яна, вады цёплае саўсім німа, а халодная ў панаўцы на канаве надта мутна, але ўсё ж-такі, тое-гэта папарышся, костачкі паграэіш свае, мо й на душы палягчэіць крыху табе. Ідзі, ідзі, сынок.

Бацька напрануў дублёнку, надзеў дзіравые валенкі і прыстоіў, пакуля Клім выймай с кішэні ключыкі, ножык, партманэцік з грашамі і старым пер'ім «рондо», каб не згубіць дабро ў лазьні.—«Хутчэй!—казаў яму маленькі пузыр, брат Саўка, а ён, атчапіўшы кішэнны гадзіннік, адзягнуў маткіну шубку і выйшоў с хаты.

Лазьня была за гоні ад вёскі, каля заплыўшае канавы, што была некалі, пакуль шчэ паны жыдом лясоў не прадавалі, рэчкай. Ліпела яна сабе на узгорку, і пакуль Клім узабраўся на гэты узгорачэк, два разы паваліўся і абскрабаў аж да крыві руку аб мёрзлы сьнег. Саўка патскочыў каля яго на аднэйназе, падняў яму кавалачак мыла, крыкнуў: «Хор на Бабінавічы!» і шыбка пабег паперад усіх к лазьні. Там ён кумільгом укаціўся у прымыльнік і сказаў дышкантам, як тое рабілі вялікіе басам, або тэнарам.

— Па́ра—лазьня, лёгкі дух!..

Адзін с хлапцоў-сярэднікоў, што прыйшоў туды раней, да Саўкаваго віншаваньня ў адзін тон дабавіў колькі слоў і к слову «дух» прыкладна атпаліў такое слаўцо, што дзед Кузьма

абазваў яго сынам ведамаго усім брахліваго стварэньня.

Клімаў бацька пайшоў к панаўцы, зачэрпнуў асьцярожна беражком ведра, каб не замуціць саўсім, мутнае з лёдам вады, утапіў у ваду бярозавы венік, каб размяк і лепей яго было спарыць, і, схіліўшыся над вядром, пабрыў у лазьню усьлед за Клімам. А той, убачыўшы там старых, каторые распратываліся а іншые атдыхалі на мяліцах, папарыўшыся даволі, сказаў:

— Добры вечар!—і азірнуўся дзе б яму прыхіліцца.

— Міласьці просім! атказаў яму салдат Захар Какста.

— Капеек на восем,—дагаварыў нейкі скалазуб. Садзіцеся во ладнае мяйсьцінка, Клім Раманавіч,—загаманілі голые, барадатые «мужы» ў цямноці, бо сьветла ў прымыльніку паліць, знаць, не знайшлі патрэбным і варушыліся, хто як мог, упоцемку.

Прымыльнік быў плятнёву, і скрозь пляценк дуў вецер. Пад нагамі — мяльлё. Каля сьценак лежалі раскірачыўшы ногі, самадзельные мяліцы. Кліму было гразна, нячыста, непрытульна. З лазьні сюды то й глядзі, выскаківалі чырвоные, што ракі, здаволеные ласуны да парэньня. Адтуль нёсся гул...

«Ліха іх ведаіць, як яны тут мыюцца, — думаў Клім, шукаючы мяйсьцінкі, дзе-б схавацц шубку.

Старые гаманілі пра тое-сёе, хто колько шпал ад жыда звёз на рэку Вяхру і іншае.

«Але што-ж гэта я? Ці я не радзіўся сам у Мардалысаве, ці сам не купаўся у гэтай гразі, не бачыў усякаго бруду?»—так думаў Клім

«Не, гэта-ж я ні злуюся, чаго-ж гэта я?..» І увайшоў у лазьню.

Вачам стала горка ад дыму. Нагам было ёдка стаяць на граздай сьцюдзёнай зямлі. Галава ударылася аб шост. Жарыня была на версі, як у пеклі. Ня можна было нічога разгледзіць.

— «Жчах, жчах, жчах, жчах...» работалі венікі. — «Ого-го-го-го» — рагатаў нехта, лезучы на палок. — «Паддай, паддай... Яшчэ горстачку... ліні паўкружачкі на печ... Братцы, ад'жалейця паўчаўхірачкі... Духу мала, духу німа, гэй духу!» Аж стон лунаў у лазьні. Павярнуцца думаў Клім, — нейдзе: паўнютынька лазьня людзей. На нізу у гразі блазнота.. Іншы плакаў ад дыму, ці йшчэ ад чаго і цёр вочы кулакамі, і плёскаў гразнай вадой. Але й тую яму нехта забараніў браць, казаў: «Злётай прынясі сам. Іншы сядзеў непарушна, ушчаміўшы галаву паміж ног. Той шчыпаўся, той штурхаўся, той жартаваў—мацаў кекаго па вачох, кажучы: «Ці еў балазе?»

— А, та-а-атачка, а а-ай, а до-о-ос! сквірчэў малы хлопчык, як мага, на ўсю сілу, а добры бацька дзержаў за шыю с пэўнасьцю, што агоўтаіцца, і гарачым, як полымя, венікам сьцебаў з усіх бакоў.—«Дай сьпінку, дай жыватокѕ, йшчэ трошку, ну, ну, ну, дурненькі, не плач жэ; дос, дос, ня бойся... Ато, брат, камлём заеду, хочыш,— дабавіў ён ўрэшці і злаяўся. А побач с Клімам два нехалюзых хлопчыкі сварыліся за нешта.

— Во-охці, охо-хо-о—чуць жывы выкаціўся у прымыльнік нейкі дзядок.

— Як тое было, як тое будзіць, ось табе на, крычэў Юрка, і раптам зняцеўку — бах! паўнюсенькі карэц вады на маленькую печ. Аж камяні загурчэлі, засіпела вугальля і с палка пасыпа-

ліся, як бульба, слабейшые. А крапчэйшые, стойка вядучы справу сваю, пільна запрацавалі рукамі.

— Госпадзі, памілуй! Божухна, злітуйся! Мірам Навышнему памолімся, — прыгаварываў адзін у помач рукам, а другі, трэйці, чацьвёрты ня грэбавалі і самай бруднай лаянкай. Аж прыкра зрабілася Кліму ад гідкіх слоў, што насіліся у цёмным, гарачым, свойабразным пеклі — гэтай лазьні.

— Во калі ашалелі мужычкі,—мудрыў салдат Какста, цёпаючыся венікам.

Нехта шукаў на шосьціку сваю кашулю і зваліў у самую гразь чужые штаны.

— Саўка! зьбегай, сынок, вады: гару, саўсім гару... Хутчэй бяжы.. А, Клім, лезь на палок, паўзі, парся,—гукаў Раман.

Клім палез, абпёк ляжку на гарачым палку, плакаў ад дыму і, махаючы венікам, праклінаў, скрыўджэны, і лазьню і тых глуздоў, хто пабудаваў яе такую. «Жывуць-жа людзі»—думаў ён: «Лес пад бокам, жыды у пана адваєзалі яго за даўгі і прадаюць колькі гадоў; і селяне кожнагодна пускаючы на гарэлку рубельчыкі і жывучы сярод лесу, маюць лазьню... каб яна, даруй Божэ, згарэла на чыстым полі гэткая».

— Духу паддайце, гэй, хлопцы! — са скуры пнуўся стары Мікіта.

— Ужывай, дзядзька! Пагрэйся, — атказаў «вясёлая галава, а гнілые кішкі» малец Яхім, і—чох! паўведра на печ.

— Холадна!—упінаўся Мікіта.

— І так гарым, — буркнуў Клім, седзячы каля яго і льючы халодную ваду на галаву. Ён успомніў, што Мікіцёнак Панас кождын дзень

пьецъ «ханджу», як ваду, а Язэп мажыць ею ногі ат прастуды. Успомніў ён, Бог знае к чаму, што матка корміць вяпроў у хаці, і у хаці гразка. Дрэнна..

— Запанеў наш каморнік, пышэн надта Клім Раманавіч, духу баіцца... А мне, мужыку, любата,—крычэў Мікіта.

— «Які тут чорт «запанеў»,—злуваў Клім. «Сьвіньні, а ня людзі»,—думаў ён злосна на ўсё бадай Мордалысава. «Я вёз дамоў кніжкі, каб чытаць ім, а яны кожны вечар, кожна сьвята гуляюць у карты у Мікітавай хаці, а на кніжкі не зьвярнулі ніякай увагі... Шчэ казалі,—разумцы!—што «некалі ім займацца панскім дзелам..» І толькі гэты «сьвяты» Хлімон прасіў пачытаць, бажаў паслухаць што-небудзь «бажэственае» ды бабы гаварылі, каб ён, Клім, прачытаў ім «сьлёзна-жаласна» І што ні ступнеш,—чуіш дурацкае: «Запанеў, запышеў. гардзіцца».

— Падажджы, патрывай, Клім. Пахвір вады чыстае с калодзежа зараз прынясець. Будзем абдавацца.

— Добра, тата, тут буду—сказаў, а сам, не маючы ужо сілы вытрываць шалёнаго жару, пáры і разам холаду каля ног, таксама вялікаго клуму, гоману, лаянкі. выйшоў, як пьяны, у прымыльнік, схапіў адзежу і рупна, як слухаліcь рукі, пачаў не абдаўшыся і с прыліпшымі на целі лісьцямі ад веніка, надзевацца.

«А грэх мне казаць «дурацкае», дзе толькі цемната»,—гваздом сядзела у галаве яго непазбытная думка. «Скуль жа ведаць гэтаму старому вяскоўцу, «прыгоннiку» Мікіці, што ён, Клім, вучыўся не дзеля таго, каб «загрэбаць» грошы, што ён іншы, што ён жа не чураецца вёскі, любіць

яе і шануіць, як родны сын, што ён хочыць кіравацца усімі сіламі, каб бачыць яе цьвярозай, сьветлай, здаволенай жыцьцём ды сумленнай, што ён «запанеў», але зусім не так, як думаіць Мікіта... І лацьвей *ім*,—думаў Клім далей,—стрэляць у вочы «запанеў», ведаючы вагу свае векавечнае працы мужыцкае, а хай бы яны пабачылі боль сэрца і смутак душы у мяне, прымача у «панстві» і пасынка вёскі, і яны лепей паехалі-б с сахою на родные палеткі, чымся адараўшыся ад дзядоўскіх сяліб вісець у новым і невыразным паветры...»

Кашуля не надзевалася, нечым дрэнным пахла. Шапку шукаў Клім і ніяк ня мог знайсці у дакучлівай, прыкрай цемні прымыльніка.

— Братцы, што гэта, я-ж акалеў саўсім: кажыця, хто ўзяў мае штаны, — пытаўся дзядзька Якуб. хныкаючы з лазьні і назад у аднэй кашулі.—Хто тут?—узбіўся ён на Клімавы ногі.

— Я—адгукнуўся Клім і узноў засумаваў.

Старые аддыхалі, седзючы на мяліцах, напратываліся, абуваліся. Гаварылі аб Новым Годзі, успаміналі, што было цікаваго у Старым. Хто ішоў у двору, казаў:

— Дзякую за пару, за дух, за добрую лазьню, хто тапіў, хто й ваду насіў, усім шаноўным паном-гаспадаром. Дабранач!

Клім прыслухаўся к роўнаму голасу старога дзеда Банадыся, каторы бытцым восенны дождж у вокны, барабаніў:

— ...Ато вось, браткі мае, дык шчырая праўда. Чуў я гэта ат самого Панаса Дземянка, што служыў у аднаго заможнаго гаспадара, але, ня тут будзь казана, у вялікаго ведзьмака. Але й казаць мо далей ня трэба?

— Кажы ужо, кажы, зацеваў Мікіта,—ато абцугі прынясём, словы с цябе цягнуць пачнём.

— ...Паехаў Панас нешта раз з гаспадаром у дровы. Прыехалі у цёмны-цёмны лес, якіх цяпер і ня знайдзіш. Гаспадар і кажыць яму; «Ты пашільнуй тут коні, а я хутка зьвярнуся»,—і пашоў некуды. А Панас ня дурэнь, троху пабавіўся ды паціхеньку усьлед...

— Клім, во твая шапка, — шэптаў Саўка, надзеваючы жупан і слухаючы апаведаньне дзеда Банадыся.

...А гаспадар, крыху адыйшоўшы,—кулдык! чэраз пень перэкаціўся і пабег... Чым? Ваўком.— «Ага, думаіць Панас,—грашы Богу, ваўкалачэ»; троху пагадзя і ён перэкулдыкнуўся праз пень і,—да душы ня лгу, сам Панас казаў,—і ён пабег ваўком, але разумеў усё, якбы і чэлавек. Далей зірк ён: выскачыў гаспадар на поле, схапіў барана са стадка ды ў лес. На ліха тут даглядзіў ён Панаса, сцяміў усё, сам перабег чэраз пень яшчэ, і зрабіўся чэлавекам, а на Панаса наклаў такое закляцьце, што той тры гады прабегаў зьверам: раз чуць не забілі яго людзі, бо ён, хоць і прыкра, а еў, каб ня умерці з голаду, што і усе звяры..

Йшчэ далі нешта гаварыў Банадысь, але Клім ня слухаў больш і пайшоў з лазьні.

Быў ціхі вечар. На высокім небі зьялі зорачкі, ліў пазычэным сьветам месяц. Скрыпеў пад нагамі сьнег. «Заўтра Новы Год...»

І неяк невясёла, невясёла было Кліму, «запанеўшаму», як казаў стары Мікіта. Думкі плылі, чэплялісь адна за другую, роем мітусіліся у галаве. Беларусь, Беларусь, чым ты была і чаго

ты во даждала?.» Звінела ў адным баку. І што с табою будзе? плыло ў другім.

А зорачкі блішчэлі так хараша на небі І скрыпеў сьнег... І мерные тужлівые вершы ляцелі з неаткуль:

Мой родны край, краса мая,
С табой на век расстаўся я!..

І задумаўся Клім. І пеялася неяк па іншаму:

Мой родны край, краса мая,
С табою век н я ў з г о д з і я...

Пад ложэчкаю шчымела нешта незнаёмае.

Мой родны край, як ты-ж мне мілы,
Забыць цябе не маю сілы.

І ляцелі думкі. І дрыжэлі струны душы дзіўна-маркотным гукам.

Мой родны край, як ты-ж мне мілы,
У ц я м і ц ь цябе не маю сілы...

«Эгэ-ж, уцяміць, пазнаць, зразумець ніколі ня здоліш»—быў чуцен шэпт. «І хіба!. Што?..»

«Але ж не адрэкацца, ня быць здраднікам, а любіць, шанаваць родную Бацькаўшчыну павінен, доўжан...» быў другі шэпт. «Люблю... ці ж не люблю?.. А страшна яно роднае.. чым?..»

І спархмурнеў Клім, сігаў шпарчэй па скрыпучым марозным сьнегу. Ляцела думка: «Мой родны кут, люблю цябе бяз меры!» і забавілася яна, не ўцекала.

— Ці не захварэла тзая галава, Клім, пасьля лазьні?—спытаўся бацька.

— Палепшаіць,—атказаў сын.

---

# Атрута.

(Кароткі жалобны абразок).

---

Людзі:
- Дзед
- Раман, яго сын.
- Ганна, жонка Раманава.
- Аўдулька 8 г. } Дзеткі Раманавы.
- Косьцік 6 г. } Дзеткі Раманавы.
- Япачка 8 м. } Дзеткі Раманавы.
- Хрысьцёна, цётка Ганіна.

Усё дзеецца ў старэнькай, закопчэнай вясковай хаці. Налева у ёй — дзьверы у сенцы і дальш у вуглу печ і качарэжнік. Ад печы — пол аж да правае сьцяны, у каторай два вакенцы; ад полу каля гэтай сьцяны ідзець лаўка. Перад лаўкаю водаль ад полу — стол, на стале ляжыць нож, а хлеба німа; к столу прыстаўлен зэдлік. Над сталом у куту — абразы с палічкай дзеля сьвечак.

На палу — сувалка, на ёй ляжыць дужа хворая Ганна пад дзяругай. Каля Ганны вісіць калыска на круку, убітым у столь; у калысцы сьпіць малы Янaчка. Пасярод хаты на падлозі — калодачка, на ёй сядзіць дзед, даплетаіць лапаць.

і за пачопку, калі трэба, калышыць Яначку. У хаці надта бедна.

## Праява 1-ая.

Дзед, Ганна, у калысцы Яначка.

Дзед. Божухна-Бацюхна! Ці будзе ж гэтаму калі канец? Пьянства кожны дзень, кожну ноч... Дзеткі плачуць, Ганна хворая ляжыць,— як ей, матцы, глядзець на гэта? А ён? Охо-хо-о... Пакараў ты мяне, Справедлівы Божэ! За грахі мае брудные пакараў ты мяне, бо калісь і я ня меў сумленьня, цягнуў-піў зельля паганае, будзь яно проклятае навекі... (Бярэцца за сьпіну). А-ай, усе костачкі ломюць· Мне, старому бацьку, трэба гараць ехаць во, а ён... ён пьець. Яму і клопату мала. Не-е, сынок, дапьешся, апомнішся, ды каб не было ногды позна... Нікому ніколі ні падаруюцца сьлёзы дзетак, ой, ніколі! А ён пьець, крычыць, бьецца, глуміць, дзіцячы хлеб прапіваіць. Будзе грэх, чую, усімі думкамі чую...

Ну, хіба іці саху прыснадзіць. (Паклаў лапаць, устаець). Эх, Раманька, Раманька... (Да Ганны з ласкай у гаворцы) Ганна! Ці чуіш, Гануля! Мо ты зьела б чаго-небудзь? Хлеба кум Аўрам пазычыў, учорашняе поліўкі з ложку стаіць. Сербанула-б, Гануля!

Ганна (кранулася, гаворыць-стогне). Ці-і Раман прыйшоў с карчмы? А-ах...

Дзед. Зара прыдзіць... Дык зьеш чаго крыху, Гануля. Як жэ гэта, Божа мой, трэцьці дзянёк у цябе крошкі у році не было. Смагу, балазе, прогналаб.

Ганна. Не-е-е... Ня трэба. Касьцючку, Аўдульцы ніхай поліўка. Дзетачкі вы ма-е-е... (За-

гадалася). Сусолачку зрабі дзіцёнку, нечым карміць яго, майго Я-на-чку. (Дзіцё у люльцы заварушылася і закугакала жаласна). Калышы, калышы, та-ту-леч-ка...

Дзед (калышыць). Забыўся сынок на Бога, забыўся. Зьменяў на гарэлку і сумленасць, і сямейку, і ўсё, усё. Што яму? Абы пляшку купіць, а іншае, — цямся яно! На маткіну памяць забыўся: на імшу не даў, а прапіў грошы... Чую грэх-бяду. Доля, доля... Дажыліся... (Мармочыць нешта далей, ня можна расслухаць).

Ганна. Ні-ма, ні-ма Рамана, ня йдзець... Тата! А дзе Аўдулька, Косьцік? Дзетачкі мае-е...

Дзед. Усё чыста прапіў сынок. Мусіць, забыліся на Бога людзі, не дбаюць на Таго, што сьвет Яго. У коршмі днююць, у коршмі начуюць... Ат, што,—бацька-ж дурэнь, бацька нічога ні знаіць, на што яго слухаць?... Ня слухай сынку, ня слухай...

Ганна... Тата! Ці ёсць у нас дошкі на... (с натугай і праз сілу) на тру-ну? Акх!..

Дзед (спужаўшыся). Ня думай пра... пра гэта, Ганна! Божа воля на усё:—на Бога і трэба думаць. (Закалыхаў дзіцёнка і адзеваіць дзіравы жупан). У цябе дзеткі, Гануля, маленькіе. Ось лецячка ідзець, падзівуйся, як вясёла на дварэ, як сонейка сьвеціць, птушачкі прыляцелі, лясок зарунеўся, Гануля... Кінь *тое* думаць... Дзеткі у цябе; што я стары з імі рабіць буду? Мне трэба *туды* зьбірацца. А, а, а ты... Сонейка во, грэіць, а ты, ты... (Убегаюць у хату Касьцючок і Аўдулька; абодвы босы, чуць адзеты; у Аўдулькі жмуток першых вясеньніх белых красак, у Косьціка медзяные грошы).

## Праява 2-ая.

Дзед, Ганна і дзеці.

Косьцік. А у мяне грош! А у мяне грош!

Дзед. Што?

Аўдулька. Ды не: гэта у яго пяць, ажно вун капеек; гэта, гэта... А у мяне вун што,—краскі! На табе, мама! (Кладзець кветкі к матцы).

Дзед. Аткуль грошы?

Косьцік. Каморнік даў... Мама у мяне грош, глянь!

Ганна. Аддай, Косьцік, грошы дзеду. Аддай, сынок. Ён піражок купіць табе... Аддай, дзіцятка, згу-біш... (Косьцік бегаіць, не аддаець грошы і крычыць: «Грош, грош! Каморнік даў!»).

Дзед. Ну кажы нам, Аўдуля, гдзе вы былі, хто грошы даў? А ты, Косьцік, ці-ху! Яначку узбудзіш.

Аўдулька. Мы... мы хадзілі у гаёк вун кветкі ірваць... Там многа ужо кветак... і... і там каморнік ходзіць... З ланцугом, у акулярах, але не страшны. А нейкая труба блішчыць-блішчыць...

Косьцік. А гузікаў жа у яго!..

Аўдулька. І зайца спудзілі! Як пыхнуў уцекаць!

Косьцік. І я бачыў.

Дзед. Ну, ну?

Аўдулька. Мы яму з вёскі вады занясьлі.

Дзед. Каму? Зайцу?

Аўдулька. Не, вун, каморніку. Ён, вун, сказаў нам: «Малайцы!» А як пачуў ад дзядзькі Карпы, што наша, вун, мама хварэіць, дык нешта гаманіў, а тады выняў грошы даў Касьцюку і кажэ: «На, табе, хлопчык, на бублікі».

Ганна. Дзетачкі ма-е-е...

Дзед. Ці падзякавалі-ж вы пану за ласку?

Аўдулька. Мы і яму пралескі рвалі... Я хацела у руку, вун, пацалаваць, дык ён кажыць: «Ня трэба, ня трэба... Я-ж, кажыць,—ня поп і не абраз». І ні даў, вун...

Дзед (успомніўшы). Парȧ, парȧ гараць. Паеду, Косьцік! твае грошы цэлы будуць, дай—я схаваю іх. (Паклаў грошы на палічку перад абразамі, яны с хаты відны). Ну, Аўдулька, прыгледай матку, Янaчку тута калышы, вады мамі падай, калі пабажаіць. Доля наша, доля... Грахі нашы. Пойдзем, Косьцік, і я табе дудачку вырэжу з лазы... (Дзед і хлопчык пайшлі за дзьверы).

## Праява 3-ая.

Ганна і Аўдулька (калышыць Янку).

Ганна (маркотна). Дачушка мая, любінькая, памру я, чую сваю сьмертухну... Слухайся, шануй дзеда. А можэ ж і татка твой апомніцца, агоўтаіцца, піць гарэлку перэстаніць... Даглядай Янaчку, Косьціка.. Дзеткі мае-е... Хараша жыць, калі усё ладна... (Ей трудна гаварыць). Дай піць. (Аўдулька падаець карэц з вадою; Ганна напіўшыся гаворыць крапчэй) Якіе прыгожые красачкі. Каб мне разок яшчэ пабачыць, як жытцо каласіцца, а там... памерці..

Аўдулька (плачыць). Мама, не кажы ж ты так, не кажы пра сьмерць,—мне страшна... Ня трэба нікому уміраць...

Ганна. Ня бойся, дачушка, ні плач... Так ужо Бог даў... Што я сьніла сяньня? Бытцым нябошчыца мама, такая сьветлая, ясная, у беленькай сьвітачцы прыйшла к нам і да таго ж жаласна і сумна кажыць мне: «Ганначка,—кажэ,— галубка, чаго ты так счарнела ды высахла, выпятрыла уся? Рыхтуйся,—кажэ,—бо табе-ж пад вянец пара, заждалася я цябе...» (Маўчыць крыху, сьлёзы коцяцца, як боб). Тут я прачхнулася, і страшна мне, і лёгка-лёгка неяк зрабілася...

Аўдулька. Мамачка, і я памру...

Ганна. Жыві, дачушка. Будзіш мне на могілку кветачэк прыносіць... На Радаўніцу з яечкам прыйдзі хры-сто-са-вацца-а-а... (Горка-горка плачыць).

Аўдулька. Мама! Мамачка!.. (Чутна пьяная песьня пад вакнамі).

Ганна (адыйшла крыху). Нічога, нічога, я так... Што гэта?

Аўдулька (падбегаіць к ваконцу). Тата йдзець! Ай, пьяны, — будзе біцца... (Палезла на пол к матцы).

Ганна. Забыўся на ўсё чэлавек. А некалі-ж кляўся, бажыўся. Ці даўно тое было? І што гэта з ім; ці ні паддаў яму хто? О-о-о..

(Атчыняюцца дзьверы і, дзяржучыся за клямку, хістаіцца на парозі пьяны і, як слова, вясёлы Раман; пяець і прыстаўляіцца пракудай).

## Праява 4-ая.

Тые ж і Раман.

Раман (пяець дальш). За-аўтра, за-аўтра, не-е сягонння,—ко-ожны пьяніца пяе-е... (Спыніўся). Добры дзень тату ў хату! Хвароба ў лес, здароўе ў косьці! Стуку-груку, хто тут? (Ідзець па хаці вугнава прыпеваіць).

Адна думка у Рамана,
Што кішэнічка падрана!
Німа грошы, німа дроў,—
А як выпіў—ўжо й здароў!

Не! Йшчэ адна думка ёсць: каб мая сухотніца паднялася. Ато, калі-і ўжо скрэмсалася! (З ласкай да Ганны). Ганна! Ганначка! Жоначка мая любая! (Тужліва) хварэіш? (Жаласна і безнадзейна). Усё хварэіш... Пара ачуняць! Лепшай, галубка мая, а я, я... Во табе сьвяты крыж,—досі жлуктаць гарэлку! Дос, дос і дос. Маё слова сьвята! Ня буду й ня буду, наўсёды заракуся... (Садзіцца на зэдлік і крыху маўчыць). А дзе ж тата? Дзе Кастусь! (Ніхто яму не атгукаіцца). А? (Пачынае злець). Аўдулька! Куды пайшоў дзед? Чуіш? Злазь адтуль тэйчас, нячыстая калаяніца, а то я табе! Янку калышы! Я вас! Што вы мне? Што хачу—то й раблю. Ось ешчэ! Соткі ўжо выпіць нельга? Што такое значыць?! (Ходзіць—хістаецца па хаці).

Аўдулька (калышыць Яначку). Дзед с Касьцючком пайшоў у поле... Дзед гараць будзе...

Ганна (стогніць). Божухна! Німа сумленнасьці у чэлавека... Апомніся, Раман! Сьмерць мая, дзеткі нашы малые, ах...

Раман. До, дос ужо! Не стагні, не гнаі

ты майго сэрца. Чуў тваю песьню. А тата... Як жэ ён гараць будзе, калі хамут, хамута... Я сам успашу. Ніхай стары ні турбуіцца, час ёсць. Успашым. Не сяньня — заўтра. Сяньня галава баліць, спахмяліцца б, хіба цяпер. Гануля, дзе твая суконная хвустка? дай на сотку! Не сярдуй.

Ганна. Раман!

Раман. Ну што, што? Ну нà, забій мяне! Ну нà, нà зарэж мяне, а дай жэ ты мне на сотку, трэба ж мне апахмеліцца!

Ганна. Пабойся Бога. Раман! На хлеб дзеткам німа; што ты сабе ду-ма-іш?

Раман. Не стагні! Голая костка! Ад заможнаго бацькі браў, а што ты мне у гаспадарку прынесла? Сабаку печэнаго... Во захварэла, падла! І здохніш хутка, падаждж ы.. (Ганна ані слова, Аўдулька пачынае плакаць). Ня румзай, Аўдуля! У матку ўдалася! Заступніца... Я табе пакаж-ж-жу! На калені! Маўчы! Што б твайго духу нячутно было! (Аўдулька ціха хліпае і становіцца на калені).

Ганна. Божа!—(Ташнуіць).

Раман. Сыйду і кіну, кіну... Прападайця тут, хвароба на вас. Ссушылі мяне... Пью,—дык я ж вас і кармлю. Ы-ы-ы! (Скрыгочыць зубамі ад злосьці). Пілуюць-пілуюць, смурыжуць за кожну чарку, ці выпіў ці ня выпіў.. Зьежця мяне! на зло прапьпю, усё прагуляю! Зарэжуся! Задаўлюся! Зарэжуся!! (Хапаіць са стала тупы нож і шмуляіць па горлу; Аўдулька крычыць, Ганна стогніць дужэй. Але нож сагнуўся, і Раман са злосьцю кідаіць яго на зямлю).

Ганна. Кепска мне, кепска мне... Ай мляўка... Сьмертухна мая... Аўдулька, па цётку Хры-

сьцёну... па дзеда... А-а-а... Раман, сьвечку, грам-ні-цу...

Раман (схапіўшыся). Што? Што? Уміраіць? Хіба ж праўда? Аўдулька, бяжы, бяжы, дзетка, па цётку! (Аўдулька пабегла).

### Праява 5-ая.

Німа Аўдулькі.

Ганна. А-а-ах...

Раман. Ганначка, пастой... Што, што ты гэта? Прасьці, прасьці мяне, гэта гарэлка пашкодзіла... (Схіляецца над жонкай). Мо даць вады?

Ганна. Ай, ай... Паткацiла пад грудзі... Вады... (Раман пабег у сенцы па ваду, на сустрэчу зняцеўку дзед; Раман атскочыў).

### Праява 6-ая.

Ганна, Раман, дзед і Янaчка (пачынаіць варушыцца, Раман калышыць).

Раман. Татуля, вады, вады! Нешто з Ганнай... Слаба яна...

Дзед. Цяпер, «татуля!» Апокуль ты, аторва, лежынь ты пятроўскі! (Бярэць карэц і, зачэрпнуўшы у сенцах вады, нясець). Пьянюга, згубіў жыцьцё маладзіцы, дзяцей абяздоліў... (Даець ваду Ганні). Пракляну, дажджэшся, што пракляну, сынок; папомні! (Маўчыць троху). Раман!!! Дзе хамут? Куды хамут дзеваў? Прапіў! Усё у каршму занёс!..

Ганна (напіўшыся). Ох, тата, адлягло-о... Раман, памру я; калі а-а-ажэнішся у-у-удругі— жалей маіх дзетак, ня крыўдзі і не дазваляй крыўдзіць. Кінь выпіўку... (Раман стаіць, утупіўшы галаву уніз, і цяжка дыхаіць).

Дзед. Каня возьмуць за даўгі, каравёнку прадалі, хамут быў—німа. Усё на гарэлку пайшло. Раман, чуіш ты? Зямлю прадам, сам кіравацца буду, пакуль сілы хопіць, а унукаў пракармлю, а цябе... праклянў, калі не забудзішся шляху да каршмы...

Раман. Тата!

Дзед. Да старэцкаго хатыля бацьку давёў! У старцы астаецца, хіба, мне ісці? Ты ж адзін у нас быў, матка як цябе пеставала, а ты як успамянуў нябошчыцу? Горэ ты маё... Вёсначка на двара, жаўранкі пяюць, людзячкі з весялосьцю на полі за сахою ходзюць, а мы, мы праз цябе тут, як у смале, кіпім! Горэ ты маё...

Раман. Тата! Досыць вам, даволі... Апамялюся я толькі і навекі заракуся! Ці мне ж ня тошна? Атруціла мяне гарэлка, згубіла жыцьцё...

Ганна. Ты малады йшчэ, Раман. Устрапяніся. Ці хочэш, крый Божэ, каб і я с таго сьвету прыходзіла да цябе за дзетак спрэчацца, Рамане! Дай мне спакой.

Раман (пацьвярэзеў). Татуля! Ганна! Ці я-ж нічога не разумею? Ці мне-ж ні баліць? — І ці я ж не зарэкаўся? Але ж яна, як тая салодкая атрута... Як тое сьвятло бягучае купальскае, заводзіць яна чэлавека у такую круч, адкуль німа узвароту... Адбярэць і розум, і сумленьне і жаласьць... Ці я ж не разумею, тата? Ратуйця мяне... (Замарыўся).

Дзед. Праўда! Кара Божа, Раманька! Ка-

заў мне пакойны Габрыель: Ня трэба слухаць тых, што кажуць: «Разумны пьець, ды вум не прапіваіць, а дурэнь і вадою абапьецца..» І разумнаго, і моцнаго, і вялікаго пана, і апошняго мужыка, і пісьменнаго, і працавітаго, і цёмнаго чэлавека,—усіх адзінакава, калечыць яна, у ва ўсіх адбіраіць сілы...» Праўда. Бо то-ж кара Божа! За тое, што праз гарэлку чэлавек губіць розум, губіць абраз Божы, робіцца самагубцам... Чуіш ты, Раман?

Раман (ташнуіць праўдзіва). Што мне рабіць? Я німаю сілы, я ні змагу сябе! цяжка мне... Хаджу, як шалёны... Ні хачу іці, ні хачу піць, а... іду і прапіваюся да ніткі... На панахвіду па роднай мамачцы грошы прыблюў і пра-пра-піў-у-ў... (Гудзіць).

Дзед. Маліся, Рамане...

Раман (агоўтаўся ад плаку). Але-ж пры сьпеў мой час... Татуля! Ганна! (Бразнуўся на калені перад абразамі і склаў перад тварам рукі далонямі). Божэ міласэрдны! Ты ўсё бачыш і усё ведаіш! Памажы мне, Навышні! Клянуся Табе, што ад гэтаго часу ніколі...

Дзед (страшна гаворыць). Сынок! Ні грашы. Ні падманяй Бога! Колькі разоў, шмат разоў ты ўжо заклінаўся, бажыўся—і усё дарма.. Дык ня трэба ж! Ня трэба прысягі, калі німа пэўнасьці яе споўніць.

Ганна Раман, не хітруй з Богам! Пакарае-е... А а-а...

Раман (тварыць сваё)... Ніхай буду я праклят, калі з гэтаго часу ня кіну піць паганае атруты да самае сьмерці!.. Ня меў я долі, шчасьця, калі.. (Убачыў на палічцы грошы усхапіўся). Што там? Скуль тут грошы? (Хочэ узяць іх,

але дзед схапіў раней і пашоў да Яначкі, каторы плачыць).

Дзед. Рамане! Бог усё відзіць! Успомні што ты казаў! (Выймаіць спавітога Яначку і дзяржыць яго каля сябе толькі на левай руцэ, у каторай і грошы, а праваю папраўляіць у калысцы).

Раман. Тата! дай, дай грошы, мне толькі апахмеліцца.. Дай, больш ніколі, ніразу ня буду, дай — галава баліць... (Патскочыў к бацьку, і ірвануў з рукі грошы і маланкай пабег за дзьверы; Яначка скаўзануў з дзедавай рукі і грукнуўся галоўкай аб падлогу).

Ганна (усё бачыла). Ай! А-а-а... (Раптам апынулася на падлозі, крыкнула, захлібнулася).

## Праява 7-ая.

### Дзед і нябошчыкі.

Дзед (схапіўшы мёртвае у крыві дзіцянё). О-о-о!.. Што гэта? Божэ! Дзе-ж праўда? Пакарай, Навышні, губіцеля свае крыві і цела, ні дай яму спакою ніколі за сьмерць непавіннаго дзіцяткі.. Німа у мяне больш сына... Праклінаю! Праклінаю!!! (Плачыць, тымчасам шпарка бяжыць, бразнула дзьвярмі цётка Хрысьцёна).

## Праява 8-ая.

### С цёткай Хрысьцёнай.

Хрысьцёна. Сваточак, чаго у вас плак, крык? Што з Яначкам? (Дзіка крычыць). Памёр?!

кроў... А Ганнуся? (Падбегла да Ганны). Няжыва?! (Дзед здрыгнуўся). А Божа ж мой, штож гэта? Прачыстая матка!.. Вады, вады!.. (Пачынае выць). А ма-е ж вы дзе-тухны, а ма-е ж вы любы-е...

Дзед. Кара Божа! (Паклаў к матцы Яначку, схапіўся за галаву, страшна глядзіць на абразы і нешта шапочыць усё дужэй).

---

# Роднае карэньня.

---

I

...А ешчэ трэба паведаміць цябе, даражэнькі сынок наш,—чытаў лежачы на цьвёрдай канапе пасьля абеда, бацькоўскую пісульку студэнт-мэдык Архіп Лінкевіч, — што у новай нашай хаці жыць мы дужа баімся..

Архіп пацягнуў раз—другі папіроску, абтрос попел на бляху, буркнуў пад нос: «Што за дзіва?» і зацікаўлены пачаў разьбіраць далей закаручкі запэцканаго чарнілам пісьма:

...Здаецца ніразу не было таго у нашым сяле, што дзеецца цяпер у гэтай хаці...

— Ну й пісара ж знайшоў бацька сабе, — у голас загаварыў Архіп, ніяк ня могучы разабраць слова ў пісульцы.

Ён ізноў зацягнуўся, вылаяў у думцы пісаку, што ня гледзючы на добры селянскі пачастунак і пяць капеек, так дрэнна пішыць пісьмы, саўсім не чытэльна, і задумаўся аб далёкім родным сяле, аб міленькіх старэнькіх сялібах і садку, што сам з бацькам садзіў колькі гадоў назад.

«Як многа слаўнаго ў нашых вёсках, сёлах,

а тымчасам як яны непарушна-мёртвы у жыцьці. Час ідзець,—ў гары, ў воздусі лётаюць аэропланы, дырыжаблі; пад вадой жывуць людзі, як на зямлі; перэгаварываюцца на тысячы вёрст; даходзяць да таго, што думаюць замаражываць чэлавека на колькі трэба часу і ўзноў аджыўляць яго; усё ідзець шпарка ўперад, толькі нашу вёску, як абросшый мохам камень каля шляху, з мясьціны не скранеш.. Сумна. сумна».

— У дваццатым вяку баяцца жыць у новай хаці. А чаго? — ну, пэўне, чэрці не даюць.—Так думаў-сумаваў студэнт.

...Мы ўжо й папа́ прывазілі і свянцілі яе, але нехта засеў у ёй і не дае начэваць..—прачытаў ён і аж зазлуваў:

— Выдумаюць сабе усякіх дурацкіх здапьнёў ды й, бытцым дзеці, забаўляюцца. Якбы рабіць віма чаго; э-эх!

...У прошлы чацьвер пайшоў батрак начаваць у ёй, бо там халадней, а у старой хаці аб цяперашняю летнюю пару дужа душна ды й мухі спакою не даюць. А лавак у ёй мы шчэ не паставілі, дык ён і лёг на групцы, бо мы цяпер яе ня топім, і спаць там хораша...

Студэнту было троху сьмешна.

...Якое ўжо, не пры нас будзь казана, ліха здалося яму там,—пісалася далей у пісьме, — ці ён, можэ, вечарам з дзеўкамі перэжартаваў, ці часам да Міхаля у карчму зьбегаў, хто яго там ведаіць, а толькі не пасьпелі мы заснуць у старэй хаці, як раптам заляскаталі нашы вокны так, што мы аж адразу папрашнуліся і надта папужаліся. Матка й кажыць да мяне: «Нупрэй, Нупрэй, ці ня біць нас хто лезіць, што гэта робіцца?» А я — шусь! да вакна, гляджу, — ажно

гэта батрак ў ваднэй сарочцы, без шапкі, босы, як адурэўшый, крычыць нема: «Дзядзічка, атчыняй хутчэй!» Атчыніў я вакно, упусьціў яго, а ён трасецца, зуб на зуб не трапляіць...—«Што такое? Што такое?»—запыталіся мы.—«Нехта у новай хаці с печы мяне зваліў.»—«Злодзей, можэ, ды там жэ красці німа чаго», —сказаў я, але батрак кляўся, бажыўся, што у хату чэлавек залезьць ніяк ня мог, бо ён на нач залажыў чэп у прабой, засадзіў кіёк і слісак с клямкі выцягнуў. Ніхто улезьці ня мог... А нехта, нявідзімы, сьлізкімі, як вужакі, халоднымі рукамі схапіў яго за ногі і махануў с печы на мост. І запраўды у батрака быў зьбіты бок і адзёрты аб цэглу рукі...

— Нячысьцікі завяліся там ці што? — злосна смеяўся студэнт і падумаў, што батрак пабіўся с хлапцамі за дзевак і паддурыў старыкоў чартаўнёй, як найлепей.

Архіп устаў с канапы і засігаў па сьвятліцы у задумленьні. Затужыў троху. І ўспомніў старога дзеда Міхалку, на катораго усе казалі, што ён тры гады бегаў ваўкалакам. Сам Архіп некалі даваў гэтаму веру.

— Што за народ наш, беларусы? — у голас задаў ён сабе пытаньне і размеркуваў, што доктарам будзе служыць на Беларусі і будзе зьбіраць матэрʼлы аб духоўным жыцьці свайго народу.

...А надоячы пашоў начаваць ўжо я і батрак, удвух. І так сама прыбеглі ноччу у старую хату, бо я прашнуўся, чуць не акалеўшы, пад зэдлікам, хоць заснуў на зэдліку, а на батрака нехта узваліўся і душыў.

— Незразумела, уцяміць не можна, што за

штуковіна такая, — ламаў галаву мэдык, і на глыбіне яго душы пачалі капашыцца абразы таёмнаго, страшнаго, шчыра-беларускаго..

Не дарма быў Архіп—выліты яго дзед, што да сьмерці заўсёды крэпка маліўся Богу і тымчасам лашчыў, як можна, дамавых, лесавых, вадзяных.

...Мы ужо ставілі у куце й «пратэсы», псалтыр чыталі і псальмы пелі, — нічога, рады німа, усяліўся нехта у хаці і не даець спакою. Ці не параіш ты чаго, а то хоць хату разрый...

Архіп задумаўся йшчэ больш. Дачытаў пісьмо, дзе пісалася ўжо, што кароўкі, дзякаваць Богу, пагулялі, малака даюць многа, жэрабё прадалі Зэліку, патсвінак здох, яблык урадзіла дужа-дужа многа. А потым ішоў цэлы ліст паклонаў «ад белаго ліца да сырэй зямлі».

Студэнт памаўчаў троху, шчэкануў пальцамі і тут жа патскочыў ад раптоўнай думкі — паехаць самому дамоў на гэту чартоўшчыну.

— Яблак, гуркоў, суніц, чарніц, маліны, грыбоў цяпер там... На сенакосі с касою гуляну, як у старыну калісь, з дзеўчаткамі знаёмства старыннае ўспомню,—пацешаўся студэнт,—а старые будуць рады-рады!

Думкі-хмары яго разляцеліся.

— К чорту ўрокі, перэдам учэнікоў таварышам, хопіць грошы, а то ешчэ зараблю у зімку, як-небудзь узнясу за права ўчэньня, а цяпер жэ у нашай вёсцы—сяле закутным—рай!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На другі дзень Архіп ужо тросся на зялезнай дарозі.

II

— Ну й коні ж твае! С крупадзёркі на скуру прадалі ці што? — запытаўся Архіп у балагольшчыка, дзівуючыся, што едуць яны — цішэй некуды.

— А як жэ.. Быц вы тое ведалі, пане Лінкевіч, ведама сто ш крупаджоркі...

— Ну, ну паганяй, а то мы й к раньню не давалачомся.

— Гэ, гэ, гэ! Нэ-э, пасьлі, мае лярвацкі, — зацмокаў жыд, сцёбаючы пугаю па зямлі.—Даеджым, пане, даеджым! Гэ, гэ, гэ... Нэ!

Коні лавілі пугу хвастом, дрыгалі нагамі і гультайліва трасьлі па калюгах балагольскую будку.

Лес кончыўся. Выехалі на поле. Дарога пайшла роўная. Архіп залюбаваўся прыгожасьцю летняго вечэра. Сэрцэ ласуна да красы забілася дужэй у малых грудзёх яго. Наўкруг было так ціхамірна і так па нябеснаму святочна і прыгожа. Цямнела. На захадзі гарэла зара.

— Джу-нгу-у.. паляцеў жук.

— Мэ, э, э... замаркатаў ў гарэ кала балота дзікі баран (чэпік); сеў недзе на купіні.

Абапал дарогі было жыта у копах і на карэньню, што не пасьпелі ешчэ зжаць. С аржанішча нёсся прыемны жытні пах. З логу ціхі, цёплы ветрык тхнуў сенам. На небі паказалася зорачка, другая, трэцьцяя...

— Го-го-го,—кацілася далёка па лесі.

— Трполя, трполя, тпроля — клікаў нехта жэрабёнка.

Чутна у перадзі па дарозі: «Скры-гы-ы...

скрыгы-ы... — вязуць нешта, ці снапы, ці сена, а можэ й хвораст. — «Нэ, нэ! — бадрыць коні паваждай, а яны цяжка йдуць па пылу, толькі: «шлёп-шлёп, шлёп-шлёп» — чуваць здалёку. Чарнеюцца вазы далёка, бліжэй, во, адразу вынурнулі:

— Добры вечар! Ці далёка тут да Белі?

— А вёрст пяць набярэцца.

— З гакам, – дадае з-за возу другі голас.

— Нэ-э-э! — паехалі далей, і ўзноў: «скрыгы-ы...»

На дарозі гоман. Ідуць с поля людзі, за гэткі дзянёк пазамарыліся, напрацаваліся.

С-пад лесу нясецца-коціцца песьня — жняі йдуць ад Хаіма с падзёншчыны. І праца не бярэ маладых, красных на здароўе, круглавідых дзевак... О! песьня; яны паюць:

— Загарэла вячэрняя зара...

А з другога боку ідуць са свайго поля жнеі, там пяюць:

— Добры вечар, гаспадынька мая!..

Маладые, зычные галасы смакуюць сьпеў, і ён рвецца са здаровай душы у дужым, ня хворым целі:

...Ці зрыхтавана вячэрыца твая?

Водгалас доўга ляціць па лесі. Эх! і пагода-ж, пагода будзе на заўтра.

І жнеі, і гоман, і песьні астаюцца па троху.. Праеждҗаюць ціхую вёску; агнёў німа, сабака, нейдзе гаўкнуў і змоўк, у пунях, хлявох жвуць каровы, а гаспадыні старые, што зараней с поля прыйшлі, там з даёнкамі: цур-цур, цур-цур...

Праехалі мосьцік, ярыня пайшла, а на полі цямней, ды цямней. Усё неба зорамі гарыць, дзіўнае, пекнае! Чароўнае хараство разліта ў ём...

— Драў, драў, драў,—сквярэцца драч; і ён сьціх. Ціха-ціха..

Не, во чуваць збоку шчэ,—павялі нашлеж-нікі коні ў лес пасьвіць. Смяюцца, рагочуць, жартуюць. Нейкі скалазуб сумысьля вугнава за-цягнуў прыпеўкі:

Не хадзі ты па балоту,
Не мачы ты ног, ног...
Не любіся з багатою,—
Не паможыць Бог, Бог...

— Ай-я-я-я, я-я-я,—якочыць, прыстаўляец-ца каторы-то хлапчук.

Багатая—гарбатая,
А к таму-ж і пышна,
А бедная дык чэсная,
Як у садзі вішня.

— Трым-трым, трым-трым,—у тахт басуюць другіе хтопцы, вясёлые, радые.

Усё ў полі супакоілася. А ні гука. Архіп быў ў добра-дэлікатным настроі. «Краіна родная мая...» — марматаў-пеяў ён ціхенька і думаў-ду-маў, што будзе праз дзьвесця, трыста, чатыры-ста гадоў тут, наўкола? Калісь тут лясы былі драмучые, непраходные, у лясох людзі пням ма-ліліся і жылі са сваей доляй-няцоляю. Ішло жыцьцё, высекаліся лясы. Загарцавалі па тутэй-шых мейсцох людзі ваенные-ратные, шмат костачэк маскоўскіх, польскіх, казацкіх палягло, «паміж пустак, балот беларускай зямлі...» Швэды, фран-цузы знаходзілі сабе тут вечны спакой. Божэ, Божэ, як гэта ўсё страшна і цікава!

— Паніч,—загаварыў балагольшчык з нейкім жахам,—вы, мусіць, ведаіця, што ў гэтым балоці, што на лева, калісь-то у даўные гады цэлы го-рад за нешта праваліўся скрозь-доньня. У ноч

Купальскую чутны званы пад'земные, а каля кургана, гдзе манастыр быў даўней, іншые чулі, як манахі у скляпох абедню правюць...

— А хто ж гэта чуў?—запытаўся студэнт.

— Усе. Як гэта-хто? Каму траплялася познай парой бываць тут, апынуцца... Бывае так ешчэ, кажуць: агонь нейкі над балотам бегаіць. Ты за ім — ён ад цябе, ты бліжэй — ён уцекаіць. Сіненькі такі, невялічкі аганёк. Кажуць, грошы схавана тут багата пад нейкім вялікім закляцьцем.

Не дакончыў балагольшчык свае гутаркі, як далёка на полі паказалася на самай зямлі полымя... Гарыць нешта... То шугае ў верх яно, ў бок, то бяз сілы зьбегаіць уніз.

Чорная сьцень, як чэлавецкая фігура, прабегла па ём раз-другі.

Праз некольні часу полымя ўспыхнула у другім, у трэцьцім месьці...

Балагольшчык змоўк ад страху. Коні вышэй падняли галовы і закруцілі вушамі. Сам Архіп пачуў, як закалацілася у яго сэрцэ і прыліплі на лбе валасы.

— Што за глупства?—у голас загаманіў ён,— каб разумна абмеркаваць, аткуль, жа тут агонь у стольніх мейсцах: нашлежнікаў на парыні быць ня можэ, а ешчэ што ж?

Балагольшчык ціха зацмокаў на коні, дыргануў вожкі і нешта ціха шапнуў коням, а тые пабеглі шпарчэй.

Архіп задзіўлена глядзеў у поля, ў цямноту.

— Ось так чартаўня. Ну й ўцям тут, што за справа. І калі мне робіцца неяк ня добра, то што-б было з нашым батраком? І чэрці здаліся

б,—раздумляў студэнт, каб неяк выбачыць сабе сваё спужаньне.

Ён йшчэ доўга, доўга углядаўся на полымя а яно было ўжо цішэй, не шугала так у гару і патроху знікла саўсім.

Балагольшчык маўчаў, пакуль не пад'ехалі к самай хаці Лінкевічаў. Там ён, узяўшы грошы і пажадаўшы спакойнае ночкі, дабавіў неяк нечаўменна:

— Ды й зданьнё ж! — і паехаў начаваць к Міхалю у каршму.

III

Архіп спаў доўга і смашна. Ноччу сьніў нешта, хто яго знае, якое, але прачхнуўшыся нічагусенька ня помніў. У хаці нікога не было, толькі чутна — у прысценку за дзьвярмі матка ляпала у качарэжніку вілкамі. Блінамі пахла... Санійка гуляла снапамі сьвета па настольніку і па стаpэнькіх абразох. У куце гарэла лямпадка. На вуліцы, чутна, гаманілі, седзючы на бярвеньні, старые і хлопцы.

«Ага, сягоньня-ж сьвята»,—успомніў Архіп, пацягнуўся і сеў.

— Ці ўжо прачхнуўся? Паспаў-бы ты, сынок болі: з дарогі замарыўся,—гаварыла маці за сьцяною.

— І так выспаўся, як пяньку прадаўшы,— вясёла адгукнуўся Архіп і пачаў адзевацца.

У галаве таўпесіліся думкі аб горадзі, таварышах, вуроках, к ім падбаўлялася дзіваваньне, што за зданьнё ўчора было і якая чартаўня

завелася у новай хаці. На серцы было ўсё-ж-ткі радасна і спакойна ат цёплае вясковае абставы.

— Ну й сыбірнікі, расколы!.. На галаве пачынаюць хадзіць, — голасна і сурова загаманіў нехта на вуліцы, падыйшоўшы к кучы мужчын.

Архіп прыслухаўся.

— А што? Чаго ты? — запыталіся у сердзюка.

— А што-ж? Ну, ці можэ гэта быць? Семдзесят гадоў на сьвеці пражыў, а гэткае пракуднае ды й па праўдзі паскуднае зьявы не бачыў. Вы тут во сядзіцё і нічога ня ведаіце, а ў полі ноччу німаведама што парабілі арыштанты нейкіе. Янка! Схадзі ў поле, пашукай барон сваіх... І ты, Самусь, і ты, Гаўрыла...

— А што? Якое там ліха шчэ з баронамі?

— А такое, што нейкіе шэльмы іх ноччу спалілі.

На вуліцы падняўся клум, крык, гоман.

Архіп уцяміў.

— Дык вун там якое полымя шугала. Добрае зданьнё!

Тымчасам матка накрыла ўжо стол, палажыла бліны, паставіла скавараду з яешняю.

Прынёс бацька паўбутэлячку, і хоць не хацелася грашыцца старым (абедня ешчэ не адыйшла) але дзеля дарагога любаго сына і яны селі сьнедаць.

Пацекла бязконцая, прыемная гутарка аб тым, аб сім і аба ўсім.

## IV

Доўгі дзень прайшоў—і ня угледзіць калі. Схадзіў Архіп у поле, пабыў у лесі, даведаўся дзе-каго з бліжэйшай радні, абгледзіў сад.

У вечары ён захацеў безпрыменна іці начаваць у новую хату. Узяў кажух, табаку, падушку. Бацьку таксама пажадалася пайці с сынам: пайшоў і ён.

Новая хата была у канцы саду, недалёчка ад шляху і блізка к рэчцы. Пабудавана была добра; Архіп ладна зарабляў леташні год вурокамі, у сябе грошы меў і ешчэ сабраў бацьком на хату.

Пайшлі, агледзіліся. Бацька паклаўся на халодненькай грубцы, а студэнт лёг на лаўцы каля вакна. Дзьверы ён запёр, а вакно, дзе лежаў, атчыніў для сьвежаго паветра.

Пад вакном шамацела лісьця на ябланках і дулях. На небі зьбіраліся хмары, нейдзе далёка-далёка бліскала маладня.

Архіп закурыў, расшпіліў гузікі і адвярнуў каўнер кашулі, каб не было так душна.

— Архіп, не забудзься ж ваконца зачыніць.

— Добра, тата.

Бацька прывык уставаць рана, з вечара хутка заснуць мог.

І цяпер скора захроп.

Архіп лежаў, курыў і думаў...

«Як, ў істоці, ўсё каля нас дзіўна, неясна. Навука? Ну што ж навука? Яна, скажэм, дае малюпаценькіе атказы, якім парадкам робіцца што ў прыродзі. Ну і ўсё. Наўчоные людзі падлічылі, колькі важыць земля, ці далёка ад зямлі месяц, сонцэ; яны ведаюць, па якіх дарогах бегаюць плянэты, а ніхай дадуць яны атказ, хто пусьціў іх у гэткі гармонічны ход, ніхай яны знайдуць Першапрычыну усякае істоты. Навука ведаіць, што за жывучкі, няўгледные простым вокам, робяць хваробы, яна ведаіць, што ужы-

ваюць клетачкі, с каторых складаюцца людзі, жывёла, расьліны, але што ж? Як бы даў атказ, ён, Архіп, студэнт-мэдык, на пастаяннае пытаньне у «пісьменных» людзей дзядзькі Якуба: «Чаму чэлавек расьцець-расьцець гадоў так да дваццацёх, а далі як ты яго ні кармі, у росьці не прыбаўляецца. Здаецца і есьць таксама а другі і смашней, чымся змалку, а росту німа такога як раней. Што за прычына? Эге ж. Наўчоные ведаюць цяпер, як чэлавек зараджаецца, с чаго ён складаецца і многа чаго іншаго уцямілі. А ніхай жэ во яны самі набяруць з зямлі, чаго ім трэба, і створаць чэлавека. Не, навука ніколі не дасьць, бо ня можэ даць, атказу на праклятые пытаньня. Ды ў яе і цэль зусім іншая».

І Архіп успомніў, як ён з вялікім жарам і шчырай ахвотай пачынаў вучыцца, бо думаў, ды што думаў, — крэпка верыў, што у кніжках усё ёсьць, кніжкі ўсё раскажуць, ня толькі, як яно, але і аткуль яно?

І ось ён «укусіў» ад кніжнае мудрасьці... Папраўдзі, знайшоў такіе і гэткіе атказы, але ж, — Божэ! — пэўнасьці аніякай німа, німа. Хто даў гэтые атказы?

— Тые-ж людзі. Угу! — Бог адзін, а вер колькі на зямельцы Божай?

Архіпу было сумна і неяк трывожна.

«Мы ня ведаем, што будзе пасьля нашае сьмертухны, а на гэтым сьвеці на ўсё адгадкі найсьці *ня можна*, шукай ні шукай. І шчасьліў той, хто мірыцца лёгка з гэткім будаваньнем жыцьця, або хто бадай што ня думаіць аб гэтых «шалёных» пытаньнях, ці ў беганьні за кавалкам хлеба забываіць аб іх, шчасьліў ён. І горэ, вялікае горэ таму, хто захочэ хоць на адзін момэнт,

адным вокам зірнуць на той бок заслоны! Яму адзін шлях к разгадцы, шлях страшны і, глаўнае, ня пэўны, ня пэўны шлях, і гэты шлях — сьмерць».

Закурыў другую папіроску.

«І то йшчэ дзіва: ніхай бы людзі дэлікатные, чуткіе, не запрацаваные ат цяжкае працы, ніхай бы яны гібелі ад гэткай мукі; дык не, дык жа народ просты, народ, каторага лаюць «цёмным», чаго ён, гэты шэры, аднатонны народ, па глухіх кутках, у лясох сваіх, сярод балот і пнёў, чаму ён мучыўся і мучыцца ат тэй жа болькі?»

Архіп зачыніў вакно. Яго пачынаў ужо марыць сон. А усё думалася: «Нічога ня ведаем, ня ведалі і ведаць ня будзем...» Сэрцэ пачнець біцца дужэй і сьціхніць, а нешта чорнае, вялікае станіць прад вачамі, нейкіе узоры мітусяцца, і так добра, ладна лежаць. Навука, чэрці, зданьнё... Нічога ня ведаем... Бог, чэрці, душы... Ня ведаім...

І Архіп заснуў.

І на дварэ глуха грукатаў гром і бліскала, то й глядзі, маланьня. Зьбіралася бура. Яблынкі гальлём: «шу-шу-шу...» — ціхенька шумелі.

Архіп спаў.

## V

Лес гулка гаманіў. Макухі дрэў трывожна, неспакойна так нахілялісь то дужа хутка, то паважна адна к другой і шэпталі нешта сваё, лесавое. Дарожка паміж густых елак ўсё вузела і вузела, а ні прайці, а ні пралезці, а ні прадрацца праз калючые зялёные йголкі.

Сухое дрэва страшна і балюча скрыпала, бытцым выказвала бяду, і горэ, і усякае ліха. А ешчэ далёка, далёка..

— Баў...—гудзіць звон на колькі вёрст упярадзі, гукаіць к сабе, завець, клічэ. А як жэ дайці туды?

— Баў, баў, баў, дзілінь-дзілінь-баў,—дробна аддаецца у вушох. Шуміць лес. Зарагатаў злый дух, заплакаў жаласна закугакаў і зьліўся ў аднэй жудасна-сумнай песьні скрыпучаго дрэва

Блішчыць аганёк пад кустом, во-во другі пад старою бярозаю, а во трэцьці каля чорнаго пня, во й яшчэ адін, яшчэ, многа, многа, зданьнё...

«Што гэта я? — думае сабе Архіп, — то ж чэрвякі купальскіе сьвецяцца: чаго-ж баяцца мне? Пайду на звон шпарчэй, нанач дабяруся, дацягнуся»

— Троп, троп, хр... гкрдзбдзр.. кажан каля самюсенькаго вуха шпорквуў.

— Цзы-ыць, цзы-ыць...—без канца плачыць аб нечым камарок здохленькі і не даець спакою.

Зайшлося сэрцэ у Архіпа: схапіў ці не схапіў кажан волас з галавы у яго? Занясець ён той валасок на скрыпучае сухое дрэва, зашчэміць яго там паміж скабак калючых... І будзе сохнуць як дрэва тое. Архіп: датуль будзе хварэць-прападаць, пакуль дрэва скрыпець будзе; заваліцца, бахне аб землю яно, — і Архім памрэць.

Расступіўся лес. На палянцы стаіць Архіп. Бачыць: што гэта? — Хата іх новая перад ім на аднэйназе круціцца, скачэ, верціцца..

«А – а, гэта я сон бачу, гэта я сьню ўсё..—

уцяміў Архіп, — але ж які дрэнны сон, хваравіты. Нячысьцікі мусіць, кіруюцца спужаць мяне, што ня веру ў іх, — сьмешна яму стала дужа. — А хораша спаць, німа ўжо зданьнёў».

«Скрыпела дрэва нейкае? — прыпамінаў Архіп, — ай. не, тож бацька на печы храпець сабе».

«Засну крапчэй, — падумаў ізноў. — А гдзе ж музыка чутна такая жалобная-пакутная».

«Ай, я-я-яй...» — ташнуіць Архіп. Жалі, болю, суму, тугі непазбытай у тых гуках дзевацъ некуды, а музыка ўсё бліжэй ды бліжэй.

Грае-грае ліра старэцкая аб часох мінуўшчыны-старадаўшчыны. Сьпеваіць сьляпы старэцмузыкант, перэбіраіць не хапаючыся па струнах тых, гучна-маркотных...

А ня струны гудзяць-пяюць тое, а чэлавецкіе галасы чутны там. Далёка, у гору, думна так у паднябесься падніmаіцца голас сярэдні, ні таўсты і ня тонкі, не слабенькі, аб нейкай долінядолі сьпеваіць ён, плачыць, плачыць, галосіць, уніз спускаіцца, клоніцца, ў адзін енк-плак зліваіцца з другім, таўсьцейшым, дужэйшым нездаволенным голасам, што ня хочэ бачыць, як крыўда-няпраўда на свеці пануе... А трэцьці, чутна, кволенькі галасок, як дзіцятка малое заходзіцца-заліваецца, да Бога і Маткі Прачыстае шлець у тонах чудоўных мольбы-прозьбы дзіцячые-простые-чыстые...

Штосьці падымаіцца на сэрцы у Архіпа ад музыкі гэтае: плакаць, стагнаць, сьлёзы ліць жадаецца, думкі любые выплакаць-выгукаць бажаецца, і млосна-мляўка так робіцца... Шчыміць у грудзёх маладых, жалка, жалка, усе людзі добрые, ладные, любые, а як мучуюцца бедные!..

У спрэчкі с чорным страшным-неправым

ідуць музыкі-скамарохі у граньні сваём, — і кіпіць-бьецца сэрцэ хлапецкае... Эх! Пайці і сілу сваю на ўвесь сьвет паказаць, прагнаць крыўдзіцялёў, вытурыць іх ад людзей бедных, шчырых, змірных і пакорліва-прыяючых, людзей родных і балюча-скрыўджэных.

І добра на зямельцы будзе ўсім! Усе родные, радые, усе дужые, ладные. Сьвеціць сонійка, а ў гайку птушачкі пяюць вясёла так, ладненька, а красачкі цьвітуць, пахі-араматы прыёмные любые носяцца, шуміць жытцо высокае, доўгакалосае, шэпчыць думу сьвятую, ціхую каласамі буйнымі, падзяку пяе працы мужыцкай, а не «мужыцкай»,—селянскай працы, справядлівай...

А у хаці відней ды відней, але скуль жэ сьвятло гэта прадзіўнае? І музыка дужэй усё чуіцца, шырыцца яна і бліжыцца.

Чуваць ужо і сьпевы хаўтурные, цяжка — ціха-плакучые. Выіць нехта, заходзіцца... дзявоцкі плач то, няўцешны, пэўне што.

Зірнуў Архіп на хату, бачыць—падлога каля печы расступаіцца, і выходзіць, падымаіцца труна аграмадная с пакрывамі чорнымі. То падымаіцца, то схаваіцца; то падымаіцца то схаваіцца...

Валасы дубам у Архіпа становяцца. Хочэ ён падняць галаву, пабачыць лепей труну страшную, — цяжка, галава не падымаіцца. Хацеў рукою крыж на сябе палажыць,—рука, бытцым палка, не шавеліцца. Крычаць-гукаць, ратуйце звать памкнуўся ён, — а ні каліва голасу німа, як і небыло яго ніразу, толькі дух цяжкі у рот набіраецца, паветрэ сьмярдзючае увакруг ўсюдых.

Добра сьпіць Архіп, дзіўна сьпіць Архіп.

А на дварэ маланьня бліснула вялікая, вострая, жудасная, загрымеў гром, па ўсяму небу вялікі грукат-грымот пайшоў, у самые далёкіе канцы глуха і дробна пакаціўся, пасыпаўся і раптам: трах-тара-рах-рах... — трэснуў-стукнуў пярун.

Ірвануўся Архіп з усіх сіл сваіх, з усіх жыл сваіх, і праз страшны сон з лаўкі на зямлю паляцеў, больна аб мост урэзаўся.

Прашнуўся Архіп: смольлю пахне, гарыць нешта, бацька с печы саскочыў, крык падняў.

— Сыночак, Архіп! бяры падушку: пярун, знаць, ударыў, гарым...

Аглохшый падняўся студэнт сярод гулу вялікаго. Добра йшчэ -- не ў хату, а ў сенцы полымя адразу сьвіснула. Высадзіў Архіп бацьку у вакно і сам скочыў, а полымя ужо у вокны с сянец так і лезе-ірвецца, адразу усе вуглы абхапіла, во ўжо і ў хату кінулася...

— Баў, баў, баў... — зазваніў вартаўнік у званьніцы.

— Тата, татуля, табе не пашкодзіла? — Архіп у бацькі запытаўся.

— Не, дзякуй Богу, а нісколічкі. Толькі звон у вушах, аглушыла троху. Ну ці трэба-ж ткі гэта! А Божухна, а во-хці, а вой-я...

— Татка, куды-ж ты?

— А? гэта я дзівуюся, як шугаіць, пойдзем, ідзі, ато матка убачыць, спужаіцца, ці жывы хоць мы пазаставаліся?

— Пажар! Пажар! Ратуйця! — крычэў ужо нехта на сяле. Заварушыліся людзі, зьбегаюцца.

— Гдзе, хто гарыць?

— Новая хата у Лінкевічаў.

— Ці там?

— Няго ж—не, вун, ай-ай...

— Падзівуйся, во шугаіць, і помачы не дасі.

— Якая тут помач: пярун чорта забіў.

— А маўчы ж ты, ай сказіўся? Проці ночы...

— Добра, што водаль двароў пабудавалі: на сяло не перакініцца.

— А не, ніхай Бог крыіць.

Немалые клубкі дыму чорна-сівога выбіваліся праз стрэху новую саламяную, чырвоные язычкі полымя са хцівасьцю і прагавітасьцю рупліва лізалі бярвеньня, кідаліся ў бок і наводзілі сваёй маўклівай і незразумелай руплівасьцю-рухавасьцю думку аб вечным і безатказным, думку: аткуля ўсё і што яно?

Сьцены трэскаталі і абваліваліся патроху. Бура прайшла. Дзікі віхор зьмяніўся ціхенькім, прыяйным ветрыкам. Зашамацеў па лісьцю дожджык. Далёка, за панскім лесам, бліскала заціхаючая маланьня.

— Ну скажы ты! Бог ведае, к чаму й што? І гэта здарэньня: пярун ударыў, людзі жывы асталіся, а хата згарэла. Мабыць і стары Лінкевіч ня будзе надта клапаціцца па ёй; згары лепей яна, чымся цярпець у ёй гэткае страхацьцё. Злыдні у ёй былі-ткі.

— Ай, не гавары ты, кум; можэ тое праўда, а можэ батрак набрэхаў, што яго с печы скінуў нехта. Хвароба яго ведаіць.

— А сам Нупрэй Лінкевіч? Ён жэ сам казаў, што засьнець на зэдліку, а прачхнецца пад зэдлікам.

— А мала што биваіць. Зэдлік вузкі, нізкі, вось і зваліўся стары.

— Ну, браце, тут ні так... Пачуў бы ён.

— Што, ці я ж не казаў? Як вільчылі гэту хату, дык ішоў нейкі старэц. Ну ладна; майстрам давалі гарэлку, — трэба, калі па гаспадарску, і старцу б даць, пачаставаць. Не далі: пэўне і патчараваў. У яго вочы такіе чырвоные, чараўніцкіе, kроўю паналіваліся. Я так і падумаў, што ён ведзьмак, што не падаруіць.

— А дось табе, дзед, лухту пароць. Патчараваў, патчараваў... Ешчэ што, выдумай.

— Думай, як сабе хочэш, дзіцятка, а я добра ведаю што яно так.

— Дык жа вот, гадоў дванцаць назад, як асінавым калом прабівалі, ня тут будзь казана, што выходзіў з магілы kроў ссаць, нябошчыка. дык гэта...

— Не гавары... Ноч цяпер, бура, гай-магільнік недалёчка, дось... ня гожэ, не варта. Як слова, ня ведаіш?

— Пойдзем, браткі, спаць.

## VI

Ужо с паўмесяца пражыў Архіп у дварэ сваім, у роднай старой хаці бацькаўскай.

Грошы-страхоўку выдалі за хату, што згарэла, але каб лес купляць і не говарылі пакуль што: задумалі селяне на хутары выйці.

Людзей прадпрыімных, рухавых і здольных душыла жыцьцё абчэственскае. А ні палепшэньня якое у полі зрабіць, а ні лепшаго сорту жыта пасеіць, а ні дабрэйшую жывёлу прыдбаць. Трэба было з аборкаў ваду спусьціць у парыні: селяне рупные згодзіліся, а гультаі і тые, што

на сваёй зямельцы не жывуць, а пастухамі, батракамі, лесьнікамі у паноў ды жыдоў жывуць, упнуліся, не далі праз свае шнуры канаў капаць. Што ты з імі, мала-ўчонымі, рабіць будзіш? — «Возьмем уругу *) у пана братцы, — казалі добрые гаспадары,—жывёла на парыні, як на бубачках, як на таку, ходзіць, што яна зьесьць там, якую трасцу?..»—«А на якое ліха мне твая уруга, калі у мяне адна карова? Дзень як-небудзь і на парыні прашлындаіць без пашы твае, а к вечару жонка мех травы с панскаго лесу прынясе ды накорміць, і ўсё тут», — раззбіваюць увесь саглас вузкашнуровые, атходжые ды рохлі-гультаевічы. А за кожную драбніцу брэшуцца, за шкоду няўмысную і незаметную лаюцца, як агалцелые.

Эх, бяднота, бяднота, бяднота!

Да чаго ты даводзіш чэлавека! І жалка, горка, і крыўдна ..

З лепшых людзей робіць цар-голад зьвяроў, сумленьня ні маючых.

Пачалі селяне варушыцца, аб хутарох зюкаць.

Архіп нічога пра тое с селянамі не гаварыў, баяўся: пачануць апосля дапекаць бацьку. «А—а, твой сын падбіў на хутары, панам зрабіўся, папанску жыць захацеў; будзіць доктарам, накалупаіць грошы і скупіць хутары гаспадароў бедных, занепаўшых, будзіць маёнтшчыкам, жывадзёрам».

Як агня, баяўся такіх гутарак Архіп і жыў у бацькоў ціха, змірна, у гаворкі вялікіе ня лезучы.

Радавалася сэрцэ старога бацькі яго, як пой-

---

*) Уруга—паша.

дуць на сенакос яны: хлапец работнік Восіп, сын і сам стары Нупрэй.

Сала возьмуць, бліноў матка напячэць, вады у бітлажцы набяруць, выйдуць у трох на дзесяціну у Дуброўках, у паноў гдзе сенакос купілі.

Восіп уперадзі, а студэнт ззаду не паддаецца, гопар маіць. Толькі й чутно: «Ўжык, ўжык, ўжык»...

Скіне студэнт і брыль з галавы, і расшпіліцца, і расьпераджэцца, хочыць плячо-ў-плячо з работнікам хорошым іці.

Вясёла! Вецер сарочку паддуваіць, халадзіць. Скакунцы: «стрык-стрык, цырр»... песеньку пяюць. Пад кустом жупаны ляжаць і песчанка з бруском стаіць і Разбой іх сьцеражэць, зьвіўся там. Бяроза сцень кідаіць халадок даець. Пакошэнай травою прыемна пахніць, а наўкола красачак прыгожых і стаіць і ў пакосах ляжыць мнэга-многа!

Стары Нупрэй сядзіць сабе на пні ды: «кляп-клёп, кляп-клёп»—касу клепіць і радасна на сына пазіраіць: малады, вучоны, прыгожы і добры такі. Сам земскі, сам к яму з рукою здароўкацца першы патходзіць. І мужыкоў, сваіх людзей, сынок не чураіцца, земляка, калі трэба, усюдых абароніць і чужога ня скрыўдзіць...

Добра і студэнту забыцца на думы гарадзкіе – сівые, паэзіей народа роднаго пачаставацца, душу засмучоную ажывіць

І толькі зданьні гэтые... Пытаньня дрэнные.. Туга тая... А што! Нічога, нічога .. До. Ці ні дапытаца Восіпа, хто кідаў яго? Ці ні пайці на могілкі са стрэльбаю начэваць?

Хву! сьмешна...

Але у чым жэ справа, і чаму яны ўсе маўчаць аб тым, як ён прыехаў?

Яны спакойны: яны ведаюць, што нячыстая сіла ёсьць, але калі яна не дакучаіць, то ім і дзела мала да яе Што ім даходзіць, аткуля яна?

Ды й студэнту неяк усё больш не на ўме тое, таёмнае. Некалі за працаю ці-то за чым другім У вясковым жыцьці некалі, можэ? Бяжыць час у роднай хаці

Згарэла тая хата, і зданьні забывацца сталі. Ат, проста прыдалося бацьку... Ну? А Восіп сьмяецца. Напаіць яго, каб праўцу сказаў? А некалі неяк усё: то тое то другое і зданьні забываюцца. Ды Архіпу не саўсім. Чаго жрыехаў? А вось... бацкоў даведацца. Люба тут! Люба жыць сярод працы сьвяцейшай усіх прац: працы земляроба. Люба мець здаровае цела і здаровы дух А і тут дакучаюць «пытаньня шалёныя».. А бываіць, ды ну іх! не да іх, некалі. Папрацаваць, аддыхнуць, пажартаваць, і зноў узяцца за працу прыемную. Ня ў горадзі, у сяле. Люба тут. Люба у вечар цёплы, і ціхі, і добра-пагодлівы снапы вазіць. Люба раніцай у рацэ, у рацэ з вадою лёгкаю, ня дужа халоднаю пакупацца. А днём гуркоў у градах пашукаць, пасмакаваць, або яблак салодзенькіх, мядуначак невялічкіх пакаштаваць. А ў-раньні у сьвяты дзень ўстаць і ў лес пайці, грыбоў насабіраць (мо лясьнікі не абдзяруць), а потым — у цэркву, у госьці пайці, а вечарком, скрыпку узяўшы, на вуліцы пад хатай пасядзець, сыйграць скокі-танцы ды песьні весялушкі розные. Іграіць Іван на гармоніку, а Цімох на дудцы мастак; танцуіць студэнт з дзяўчынкамі хахатушкамі, саромліва сьмелымі, здарова прыгожымі.

Ідзець час, зара да гораду рыхтавацца пара... Сумна тады робіцца.

А толку пра зданьнё-страхацьцё так і німа. І бацька с сынам не ахвотна гаворэ ўжо пра тое. Баіцца за сына ядынаго, дрыжонаго. Бо баіцца стары, што надта пачаў цікавіцца сынок незразумелым, таёмным, страшным, няземным.

* * *

— Ой, Нупрэй, паглядай за сынам, — гаворэ сват Яхім, сівы разумны дзед: — пара яго апаслівая-маладая. Ніхто шчэ лбом сьцяну мураваную прабіць ня здалеў, а галовы разбівалі многіе, ой-ой, многіе, як падумаіш. Вялікіе навукі прайшоў Зроіл Давыдзёнак, што ўсё на глаўнаго рабіна навучаўся, а пачаў задумывацца, пачаў, — і ось табе на: ў аднэй доўгай кашулі ходзіць цяпер па Шамаву с кійком, галавою круціць ды усё нешта гамоніць, бурчыць сабе пад нос: «Адэной, Адэной, адгукніся Зроілу. Гдзе ты схаваўся ад Зроіла? Ага, ага, ну німа нічога». Аж страшна становіцца. Такі разумнейшы за ўсіх жыдоў шамоўскіх быў, а во адурэў, бедачэ, ад гэтай думы заўсёгдашняй.

Бярэжч треба Архіпа: мала з нашаго селянскаго роду у людзі наўчоные выходзюць, а калі й выйдзіць каторы, дык барані Ты яго, Божухна! Бо трудненька такому адразу прыросць у іншым стане людзей, паркалёвых людзей. Праз тое трудненька, што як-ніяк, а роднае карэньня глыбока сідзіць у ём. Ось і мучаюць яго пытаньня розные: чаму я—пан, а брат мой, брат, каторы сто раз больш мяне працуіць, пот льецць, у катораго рукі ў мазалёх і закарэлі, каторы век сумуіць ды гаруіць і ў гарэлцы душу топіць, думы заліваць, гэты брат, родненькі сын мае мамачкі роднае,

Аўдулька. Не, вун, каморніку. Ён, вун, сказаў нам: «Малайцы!» А як пачуў ад дзядзькі Карпы, што наша, вун, мама хварэіць, дык нешта гаманіў, а тады выняў грошы даў Касьцюку і кажэ: «На, табе, хлопчык, на бублікі».

Ганна. Дзетачкі ма-е-е...

Дзед. Ці падзякавалі-ж вы пану за ласку?

Аўдулька. Мы і яму пралескі рвалі... Я хацела у руку, вун, пацалаваць, дык ён кажыць: «Ня трэба, ня трэба... Я-ж, кажыць,—ня поп і не абраз». І ні даў, вун...

Дзед (успомніўшы). Пара, пара гараць. Паеду, Косьцік! твае грошы цэлы будуць, дай—я схаваю іх. (Паклаў грошы на палічку перад абразамі, яны с хаты відны). Ну, Аўдулька, прыгледай матку, Яначку тута калышы, вады мамі падай, калі пабажаіць. Доля наша, доля... Грахі нашы. Пойдзем, Косьцік, і я табе дудачку вырэжу з лазы... (Дзед і хлопчык пайшлі за дзьверы).

## Праява 3-ая.

Ганна і Аўдулька (калышыць Янку).

Ганна (маркотна). Дачушка мая, любінькая, памру я, чую сваю сьмертухну... Слухайся, шануй дзеда. А можэ ж і татка твой апомніцца, агоўтаіцца, піць гарэлку перэстаніць... Даглядай Яначку, Косьціка... Дзеткі мае-е... Хораша жыць, калі усё ладна... (Ей трудна гаварыць). Дай піць. (Аўдулька падаець карэц з вадою; Ганна напіўшыся гаворыць крапчэй) Якіе прыгожые красачкі. Каб мне разок яшчэ пабачыць, як жытцо каласіцца, а там... памерці...

Аўдулька (плачыць). Мама, не кажы ж ты так, не кажы пра сьмерць,—мне страшна... Ня трэба нікому уміраць...

Ганна. Ня бойся, дачушка, ні плач... Так ужо Бог даў... Што я сьніла сяньня? Бытцым нябошчыца мама, такая сьветлая, ясная, у беленькай сьвітачцы прыйшла к нам і да таго ж жаласна і сумна кажыць мне: «Ганначка,—кажэ,— галубка, чаго ты так счарнела ды высахла, выпятрыла уся? Рыхтуйся,—кажэ,—бо табе-ж пад вянец пара, заждалася я цябе...» (Маўчыць крыху, сьлёзы коцяцца, як боб). Тут я прачхнулася, і страшна мне, і лёгка-лёгка неяк зрабілася...

Аўдулька. Мамачка, і я памру...

Ганна. Жыві, дачушка. Будзіш мне на могілку кветачэк прыносіць... На Радаўніцу з яечкам прыйдзі хры-сто-са-вацца-а-а... (Горка-горка плачыць).

Аўдулька. Мама! Мамачка!.. (Чутна пьяная песьня пад вакнамі).

Ганна (адыйшла крыху). Нічога, нічога, я так... Што гэта?

Аўдулька (падбегаіць к ваконцу). Тата йдзець! Ай, пьяны, — будзе біцца... (Палезла на пол к матцы).

Ганна. Забыўся на ўсё чэлавек. А некалі-ж кляўся, бажыўся. Ці даўно тое было? І што гэта з ім; ці ні паддаў яму хто? О-о-о..

(Атчыняюцца дзьверы і, дзяржучыся за клямку, хістаіцца на парозі пьяны і, як слова, вясёлы Раман; пяець і пристаўляіцца пракудай).

## Праява 4-ая.

### Тые ж і Раман.

Раман (пяець дальш). За-аўтра, за-аўтра, не-е сягоння,—ко-ожны пьяніца пяе-е... (Спыніўся). Добры дзень тату ў хату! Хвароба ў лес, здароўе ў косьці! Стуку-груку, хто тут? (Ідзець па хаці вугнава прыпеваіць).

Адна думка у Рамана,
Што кішэнічка падрана!
Німа грошы, німа дроў,—
А як выпіў—ўжо й здароў!

Не! Йшчэ адна думка ёсць: каб мая сухотніца паднялася. Ато, калі-і ўжо скрэмсалася! (З ласкай да Ганны), Ганна! Ганначка! Жоначка мая любая! (Тужліва) хварэіш? (Жаласна і безнадзейна). Усё хварэіш... Пара ачуняць! Лепшай, галубка мая, а я, я... Во табе сьвяты крыж,—досі жлуктаць гарэлку! Дос, дос і дос. Маё слова сьвята! Ня буду й ня буду, наўсёды заракуся... (Садзіцца на зэдлік і крыху маўчыць). А дзе ж тата? Дзе Кастусь! (Ніхто яму не атгукаіцца). А? (Пачынае злець). Аўдулька! Куды пайшоў дзед? Чуіш? Злазь адтуль тэйчас, нячыстая каланіца, а то я табе! Янку калышы! Я вас! Што вы мне? Што хачу—то й раблю. Ось ешчэ! Соткі ўжо выпіць нельга? Што такое значыць?! (Ходзіць—хістаецца па хаці).

Аўдулька (калышыць Яначку). Дзед с Касьцючком пайшоў у поле... Дзед гарадь будзе...

Ганна (стогніць). Божухна! Німа сумленнасьці у чэлавека... Апомніся, Раман! Сьмерць мая, дзеткі нашы малые, ах...

Раман. До, дос ужо! Не стагні, не гнаі

ты майго сэрца. Чуў тваю песьню. А тата... Як жэ ён гараць будзе, калі хамут, хамута... Я сам успашу. Ніхай стары ні турбуіцца, час ёсць. Успашым. Не сяньня — заўтра. Сяньня галава баліць, спахмяліцца б, хіба цяпер. Ганулю, дзе твая суконная хвустка? дай на сотку! Не сярдуй.

Ганна. Раман!

Раман. Ну што, што? Ну на̀, забій мяне! Ну на̀, на̀ зарэж мяне, а дай жэ ты мне на сотку, трэба ж мне апахмеліцца!

Ганна. Пабойся Бога. Раман! На хлеб дзеткам німа; што ты сабе ду-ма-іш?

Раман. Не стагні! Голая костка! Ад заможнаго бацькі браў, а што ты мне у гаспадарку прынесла? Сабаку печэнаго... Во захварэла, падла! І здохніш хутка, падажджы.. (Ганна ані слова, Аўдулька пачынае плакаць). Ня румзай, Аўдуля! У матку ўдалася! Заступніца... Я табе пакаж-ж-жу! На калені! Маўчы! Што б твайго духу нячутно было! (Аўдулька ціха хліпае і становіцца на калені).

Ганна. Божа!—(Ташнуіць).

Раман. Сыйду і кіну, кіну... Прападайця тут, хвароба на вас. Ссушылі мяне... Пью,—дык я ж вас і кармлю. Ы-ы-ы! (Скрыгочыць зубамі ад злосьці). Пілуюць-пілуюць, смурыжуць за кожну чарку, ці выпіў ці ня выпіў.. Зьежця мяне! на зло прапьпю, усё прагуляю! Зарэжуся! Задаўлюся! Зарэжуся!! (Хапаіць са стала тупы нож і шмуляіць па горлу; Аўдулька крычыць, Ганна стогніць дужэй. Але нож сагнуўся, і Раман са злосьцю кідаіць яго на зямлю).

Ганна. Кепска мне, кепска мне... Ай мляўка... Сьмертухна мая .. Аўдулька, па цётку Хры-

сьцёну... па дзеда... А-а-а... Раман, сьвечку, грамні-цу...

Раман (схапіўшыся). Што? Што? Уміраіць? Хіба ж праўда? Аўдулька, бяжы, бяжы, дзетка, па цётку! (Аўдулька пабегла).

## Праява 5-ая.

Німа Аўдулькі.

Ганна. А-а-ах..

Раман. Ганначка, пастой... Што, што ты гэта? Прасьці, прасьці мяне, гэта гарэлка пашкодзіла... (Схіляецца над жонкай). Мо даць вады?

Ганна. Ай, ай... Паткаціла пад грудзі... Вады... (Раман пабег у сенцы па ваду, на сустрэчу зняцеўку дзед; Раман атскочыў).

## Праява 6-ая.

Ганна, Раман, дзед і Янaчка (пачынаіць варушыцца, Раман калышыць).

Раман. Татуля, вады, вады! Нешто з Ганнай... Слаба яна...

Дзед. Цяпер, «татуля!» Апокуль ты, аторва, лежынь ты пятроўскі! (Бярэць карэц і, зачэрпнуўшы у сенцах вады, нясець). Пьянюга, згубіў жыцьцё маладзіцы, дзяцей абяздоліў... (Даець ваду Ганні). Пракляну, дажджэшся, што пракляну, сынок; папомні! (Маўчыць троху). Раман!!! Дзе хамут? Куды хамут дзеваў? Прапіў! Усё у каршму занёс!..

Ганна (напіўшыся). Ох, тата, адлягло-о... Раман, памру я; калі а-а-ажэнішся у-у-удругі— жалей маіх дзетак, ня крыўдзі і не дазваляй крыўдзіць. Кінь выпіўку... (Раман стаіць, утупіўшы галаву уніз, і цяжка дыхаіць).

Дзед. Каня возьмуць за даўгі, карабёнку прадалі, хамут быў—німа. Усё на гарэлку пайшло. Раман, чуіш ты? Зямлю прадам, сам кіравацца буду, пакуль сілы хопіць, а унукаў пракармлю, а цябе... пракляну, калі не забудзішся шляху да каршмы...

Раман. Тата!

Дзед. Да старэцкаго хатыля бацьку давёў! У старцы астаецца, хіба, мне ісці? Ты ж адзін у нас быў, матка як цябе пеставала, а ты як успамянуў нябошчыцу? Горэ ты маё... Вёсначка на дварэ, жаўранкі пяюць, людзячкі з весялосьцю на полі за сахою ходзюць, а мы, мы праз цябе тут, як у смале, кіпім! Горэ ты маё...

Раман. Тата! Досыць вам, даволі... Апахмялюся я толькі і навекі заракуся! Ці мне ж ня тошна? Атруціла мяне гарэлка, згубіла жыцьцё...

Ганна. Ты малады йшчэ, Раман. Устрапяніся. Ці хочэш, крый Божэ, каб і я с таго сьвету прыходзіла да цябе за дзетак спрэчацца, Рамане! Дай мне спакой.

Раман (пацьвярэзеў). Татуля! Ганна! Ці я-ж нічога не разумею? Ці мне-ж ні баліць? — І ці я ж не зарэкаўся? Але ж яна, як тая салодкая атрута... Як тое сьвятло бягучае купальскае, заводзіць яна чэлавека у такую круч, аткуль німа узвароту... Адбярэць і розум, і сумленьне і жаласьць... Ці я ж не разумею, тата? Ратуйця мяне... (Замарыўся).

Дзед. Праўда! Кара Божа, Раманька! Ка-

заў мне пакойны Габрыель: Ня трэба слухаць тых, што кажуць: «Разумны пьець, ды вум не прапіваіць, а дурэнь і вадою абапьецца..» І разумнаго, і моцнаго, і вялікаго пана, і апошняго мужыка, і пісьменнаго, і працавітаго, і цёмнаго чэлавека,—усіх адзінакава, калечыць яна, у ва ўсіх адбіраіць сілы...» Праўда. Бо то-ж кара Божа! За тое, што праз гарэлку чэлавек губіць розум, губіць абраз Божы, робіцца самагубцам... Чуіш ты, Раман?

Раман (ташнуіць праўдзіва). Што мне рабіць? Я німаю сілы, я ні змагу сябе! цяжка мне... Хаджу, як шалёны... Ні хачу іці, ні хачу піць, а... іду і прапіваюся да ніткі... На панахвіду па роднай мамачцы грошы прыблюў і пра-пра-піўу-ў... (Гудзіць).

Дзед. Маліся, Рамане...

Раман (агоўтаўся ад плаку). Але-ж прысьпеў мой час... Татуля! Ганна! (Бразнуўся на калені перад абразамі і склаў перад тварам рукі далонямі). Божэ міласэрдны! Ты ўсё бачыш і усё ведаіш! Памажы мне, Навышні! Клянуся Табе, што ад гэтаго часу ніколі...

Дзед (страшна гаворыць). Сынок! Ні грашы. Ні падманяй Бога! Колькі разоў, шмат разоў ты ўжо заклінаўся, бажыўся—і усё дарма.. Дык ня трэба ж! Ня трэба прысягі, калі німа пэўнасьці яе споўніць..

Ганна Раман, не хітруй з Богам! Пакарае-е.., А а-а...

Раман (тварыць сваё)... Ніхай буду я проклят, калі з гэтаго часу ня кіну піць паганае атруты да самае сьмерці!.. Ня меў я долі, шчасьця, калі.. (Убачыў на палічцы грошы усхапіўся). Што там? Скуль тут грошы? (Хочэ узяць іх,



71

але дзед схапіў раней і пашоў да Янaчкі, каторы плачыць).

Дзед. Рамане! Бог усё відзіць! Успомні што ты казаў! (Выймаіць спавітога Янaчку і дзяржыць яго каля сябе толькі на левай руцэ, у каторай і грошы, а праваю папраўляіць у калысцы).

Раман. Тата! дай, дай грошы, мне толькі апахмеліцца.. Дай, больш ніколі, ніразу ня буду, дай — галава баліць... (Патскочыў к бацьку, і ірвануў з рукі грошы і маланкай пабег за дзьверы; Янaчка скаўзануў з дзедавай рукі і грукнуўся галоўкай аб падлогу).

Ганна (усё бачыла). Ай! А-а-а... (Раптам апынулася на падлозі, крыкнула, захлібнулася).

## Праява 7-ая.

### Дзед і нябошчыкі.

Дзед (схапіўшы мёртвае у крыві дзіцянё). О-о-о!.. Што гэта? Божэ! Дзе-ж праўда? Пакарай, Навышні, губіцеля сваe крыві і цела, ні дай яму спакою ніколі за сьмерць непавіннаго дзіцяткі.. Німа у мяне больш сына... Праклінаю! Праклінаю!!! (Плачыць, тымчасам шпарка бяжыць, бразнула дзьвярмі цётка Хрысьцёна).

## Праява 8-ая.

### С цёткай Хрысьцёнай

Хрысьцёна. Сваточак, чаго у вас плак, крык? Што з Янaчкам? (Дзіка крычыць). Памёр?!

Кроў... А Ганнуся? (Падбегла да Ганны). Няжыва?! (Дзед здрыгнуўся). А Божа ж мой, штож гэта? Прачыстая матка!.. Вады, вады!.. (Пачынае выць). А ма-е ж вы дзе-тухны, а ма-е ж вы любы-е...

Дзед. Кара Божа! (Паклаў к матцы Янкачку, схапіўся за галаву, страшна глядзіць на абразы і нешта шапочыць усё дужэй).

---

# Роднае карэньня.

I

...А еш́чэ трэба паведаміць цябе, даражэнькі сынок наш,—чытаў лежачы на цьвёрдай канапе пасьля абеда, бацькоўскую пісульку студэнт-мэдык Архіп Лінкевіч, — што у новай нашай хаці жыць мы дужа баімся..

Архіп пацягнуў раз—другі папіроску, абтрос попел на бляху, буркнуў пад нос: «Што за дзіва?» і зацікаўлены пачаў разьбіраць далей закаручкі запэцканаго чарнілам пісьма:

...Здаецца ніразу не было таго у нашым сяле, што дзеецца цяпер у гэтай хаці...

— Ну й пісара ж знайшоў бацька сабе,— у голас загаварыў Архіп, ніяк ня могучы разабраць слова ў пісульцы.

Ён ізноў зацягнуўся, вылаяў у думцы пісаку, што ня гледзючы на добры селянскі пачастунак і пяць капеек, так дрэнна пішыць пісьмы, саўсім не чытэльна, і задумаўся аб далёкім родным сяле, аб міленькіх старэнькіх сялібах і садку, што сам з бацькам садзіў колькі гадоў назад.

«Як многа слаўнаго ў нашых вёсках, сёлах,

а тымчасам як яны непарушна-мёртвы у жыцьці. Час ідзець,—ў гары, ў воздусі лётаюць аэропланы, дырыжаблі; пад вадой жывуць людзі, як на зямлі; перэгаварываюцца на тысячы вёрст; даходзяць да таго, што думаюць замаражываць чэлавека на колькі трэба часу і ўзноў аджыўляць яго; усё ідзець шпарка ўперад, толькі нашу вёску, як абросшый мохам камень каля шляху, з мясьціны не скранеш.. Сумна. сумна».

— У дваццатым вяку баяцца жыць у новай хаці. А чаго? — ну, пэўне, чэрці не даюць.—Так думаў-сумаваў студэнт.

...Мы ўжо й папа́ прывазілі і свянцілі яе, але нехта засеў у ёй і не дае начэваць..—прачытаў ён і аж зазлуваў:

— Выдумаюць сабе усякіх дурацкіх зданьнёў ды й, бытцым дзеці, забаўляюцца. Якбы рабіць німа чаго; э-эх!

...У прошлы чацьвер пайшоў батрак начаваць у ёй, бо там халадней, а у старой хаці аб цяперашняю летнюю пару дужа душна ды й мухі спакою не даюць. А лавак у ёй мы шчэ не паставілі, дык ён і лёг на групцы, бо мы цяпер яе ня топім, і спаць там хараша...

Студэнту было троху сьмешна.

...Якое ўжо, не пры нас будзь казана, ліха здалося яму там,—пісалася далей у пісьме, — ці ён, можэ, вечарам з дзеўкамі перэжартаваў, ці часам да Міхаля у карчму зьбегаў, хто яго там ведаіць, а толькі не пасьпелі мы заснуць у старэй хаці, як раптам заляскаталі нашы вокны так, што мы аж адразу папрашнуліся і надта папужаліся. Матка й кажыць да мяне: «Нупрэй, Нупрэй, ці ня біць нас хто лезіць, што гэта робіцца?» А я — шусь! да вакна, гляджу, — ажно

гэта батрак ў ваднэй сарочцы, без шапкі, босы, як адурэўшый, крычыць нема: «Дзядзічка, атчыняй хутчэй!» Атчыніў я вакно, упусьціў яго, а ён трасецца, зуб на зуб не трапляіць...—«Што такое? Што такое?»—запыталіся мы.—«Нехта у новай хаці с печы мяне зваліў.»—«Злодзей, можэ, ды там жэ красці німа чаго»,—сказаў я, але батрак кляўся, бажыўся, што у хату чэлавек залезьць ніяк ня мог, бо ён на нач залажыў чэп у прабой, засадзіў кіёк і слісак с клямкі выцягнуў. Ніхто улезьці ня мог... А нехта, нявідзімы, сьлізкімі, як вужакі, халоднымі рукамі схапіў яго за ногі і махануў с печы на мост. І запраўды у батрака быў зьбіты бок і адзёрты аб цэглу рукі...

— Нячысьцікі завяліся там ці што? — злосна смеяўся студэнт і падумаў, што батрак пабіўся с хлапцамі за дзевак і паддурыў старыкоў чартаўнёй, як найлепей.

Архіп устаў с канапы і засігаў па сьвятліцы у задумленьні. Затужыў троху. І ўспомніў старога дзеда Міхалку, на катораго усе казалі, што ён тры гады бегаў ваўкалакам. Сам Архіп некалі даваў гэтаму веру.

— Што за народ наш, беларусы? — у голас задаў ён сабе пытаньне і размеркуваў, што доктарам будзе служыць на Беларусі і будзе зьбіраць матэрьялы аб духоўным жыцьці свайго народу.

...А надоячы пашоў начаваць ўжо я і батрак, удвух. І так сама прыбеглі ноччу у старую хату, бо я прашнуўся, чуць не акалеўшы, пад зэдлікам, хоць заснуў на зэдліку, а на батрака нехта узваліўся і душыў.

— Незразумела, уцяміць не можна, што за

штуковіна такая, — ламаў галаву мэдык, і на глыбіне яго душы пачалі капашыцца абразы таёмнаго, страшнаго, шчыра-беларускаго..

Не дарма быў Архіп—выліты яго дзед, што да сьмерці заўсёды крэпка маліўся Богу і тымчасам лашчыў, як можна, дамавых, лесавых, вадзяных.

...Мы ужо ставілі у куце й «пратэсы», псалтыр чыталі і псальмы пелі, — нічога, рады німа, усяліўся нехта у хаці і не даець спакою. Ці не параіш ты чаго, а то хоць хату разрый...

Архіп задумаўся йшчэ больш. Дачытаў пісьмо, дзе пісалася ўжо, што кароўкі, дзякаваць Богу, пагулялі, малака даюць многа, жэрабё прадалі Зэліку, патсвінак здох, яблык урадзіла дужа-дужа многа. А потым ішоў цэлы ліст паклонаў «ад белаго ліца да сырэй зямлі».

Студэнт памаўчаў троху, шчэкануў пальцамі і тут жа патскочыў ад раптоўнай думкі — паехаць самому дамоў на гэту чартоўшчыну.

— Яблак, гуркоў, суніц, чарніц, маліны, грыбоў цяпер там... На сенакосі с касою гуляну, як у старыну калісь, з дзеўчаткамі знаёмства старыннае ўспомню,—пацешаўся студэнт,—а старые будуць рады-рады!

Думкі-хмары яго разляцеліся.

— К чорту ўрокі, перэдам учэнікоў таварышам, хопіць грошы, а то ешчэ зараблю у зімку, як-небудзь узнясу за права ўчэньня, а цяпер жэ у нашай вёсцы—сяле закутным—рай!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На другі дзень Архіп ужо троссся на зялезнай дарозі.

II

— Ну й коні ж тваеǃ С крупадзёркі на скуру прадалі ці што? — запытаўся Архіп у балагольшчыка, дзівуючыся, што едуць яны — цішэй некуды.

— А як жэ.. Быц вы тое ведалі, пане Лінкевіч, ведама сто ш крупаджоркі...

— Ну, ну паганяй, а то мы й к раньню не давалачомся.

— Гэ, гэ, гэ! Нэ-э, пасьлі, мае лярвацкі, — зацмокаў жыд, сцёбаючы пугаю па зямлі.—Даеджым, пане, даеджым! Гэ, гэ, гэ... Нэ!

Коні лавілі пугу хвастом, дрыгалі нагамі і гультайліва трасьлі па калюгах балагольскую будку.

Лес кончыўся. Выехалі на поле. Дарога пайшла роўная. Архіп залюбаваўся прыгожасьцю летняго вечэра. Сэрцэ ласуна да красы забілася дужэй у малых грудзёх яго. Наўкруг было так ціхамірна і так па нябеснаму святочна і прыгожа. Цямнела. На захадзі гарэла зара.

— Джу-нгу-у.. паляцеў жук.

— Мэ, э, э... замаркатаў ў гарэ кала балота дзікі баран (чэпік); сеў недзе на купіні.

Абапал дарогі было жыта у копах і на караньню, што не пасьпелі ешчэ зжаць. С аржанішча нёсся прыемны жытні пах. З логу ціхі, цёплы ветрык тхнуў сенам. На небі паказалася зорачка, другая, трэцьцяя...

— Го-го-го,—кацілася далёка па лесі.

— Трполя, трполя, тпроля — клікаў нехта жэрабёнка.

Чутна у перадзі па дарозі: «Скры-гы-ы..

скрыгы-ы... — вязуць нешта, ці снапы, ці сена, а можэ й хворaст. — «Нэ, нэ! — бадрыць коні паваждай, а яны цяжка йдуць па пылу, толькі: «шлёп-шлёп, шлёп-шлёп» — чуваць здалёку. Чарнеюцца вазы далёка, бліжэй, во, адразу вынурнулі:

— Добры вечар! Ці далёка тут да Белі?

— А вёрст пяць набярэцца.

— З гакам, — дадае з-за возу другі голас.

— Нэ-э-э! — паехалі далей, і ўзноў: «скрыгы-ы...»

На дарозі гоман. Ідуць с поля людзі, за гэткі дзянёк пазамарыліся, напрацаваліся.

С-пад лесу нясецца-коціцца песьня — жняі йдуць ад Хаіма с падзёншчыны. І праца не бярэ маладых, красных на здароўе, круглавідых дзевак... О! песьня; яны паюць:

— Загарэла вячэрняя зара...

А з другога боку ідуць са свайго поля жнеі, там пяюць:

— Добры вечар, гаспадынька мая!..

Маладые, зычные галасы смакуюць сьпеў, і ён рвецца са здаровай душы у дужым, ня хворым целі:

...Ці зрыхтавана вячэрыца твая?

Водгалас доўга ляціць па лесі. Эх! і пагода-ж, пагода будзе на заўтра.

І жнеі, і гоман, і песьні астаюцца па троху .. Праежджаюць ціхую вёску; агнёў німа, сабака, нейдзе гаўкнуў і змоўк, у пунях, хлявох жвуць каровы, а гаспадыні старые, што зараней с поля прыйшлі, там з даёнкамі: цур-цур, цур-цур...

Праехалі мосьцік, ярыня пайшла, а на полі цямней, ды цямней. Усё неба зорамі гарыць, дзіўнае, пекнае! Чароўнае хараство разліта ў ём...

— Драў, драў, драў,—сквярэцца драч; і ён сьціх. Ціха-ціха..

Не, во чуваць збоку шчэ,—павялі нашлежнікі коні ў лес пасьвіць. Смяюцца, рагочуць, жартуюць. Нейкі скалазуб сумысьля вугнава зацягнуў прыпеўкі:

Не хадзі ты па балоту,
Не мачы ты ног, ног..
Не любіся з багатою,—
Не паможыць Бог, Бог...

— Ай-я-я-я, я-я-я,—якочыць, прыстаўляецца каторы-то хлапчук.

Багатая—гарбатая,
А к таму-ж і пышна,
А бедная дык чэсная,
Як у садзі вішня.

— Трым-трым, трым-трым,—у тахт басуюць другіе хтопцы, вясёлые, радые.

Усё ў полі супакоілася. А ні гука. Архіп быў ў добра-дэлікатным настроі. «Краіна родная мая...» — марматаў-пеяў ён ціхенька і думаў-думаў, што будзе праз дзьвесця, трыста, чатырыста гадоў тут, наўкола? Калісь тут лясы былі драмучые, непраходные, у лясох людзі пням маліліся і жылі са сваей доляй-нядоляю. Ішло жыцьцё, высекаліся лясы. Загарцавалі па тутэйшых мейсцох людзі ваенные-ратные, шмат костачэк маскоўскіх, польскіх, казацкіх палягло, «паміж пустак, балот беларускай зямлі...» Швэды, французы знаходзілі сабе тут вечны спакой. Божэ, Божэ, як гэта ўсё страшна і цікава!

— Паніч,—загаварыў балагольшчык з нейкім жахам,—вы, мусіць, ведаіця, што ў гэтым балоці, што на лева, калісь-то у даўные гады цэлы горад за нешта праваліўся скрозь-доньня. У ноч

— Твае,—ізноў ціхенечкі шэпт.

— ...Твае малюнкі прызнаў у ва... у табе вялікі талент і прасіў працаваць, абецаўся помач?

Замест атказу тужліва запеяла шэпатком: «Хоць ты сэрцэ вы-ырві ды й аткі-інь далё-ка.. Хоць ты серцэ...» Змоўкла, маўчыць.

— Чаму ж не сказала мне калі, што малюіш?

Маўчыць.

Я сядзеў, як пень, і лаяў у думках сябе калодаю, дурнем, сажалкавым гнётам... Гадаў, што дзеецца з Мусяй, аб чым яна думаіць і чаго яна у час, калі другіе гараць, полымем пышуць, яна быц нежывая... Ці шчыра яна пачуваіць?

А надоячы,—ўспомнілася,—ўсё пыталася, ці пазволяць ёй, жыдоўцы (гэта слова яна гаварыла з нейкай жалабнасьцю, як скрыўджэная), па сканчаньні гімназіі меці у вёсцы сваю школку і вучыць селянскіх дзетак? — «Вочкі прамываць тваім белагаловенькім»,—ешчэ пажартавала с сумам у голасі.

— Вы шчэ самі вучыцеся, калі тое будзе,— выварачываўся я. А Муся колькі разоў усёж-ткі цвёрда і упорна памыкалася дапытацца напэўна, і я круціўся, як тая вужака ад бізуна, ад гэтых пільных пытаньнёў.

Мне ўжо і так надакучылі, былі прыкры тады нацыональные і набажэнскіе пытаньня, апастылела паўсёднае айканьне і салодзенька-кіслае стагнаньне няшчырых людзей. Глыбока-праўдзівага спаткаў мала.—«Можэ і Муся, можэ і яна, толькі чапурыцца перада мною дзеля чагосьці?»— выпаўзла, як с падпечкі, гідкая думка.

— Муся, зірні, зірні,—якіе прыгожые, дзіўные болачкі плывуць на заходзі. Бачыш?—

Ледзьве варухнулася, маўчыць.

«Як незразумела і нескладна ідзець сягоньня час — падумаў; — так, я ведаю Мусю і яе сямью гады чатыры ці пяць, але ж «пазнаёміўся» з Мусяй усяго на тым тыдні ў сераду і гуляў з ёй трэцьці, толькі трэцьці вечар. Цікава...»

Мяркаваў-мяркаваў, як і што, і ўрэшці уцяміў, што трэба яе пацалаваць.

Сагнуўся, узяў яе за плечкі і прыціснуўся к цеплаватаму лічку, пацягнуў да сябе мягкую, любую, гладзенькую, крэмяненькую шчочку, але так неўдала, так... што пачуўся прыкры, каб яго век ня чуць, гук: «Цмыгу-у-уль...»

Мне зрабілася сорамна за сваё мяжджульства.

Я скасавурыўся, як конь хмылячыся, і з боку паглядзеў на Мусю. Дужа задзівіўся з нейкай дайжэ трывогай, чаму яна такая белая, не глядзіць і маўчыць, хоць ты што? Сьпіць ня сьпіць.

Баючыся, каб яна не ўцяміла майго пастылаго настрою, я ненарокам, асьцярожна шукаў на яе руцэ пульсу і шчупаў дужэй, нібы ад вялікаго пачуцьця паціскаў дарагую ручку.

Пульс біўся слаба, а біўся,—і тое мяне ўзвесяліла.

А яна тымчасам на ўсю сілу сьціснула маё плячо, прыціснулася, як мага, ка мне:

— Мілы, харошы.. — ціха так шэпярнула, аж маё сэрцэ зайшлося.

Мне здалося, што тут і я павінен больш паказаць любоўную прыхільнасьць. Крэпка ціска-

нуў я Мусю у руках, аж у стане у яе нешта: «Хрэсь!»—хрэснуло...

— «Ну й ламіна-ж я», — стыдзіў сам сябе і чуў, як пабегла кроў у галаву; зачырванеўся, і добра, што хоць ноч, дык не відаць.

А Муся—як мёртвая.

Пасядзеў, пасядзеў, ізноў паглядзеў туды-сюды. Ага, прыпомніў: «Я—ненормальна», — сказала нет ведама к чаму заўчора.

Зірнуў на яе.

Вочы заплюшчэны. Ці ад доўгіх век, ці то і запраўды—пад вачамі было чорна-чорна. Ліцо бледнае што у нябошчыка, галоўка, нежывая, аткацілася назад...

— «А Божэ! Самлела... Няжыва...» маланнёй скаўзанула у галаве, пад ложэчкай зрабілася да прыкрасьці пуста і па плечах быццым пакаціўся халодны пот.

Дзержаў яе, самлелую, у руках і гукаў:

— Му-уся, Му-у-січка! Ну скажы што не-будзь, Му-у-січка...

Яна не варушылася. Галава яе бяз сілы зьвісла у маіх руках; адна рука, амерцьвелая, зьехала і ударылася аб маё калена.

Мне было жарка, душна, худа. Прытуліў самлеўшую Мусю да сябе і, як непрытомны сам, гадаў, ці крычаць ратунку, ці бегчы у якую хатку за вадою, ці што? Што з ёй такое? Дрэнна?

Спуджэным поглядам кінуў ізноў да Мусі і,—ай! асекся,—яна адным вокам пазірала на мяне с ціхім пытаньнем-дакорам...

Пачуўся стукат па тратуару.

— Мусічка, ідуць!

Той жэ момэнт яна кранулася, атсунулася

ад мяне, адвярнулася і пачала абпраўляць валасы.

Бываіць засьнеш у дзень, прашнешся і няведаеш: вечар ці раньне? Так было цяпер са мною.

— Юра, Ю-рачка, пойдзем дамоўку, — пачала гукаць, і здавалася, што яна смакуіць імя Юра.

— Пасядзім трошку, Муся.

— Я хачу спацькі... Галоўка баліць... — Як занадта кукоблены дзіцёнак лашчылася і быццам хацела трошку й пакапрысіць-павярэдаваць.

Узяла маю руку так, каб я абшчапіў яе.

Пайшлі-ткі.

Маўчалі увесь час і нікога не спаткалі. Падыйшлі к іхняму ўжо дому.

— Заўтра у-раньні ты волен?

— Не, буду на рабоці ў полі.

— А у поўдзень?

— А у паўдзён дамоў прыду.

— Прыйдзі у сасоннік к мосьціку.

— Добра, Мусічка.

Папрашчаліся. Я успамінаў закон, і не пацалаваў яе.

Яна узыйшла ўжо на ганкі і пазваніла, каб атчынілі. Я крыху пастоіў.

— Як ты не заснуў? — нежданае даляцела ка мне з ганку.

Я аглянуўся. Схавалася ужо за дзьвярмі...

Пастаяў-пастаяў крыху і пашоў.

І цяпер сэрцэ пачынала млець.

* * *

На заўтра я заране ўжо прыйшоў к мосьціку. Доўга, доўга хадзіў-дажыдаўся: Мусі німа, німа й німа. Не прыйшла..

«У-вечары пэўне прыйдзіць ў парк, убачымся»—цешыў я сябе, і нейкая туга агарнула маё сэрцэ.

Прыйшоў вечар. Усе ходзюць-гуляюць, смяюцца, як заўсёды, а Мусі німа... Так і не пабачыў у той дзень.

«Што-ж такое?»

На другі дзень таварышка яе паведаміла мяне, што Муся «ешчэ учора раніцай» паехала к радні у Вільню. І калі прыедзіць — німа ведама.

Быц згубіў я што дарагое, дужа патрэбнае, без чаго жыць дрэнна.

* * *

І вось... Чэраз пяць дзён прыйшло паведамленьне, што Муся у Вільні, раптам памёрла...

— Самагубства? — з балючай цікавасьцю у дрыжачым голасі запытаўся я у тае-ж самае таварышкі нябошчыцы Мусі.

— Аткасьні-іцеся вы, горэ... Нівесь чаго ешчэ дабіваецца,—толькі й пачуў я.

— «Дык што ж гэта такое?»

* * *

Прайшло немала часу, на іншым жыцьцёвым шляху апынуўся я, многа розных іншых людзей спаткаў, а й дагэтуль, ат пары да пары

зьяўляецца прада мною квола-даражэнькі абраз невялічкай, чэрнявай жыдовачкі с сумным паглядам у чорных глыбокіх вочках.

— Муся, Муся...

І так і чую тады той пьянавата-мляўкі пах красуючага язьміну.

«Што й к чаму? Што й к чаму?» — ташную у гэткі час, бо німаю аніякага-ж атказу...

---

# У панскім лесі.

— Ах ты рагатун пракляты! Адлезь, табе кажу, ато, брат, по ўху зловіш, ці ведаіш!

— А стой, не спужаліся. Ды й не карожся дарма, пакуль с табой, як з добраю. Ня хочыш з ласкі, будзіць без ласкі!

— Уцекай, падла стары. Мяшок бяры, хвустку бяры, абдзірай, сабака панскі, а гэткіе жарты пакінь, паскудзь ты!

— А мы во як...

— Ы-ы, не чэпай...

Хрась! Хрась!

Забаўтаўся стары лясьнік, пахіліўса, раскірэчыў ногі і саўсім непрыгожа асеў к зямлі.

Дрыгнуў шабадранымі ботамі пацягнуўся.

Чорная, гідкая, страшная кроў паплыла у яго з галавы, пэцкала новы жупан, стрэльбу.

Маладуха астаўпянела, з жахам вытрашчыла вочы, тупы шчапель, што карэньня капала, шмякнуў з рук на землю.

Ой! Тошна, дрэнна... Німа як ад'жывіць. Тое ўжо навекі.

Бежч... бежч.. О-ё ё-ёй... Што гэта?

Дрэвы нядобра заківалі макоўкамі, прытулілася трава, ледзьве трэснуў сучок, лёгкая болачка уцекла з аднаго боку неба на другі.

Бегла, як шалёная, маладуха.

Лежаў, як калода, стары лясьнік.

# Лірные сьпевы.

---

Цёмна ў лесі глухім, як у магілі.

Неспакойна трапечуцца лісточкі на бярозах і трывожна гудзяць макаўкі сасновые. Не рана ўжо, час а поўначы, а гэта ночка купальская...

Блісну ў аганёк каля чорнаго пня. Што тама? Ці грошы заклятые на зямлю выходзюць, ці, можа чэрвячок купальскі сьвеціцца?

— Ку-га! Ку-га! Ку-га га... страшна раптам заскігатала нешта за балотам у гушчарніку. Ой, што там? Ці русалка на веццю бярозавым гутаіцца, ці сава ляпавухая зайчыка гукаіць к сабе, заесьці хочыць?

Вось цяжка залопала крыльлём нейкая птушка ў суччы і ў пушчы зьнікла. Аткуль яна ўзялася аб такой парэ?

Ох, добра,—ветрык сьвежы падуў.Ківаіцца ля дарогі над калюгаю лазовы куст, а там, за ім, нехта чорны выступаіць... Пень абгарэлы там ці што ешчэ.

Не рана ўжо, час а поўначы, а дарожка нявідная ўсё цягнецца без канца па цёмным лясу. Калі йшчэ тое поля Залесянскае, а страшна тут аднаму.

Карэньня па дарозі парасло, ня можна шпарка бегчы. А чорна ўсё, ані жывой душы.

— Госпадзі, памілуй! Госпадзі, памілуй! Госпадзі, памілуй! — шэпчыць Янка, узіраючыся ў цемень лесавую; ня хочыць ён думаць аб нечысьці паўночнай, пацiху шчупаіць кійком дарогу перад сабою, ступаіць нячутна, але каб скарэй. А валасы на лбе мокры і сьцюдзёны.

— Дай, Божачка, толькі акопы мінуць. Толька акопы, акопы..

* * *

А тые акопы зьнямеўшы сьпяць у чорнай цьме.

Каб ня мова людзкая, дык ніхто б і ня ведаў, што калісьці тут слаўнае Замчышчэ князёў Соломерэцкіх было, жыцьцё кіпела. Грымелі гарматы, курыўся дым ад пораху і лілася чэлавецкая кроў. А ў сьвяты вялікіе хмель-віно ў чарах пянілася, іграли гусьлі-самагуды, пеялі старэцкіе ліры, стогн стаяў ад гоману людзкога і многа-чаго дзеялася, што ўжо навекі пахавана для пазьнейшых часаў.

Высака дзержалі князі Соломерэцкіе знамя зямелькі свае, знамя бела-чорна-чырвонае, не згібалі галавы прад цяжкаю сілай Маскоўшчыны, не хіліліся і прад хітраю прычэпкаю—Польшчаю...

А цяклі часы, ўпадалі на сілу магутные і нечэканна ўзнасіліся ў гару непрыметные, умiралі князі слаўные, выраджаўся князёўскі род. Памёр маўчлівы сівавусы Мсціслаў, і асталася на ўвесь род адна наследніца—дачушка яго дрыжоная, ненадзейная княжана Ганначка.

Прыгожая яна, як краска Божая, а розум дзявоцкі і сэрцэ мела дзявоцкае..

Моліць Бога стары поп, мніх Грыгоры: «Удзяржы ўладу князёў маіх, прасьвятлі вочы княжны маей на карысьць усіх радзімічаў...»

І гаворыць мніх Грыгоры прыгожай Ганні— княжне: «Ох, ты мае, княжна дзіцянё, Божая служэбніца, а падданых сваіх заступніца, слаўная ты насьледніца слаўных князёў Соломерэцкіх, не дапускай ты к сабе паніча польскаго, княжыча Ўладыслава Воебойскаго, ня слухай ты салодка-атрутных прамоў спранджыстых настаўнікаў яго, беражы пасад прадзядоўскі, і веру сваю сьвятую праваслаўную беражы...»

Слухала папá, ня гледзячы на яго, княжна маладая.

І без атказу ішоў ён, стары, маліцца Богу у ціхай цэркві, пабудаванай шчэ старым князем Лугквенім.

А княжна Ганна часьцей ды часьцей да сябе Ўладыслава, княжыча Воебойскаго дапускаіць, часьцей ды часьцей яму ў вочы маладые пазіраіць...

Ня цьвёрда стаіць пасад князёў Соломерэцкіх, у апасцы ад лаціны і вера праваслаўная. А ходзюць чуткі, – маскоўскі ўладар сваю раць на Літву Рускую паслаў пад старые муры старога Соломерэцка.

— О, Божа наш! О, княжна мая! — стогніць поп, мніх Грыгоры. Німа ўжо яму на што спадзявацца.

Дарма! Ўсё канец маіць...

Сыпліцца цэгла і пыл ідзець над сьценамі замчышча, гудом-гудзіць пад кулямі маскоўскімі Замковая Гара, заслаў дым усё поле ваенае, равуць валы вайсковые, ірзуць коні літоўскіе, гудзяць званы хаўтурные, льлецца кроў...

Плачуць маткі па сынох сваіх, а дзяўчыны плачуць па любых сваіх, туга вялікая агарнула дзяцей Соломерэцка, льлецца кроў...

А ў пад'земным ходзі-лазі с-пад родных муроў-скляпоў у Цёмны Лес нясуць княжну Ганну вусатые, у кунтушох і с пяром на шапцы, дружыннікі княжыча Ўладыслава. Пакідаіць бацькаўскае гняздо астатняя галінка з вялікаго радаводнаго дрэва Соломерецкіх князёў.

Незабавам... Вось ужо чутны плескачы і гоман ручая сьцюдзёнаго, вось і дуб векавы, а каля яго і ход-лаз пад'земны на зямлю выходзіць. Як самлела княжна Ганна у Замчышчы, так і цяпер непрытомна йшчэ. Але патроху-паціху расплюшчыла вочы дзявоцкіе, памаленьку, з нудою, усё ўцяміла. Апхапіла ручкаю белаю невялічкай касу доўгую, чорную, што ў дарозі сплуталася, прыціснула да грудак сваіх і сьлезамі, як карэлі добрые, буйнымі змачыла іх, шэпчыць сама: «Пасад мой... Уладзя, Ўладзя, забарані мяне»...

— Гэ-гэй! Стойця, стойця, патрывайця, ляхі!.. чутна—задыхаўшыся бяжыць нехта ззаду. Аж гэта поп Грыгоры. Бяжыць угрунь, вочы гарэць, белы сам, як сьмерць, у руцэ сьвяты крыж дзяржыць ..

— Ці... ці ня... ці ня ўнучку славэтнаго Лугвеня, князя нашаго, у стані ляхаўскім віджу я? Ці то праўда, ці то здаецца мне, што заране так княжна Ганна Соломерэцкая з роднаго кута у чужу-дальнюю старонку ляціць?.

— Маўчы, манах! — прастагнала княжна.

— Ня можна маўчаці мне, што не маўчаў пад гром гармат і кульный сьвіст на маскоўскіх і польскіх палёх с князем Лугвенім і сынам яго

Мсціславам, ня можна мне маўчаць і прад іхным дзіцёнкам...

— Куды бяжыш, княжна? Ешчэ моцны муры Соломерэцкіе, не паломаны паркан замковы, ешчэ ёсць гарбузы і арэшкі на маскоўцаў у скляпох нашых і ня гнуцца шчэ нашы людзі, княжна! Многа скарбаў дзядоўскіх захована у нас, не малы шмат золата і каменьнёў драгацэнных у сьвятынях нашых,—аткупімся ад Маскоўшчыны, а непабяжым шукаці помачы у лацінікоў, куды дзяды нашы ня бегалі і нам заказалі...

— Манах! Маўчы! Ўладыслаў мой любы абароніць насьледзьдзе бацькоў маіх...

— Абароніць... Княжна, княжна! Так абароніць, што парушацца косьці князёў нашых у трунах і попел іх разляціцца. Ня хочыць Польшча Русь Літоўскую сястрой роўнай лічыць, дык ня будзіць ні Літвы ні Польшчы. а будзе магутная безканечная Маскоўшчына. Гора нам!

— Не бяжы, княжна! Аткупіся пакуль што ат маскоўскіх ваевод, а там што Бог сьвяты дасьць. А пакінеш Соломерэцк цяпер, — ня будзе ўжо, ня будзе нашаго незалежнаго Соломерэцка...

— Не... гэй, хлопчэ, гукні дружыну, вядзіце коні .. Ступай, Грыгоры!

Страшны стаўся поп сівы. Высака узняў сьвяты крыж, падняў рукі і на калені зваліўся. Балюча паглядзеў у сьлед княжне Ганні і на неба зірнуў:

— Божа наш! крыкнуў ён. — Судзі нас, судзі мяне... Канец нам. Наша княжна пакінула нас, сплутала с Польшчаю і Маскве аддала. Вун склычаліся у бягні валасы яе, дык ніхай жа ра-

склычыць іх. Ніхай расплутывае, аж пакуль і мы з Масквою ды Польшчаю расплутаімся..

Задрыжэла зямля, полымя шуганула са ўсіх бакоў, пад грукат гармат і стогны байцоў шухнула ўсё аж на мілю кругом у зямлю на-скрозьдоньня...

* * *

Прайшло многа вякоў, і толькі акопы, старые акопы — сьведкі старадаўшчыны, асталіся. А ў почку таёмную купальскую чутны там званы глухіе, жалобные, і грукат гармат, і енкі скалечэных, і сьпевы манастырскіе, і дзявоцкі плак няўцешны.

Страшна тут, а йшчэ далёка Янцы да поля таго Залесянскаго, а вось вось і акопы старынные.

— Гру-гу-гу... усхапіўся вецер, і захістаўся лес, завыў, застагнаў. Падгібаюцца ногі ў Янкі, і відзіць ён водаль дарогі каля глаўнейшаго акопа чырвонае нешта: ці маладзік усходзіць там, ці агонь гарыць, можа цяпло хто расклаў.

— І васкросніць Бог, і разьбягуцца ўрагі яго... — чуць кратаючы сухім языком, зашэптаў Янка, і цяпло стухла на міг. Але раптам асьвяціўся лес; зірнуў Янка - скрынка вялікая стаіць на ёй дзяўчына валасы чэшыць, ды ніяк расплутаць ня можэ, а па бакох яе два чорные сабакі на ланцугох рвуцца.

Хацеў Янка пераксціцца, ды загледзіўся ён на дзяўчыну, шкода яму стала яе.

Маладая, белая, прыгожая, толькі вочы хаваіць, а сьлёзы буйные, як раса раньняя, па шчэках цякуць. Косы, як вужакі, апхапілі галаву і грудзі, і часам як агонь ад іх пышыць.

— Распляці і мне, распляці-і мне... Ўсё, ўсё табе аддам, на векі шчасьліў будзіш, а сабак, слуг маіх верных, ня бойся. Ой, пашкадуй ты мяне, распляці ж, распляці мне косы мае, о-о-о!..

Закалацілася серцэ у Янкі, падыйшло пад горла ад жалю, і сьлёзы накруціліся.

А сабакі так і гаркочуць, так і выскаляюцца, агонь з роту пышыць, а зубы, што кляцы зялезные.

Расьпіразаў Янка свой чырвоны паяс: «Ніхай крапчэй сабак прывяжыць», падумаў і кінуў княжне маладой.

Загрымела скрыня, зазьвякалі грошы ў ёй, як шалёная: «Ой! баліць»! крыкнула княжна, быццым той паяс агнём пекануў яе.

— Зачапіў ты мяне, а ня вызваліў, буду я мучыцца ешчэ столькі, — заплакала яна жалобна і злосна —будзь жа ты праклятый, як праклята я!—дабавіла і знікла пад зямлёю са скрынею, с сабакамі і с паясом Янкі...

Зьнямеў Янка.

А ўжо чорна наўкруг, як і раней, лес шуміць, заблішчэў скора і просьвіт поля Залесянскаго.

* * *

Чыя ліра плакучая, чыя чутна там каля сьвентару муроваго пад старой ліпінай дуплінястою? Што гэта за старэц сьляпы з белымі, як воўна белая, валасамі і мутнымі невідушчымі вачамі іграіць там? хто ён гэты, што пяець аб княжстві Соломерэцкім?

— То Янка Прокляты.

Аткуль ён, хто ён, — ніхто ня ведаіць у тутэйшых мейспах.

А калі запытаюпца у Янкі людзі:

— Гдзе-ж твая, дзед, радзіна?

— У Бога,— сумна і паважна атказыць ён.

— А ці меў жонку, дзед, а дзеткі ці ёсьць?

— Пахаваў жонку, пагарэлі на пажары дзеткі, пагарэла дабро і хатка, і конікі, і кароўкі, і ўсё. А зямелька неўрадліва мая...

— Які ты жалобны, дзядуля, — скажуць яму, а ён паводзіць прад сабою невідушчымі вачамі, падтрахнець хатыль на плечах, ліру абправіць, крэкніць:

— Дзякуй Богу за ўсё, усё пад ім, а Ён адзін бяссмертна над намі, — і пад ліру сваю старэцкую запяець сумную-сумную песьню аб княжне Ганне Соломерэцкай, і аб часах Літоўскай Русі, і аб уладарстві князёў Соломерэцкіх над радзімічамі.

Плачэ ліра, і плачуць бабулькі убогіе, і маладухі, і прыгожые дзяўчынкі...

---

# Што яно?

* * *

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . А калі цёмная, пахмурна-сонная ноч спаўзала на зямлю і дахадзіла у самые патаёмные куткі, калі ўсё наўкруг заціхала, ціхаміралася і заплюшчывала вочы ў незразумелым сьне, калі дайжэ чуткіе, брахлівые ў ночы сабакі пачыналі, падагнуўшы хвасты і сьцёпліўшыся, дрымаць у заціўшы пад павецьцю на саломцы, у гэткі маўкліва-сонны час яна, жалобная, паціху ішла па так знаёмай вузенькай сьцежцы за сялібамі на сонны, безгалосы, нямы гай, што невыразнай, чорнай плямай ад'значаўся, здалёку, наперадзі, сярод невыразнаго кругазору начнога неба, за паўсотні якіх сігоў угледала бялеючы новы, высокі крыж над сьвежай магілай, выстаўляла прад сабою тонкіе, сухіе рукі, пахілялася усім тулавам уперад і, як патчарованая, рушылася так да самаго крыжу...

Ціха, безголаса... Ночные моўчкі...

Быццым зломленная саломіна-жыціна, валілася ўжо там на халодную, нязьлежаную зямлю з глухім балючым стогнам. .

Усюдых начные моўчкі, і яна бяз голасу ляжыць, ляжыць...

Часам сівые, мутные, дымные болкі разьбегаліся у бакі, згруджываліся па краёх у аграмадные, чорные, з белаватымі прасьветамі аблокі, а пасярод выходзіў бледны, як глуха-нямы, месік і абліваў алавяным нечым, неясным і пустое поле, і бярозы с павіслым гальлём, і водаль курчавую с правіднасьцямі у суччы сасну, і дубовы, шчэ белаваты крыж, і яе, нерухомую; падзівіўшыся троху і, як слова, задумаўшыся аб жыцьці, ён ізноў хаваўся за невялічкіе хмаркі-балачынкі, а яна усё хліпала, стагнала, цяжка ўздыхала с атпачынкам у сваёй жалобі і пачынала шапатаць.

Агоўтаўшысь ад плаку і пакрапчэўшы, падыймала рукі ў гору над галавою, пільна угледалася у цямноці на невялічкае, блешанае расьпяцьце, што прыбіта было на крыжу, і ўсё шэптала сухімі, засмагшымі губамі, усё шэптала...

Палючые сьлёзы цяклі па ўпалых бледных шчоках, халаднелі і ў чырвоным блеску караллямі кап!.. кап!.. капалі на сьвежую магілу і праз ня дужа зьлеглую зямлю прахадзілі аж да труны і мачылі яе—сольлю укрыцца с часам.

А у круг усё начные моўчкі... Моўчкі...

Анямелые, замлелые рукі абвісалі, хворая галава пад чорнай хвусткай схілялася на маладые грудзі.

І тэйчас час а бяз літасьці, бяз міласьці пачынала малаціць сябе па грудзёх такіх маладых, ірвала ды шкумаціла с крыўдным імпэтам белую кашульку.

Дужэй, з болем стагнала, валілася, калацілася, нікнула к зямлі вухам...

Цэлавала раптам, цэлавала гліну, зямлю, доўга, безперэстанку...

— А прашніся! Устань! А-а-а... Адгукніся мне! Адгукніся—а-а...

Мёртвая ціша стаяла каля гаю і на гаю і неўцямная жудзь плыла-цягнулася у тэй цішы.

А яна распасьціраЛа рукі па магільнаму курганку і ўзноў лежала доўга і нібы бездыханьня...

Пачынала варушыцца, бытцым пасьля цяжкае хваробы...

Варушылася так, мусіць гнёў яе хто да зямлі.

Падыймалася на аслаблые ногі, хістаючыся, паволі клала крыж на сябе і цалавала расьпяцьце, клала крыж на паветра ў адзін бок, і ў другі, і ў трэцьці, і ў чацьвёрты, за кожным разам цалавала росные камкі зямлі.

Пераксціла усю магілу.

Дастала с кішэні невялічкі ножык-складанчык, а з-за пазухі кавалачэк спісанай паперы, прыціснула к грудзям маладым, пацалавала, абліла сьлезамі...

Сагнулася. Падняла адну дзярнінку, капанула складанчыкам.

Палажыла у ямачку паперу, загарнула зямлю, прыціхла...

Узяла горстачку зямлі і пасыпала сабе за кабат на грудзі маладые і змучэные... Халодненька...

Малілася ізноў і цішэй, с прыемнаю пакутаю і лягчэйшым сэрцам, плакала...

А каля гаю і на гаю—ціша, начные моўчкі і моўчкі... Апі...

Невідзімае паветра было поўнае гэтай цішы, саўсім незразумелай.

Яна сядзела пад бялеючым крыжом, цёмная... Палажыла галаву на далоні, ціснула дрыжачымі пальцамі апсохшые вочы і якбы думала.

— «І аткуль яно ўсё? І чаму яно ўсё?»

Ціша, німа атказу...

— «Дзе душа яго, гдзе дух яго?»

Ціша безатказная...

Болкі шпарка бягуць высачэй і ніжэй, сьпіць гай, і бярозы, і сасна, і крыжы, і сьвятліцы, росна на полі, а пахніць так мякка і мляўка неяк, хоць і ядрэна у ночы.

А пад зямлёю трухляціна...

— «А ў яго труне? Ён... Не такі, не жывы, страшны... Мёртвае цела, ня ён... Парахно, труп... Як тады на хаўтурох, цяжкае паветрэ»...

І ад усяго, навокала сьпячаго, ад усяе таёмнай незразумелай і страшнай прыроды, звычайнай, а не цямлівай, цяпер ад яе ў цямноці са ўсіх бакоў ляцела адна думка-загадка: аткуля ўсё і што яно?

— «Якжэ гэта, невядомы Навышні? Як яно? жыў, хадзіў, любіў... Пакінуў, памёр, німа духу, німа яго... Трухляціна... Косткі, чэрап, попел...»

Безатказная таёмная ціша...

Сядзіць цёмная пад бялеючым крыжом... Думы, думы...

Далёка водаль цямнеюць сялібы. Прашнуўся у свой час певень, запеў, за ім—другі, трэцьці... А поля, і гай, і крыжы у сьне... Ціша... Сон...

* * *

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . Ты abліваіш сваім блескам нудна але упорчыва і безперэстаньня цалютку ноч.

Ня блеск, не, ня срэбра, а нешта алавянае...

Бо німа куды пайці, скончылася... Німа таго срэбра ядрэнай ночы, калі пьянілі галаву пышные, сочные, росные рожы і стукала сэрца ад яе погляду любаго, глыбокаго, даўгога і нешта важнае гаворучаго...

Ты і тады быў алавяны, а здаўся срэбраным... Ціха было пад старымі ліпамі... Ядрэная ноч... Месічна... Нечэга жадалася...

Было, было... а падманіў...

Ты сваім бледным прыгажством і незразумелай адвечнай маўклівасьцю цягніш да сябе маленькую, сінявочкую Антосю, падыймаіш яе малютку, узводзіш на высокую страху...

Ціш-ш... Ня можна крычаць... Ён, а поўны сягоньня, узьвёў дзевачку малую, а шчэ... ціш-ш!.. зваліцца, заб'ецца да сьмертухны...

Чым ён чаруіць? Чым? Чым ён цягніць да сябе?

— Падажджы-ж!

Схапіў стрэльбу, накінуў на плечы жупан і выбег на двор.

А ноч! Божа ж ты мой, якая ноч! Яна незвычайна прыгожа...

Старые, ціхіе пуні пад срэбрана-белымі стрэшкамі сьпяць сярод цёмных садоў, кідаюць ад сябе чорную-чорную сьцень...

А там гумны, лазьні маўчаць... Стрэхі і гароды водаль у срэбры, а бліжэй—цёмна...

Месік, месік...

Бязгучна, нема, са сваей адвечнай думай пазіраіць на лес, поля, хаты... Высокі, далёкі...

Часам троху схаваіцца за правідную бо-лачку, што тонкімі фарботамі расьцягніцца па ім, як вышываны усякаю гурынаю паркалёвы набожнік над абразом у сьвятым хатнім куце.

Зоркі мігцяць, мігцяць, мігцяць...

Як дарагое цьветнае каменьня сьвецяцца... Як лямпадкі блішчаць аганькамі белымі, залатымі, чырвонымі, жоўтымі.

Думаіцца нешта ціхае, а неспакойнае...

Як прыгожа, як чудоўна-люба, якое вялікае мастацтва ў кожнай драбязінцы с творчасьці Вялікай Непазнаванай Сілы!

Прыемна, люба, ні страшна, а неспакойна...

— Адылі ж падажджы!.. У тваім ціхамірры німа спакою... Ты адбіраіш спакой... На што цягніш к сабе, цягніш, маўчыш?

— Стрэлю ў цябе!..

Сіпла прашыпеў злосны сярод прыгожасьці, скрыгнуў мімаволі зубамі, пачаў цэліцца.

З узлахмачэннаю, задзёртаю ў-верх, хвораю галавою, без шапкі, с накінутым абы-як на плечы жупаном, дзяржучы высака у дрыжачай худой руцэ стрэльбу—быў страшны і цікавы...

Не рана, позна...

Месічна... Месічна навокала, так месічна, і лезіць нешта месічнае, тое маўкліва-незразумелае, лезіць у кволую душу, зваевануюпрыгажством нецямлівасьці усяго, што тут спала бліэка, на зямлі, і што было, нявідзімае у паветры і што, можа, маіць душу ці пачаткі яе там, далёка, на другіх плянэтах ўсясьвету...

Балюча, ня можна апхапіць кволым вухам, балюча і ціха, безнадзейна...

А месічна... Са ўсіх бакоў, са ўсіх бакоў апхапіла спакойна-прычэпная, пільная ў нявідзімым апхапленьні, срэбраная, а нэрвуючая, калі німа куды іці, месічнасць.

І тады было бела-ядрэна, і цяпер... І тады было бела-срэбрана, і цяпер... Які чароўны галасок быў у Ядзі... Лічка яе, ручкі яе...

Не, не... ён быў алавяны... І цяпер ён алавяны...

Німа таго, гдзе яно? Гдзе жывуць тые думкі? Куды яны дзяюцца?

Сьпіць за возерам панскі фальварак, хаты сьпяць...

Толькі вартаўнік: «Ляп!» маўчыць...—«Ляп!» маўчыць... Далёка...

Цэліўся, цэліўся, навёў на сярэдзіну, падняў вышэй.

Абурэньне пацішэла, калыханьне—ваўнаваньне праходзіць... Ціхая дасада на зморэным сэрцы.

— «Што там на ём? Горы, сьцені, ці Каін з вядром густа-чорнай, запечэнай крыві Авэля? Што там?»

Рука бяз сілы апала, стрэльба старая, дрэнкая, дзядоўская звалілася на зямлю.

Мімаволі сеў на зямлю, сагнуўся, скорчыўся...

Схапіў галаву у далоні, падабраў пад сябе ногі, рачыком лежаў на траве, глытаючы нешта горкае-абіднае, што паткацілася к глотцы, і пачуваючы цёплые, сьмешные сьлёзы на вачох, шэптаў, зломаны нясходанымі сіламі:

— Што тама? А? Што там?

А час а поўначы, высока месік... А месічнасьць, месічнасьць... Сьветла, а відна й нявідна, месічна!

— Вума арэшуся, розум страчу, галовачка мая бедная, ломіць жа яна, баліць, памуцілася у ёй, гняты с сажалкі там, дзёўбаіць у віскох, гарыць...

Месічна...

— Пуста на сэрцы... і нічога ня ведаю... І німа ўжо чаго рабіць... Думкі мае, лятуценьня мае, ідэалы мае... Скончылася дарога, німа куды бегчы-хапацца. Куды ісьці далі? Нічога й нікога німа ў мяне...

* * *

У тую ноч страшна раз'юшыўся зьлюшчы, сьцюдзёны, сярдзіты і безупынны вецер, з дзікім выцьцём гуляў ён па голых, чорных палёх, са скогатам скакаў па зрытаму бульбоўніку, як той асьцервянелы сабака, кідаўся на цямнеючые бязлістые абголеные альшыны, шкумаціў іх з брыдкім сьмехам-сіпеньнем і, пераляцеўшы цераз быльнік і са злосьці паклычыўшы сувалку па пустым канаплянішчы, ён тонка зьвінеў і шчаміўся у самые маленькіе шчэлкі сьцен гумна і пуні.

Яму падабалася наводзіць жудзь на зямлі гэтым сваім: дз-дж-джуг-аэ-эй-сю-сю-скрыгр...

І ён галасіў праз шчэлкі, праз усякіе дзірачкі, вароты, патстрэшыны, прагаліны, а потым, азьвярэўшы саўсім і страціўшы астатні сорам, кідаўся у комін і пачынаў там выць і нібы пець на ўсе галасы, атпраўляючы чараўніцкіе хаўтуры: «Гоё-ё-ў-уў»...

На небі а ні зоркі. Чорна й чорна: у версі, на зямлі, наўкруг...

За тры сігі ня можна чэлавека разгледзіць.

Ня ведаючы добра дарогі, падарожны дзед, с хатомкаю на сьпіні і даўгім кійком-кастылём у руках, што часу зьбіваўся у глыбокіе калюжыны з ліпкаю, важкаю гразьзю, набіваўся на каменьня, колькі разоў зваліўся з дарогі у канаву і чуць-чуць не абмінуў моста.

Так і шчабоўкнуўся б у халодную, бурлячую, нешырокую, але с аборвістымі, абсыпленнымі бэрэгамі і з бяздоннымі віркамі рэчку, зачапіўся б там лапцем за корч, галавою старою ударыйся б аб камень ці калоду і захлібнуўся б ускалмучэнаю вадою...

Боўкнуўся б раптам, толькі б забулькала-забульбатала: буль, буль, буль.. Разьбегліся б кругі, узьняўся б іл, пузыры ускочылі б, пастаялі б, павярцеліся б, праплылі і зьніклі б бязпены.

Ізноў бы там—ціха, і гладка, і сьветлая вада, чорная у ночы... А водаль па каменьню таксама гуркатала б і шумела вада у шпаркай бягні ручайкоў няроўных...

Чорна, халодна, мокра, сыра, гразка, вецер заходзіцца.

С цямноты вызіраіць на падарожнаго дзядулю нехта невыразны, іскравы, адначасны, несупраўдашні...

А убогі, стары дзядуля — старэц, пазябшы у падраным, з дзіркамі жупане, дрыгаючы акалелымі ў тоненькіх альляных штанах худымі нагамі і шлёпаючы растоптанымі, касматымі, гразкімі лапцямі, ішоў у гэтай хлябі да цёплаго запечка і ужо ня думаў аб тым, што яму дрэнна, а неяк па прывычцы пачуваў нядолю.

Часам пільней узіраўся у цямноту і ўжо ня думаў, чаго яно ўсё такое на сьвеці, як яно стала так і чаго дрэннае надвор'е, а неяк па прывычцы пачуваў маўклівую незразумеласьць у дрэнным жыцьці і надвор'ю.

Пільней узіраўся, і з боку дарогі за альшынамі, за канавамі — сыпнуцца іскры, і німа... махнецца нехта іскравы, і німа...

— „У галаве так здаецца, у ваччу... Ломюць косьці, прастуда"...

Ці так здалося, ці так у галаве прайшло: вызірнуў нехта у цемні з вышчэрынымі зубамі, высулупіўшы даўгі і таўсты, як палена, язык і выкаціўшы чырвоные вочы...

Жыцьцё, жыцьцё... як тая мара. К чаму так Бог даў, с чаго яно пайшло?

Як служыў ён «чэлавекам» ў распусным домі... Чаго-чаго было! Забылася... Лапці, рэматызм, старэцкая торба... Німа таго клуму, забылася... Толькі адно услася ў памяці: таўсты, сівы генерал сярод бутэляк, сярод дзевачэк сядзеў і жудасна плакаў: «пійця, мае, мае... людзі мае! Нуда, нуда заедаіць»!..

Чорна, гразка... На цёплую б печ.

Па чорнаму, сьцюдзёнаму небу раптам паляцеў бы з-за лесу зьмей і сыпаў бы іскаркамі...

Ляціць... Клубок агнявы... Далёка асьвяцілася усё. Шум вялікі і сіп. Бліжэй... Гукаюць на зямлю каменьня, шпякаіць смуродная гразь .. Грошы нясець... Вочы аграмадные вылезьлі, чырвоные, клыкі-кляцы даўгіе, шыя тоненькая... ці то крыльле, ці то ногі с капытамі і рукі кіпцятые... Чырвоные вугалі адлетаюць, трашчаць і пырскаюць... Собака завыў у лясніковым дварэ з жахам, ціха, баючыся...

Нічога німа... Думкі у цямноці пад шалёным ветрам.

Хто можыць знаць, аткуля жыцьцё? Адразу было многа людзей, ці з аднаго пайшло? як? Чаму ён не пераказаў унукам, аткуля ён, першы, узяўся?

Сьцюдзена дзеду... Што йто жыцьцё? на што жылося? А жадаіцца жыць... Нічога зразумелаго, усё няведама... Усё незразумелым мінаіцца... А іншаю пароюўспомніцца сівы, таўсты генерал у доме распусты... Плачыць .. «пійця, маю, мае... людзі мае! Нудна мне, смутна мне, а Божа мой ..»

* * *

. . . . . Думы мае, думкі, кусашчые пчолкі, крылатые птушкі, лятучые болкі? Гдзе згубілі жало гдзе страцілі крылкі, гдзе дажджом злялелі?

Хто пакалечыў вас? Хто, які злосьнік скрывіў вас без жалю, на шкоду, у дрэнны бок, на адзін бок?

Паўзуць бязкрылые, памоклые, зморэные па пустой дарозі у сівым пылу...

Чаму ні джыгасты?

Думы мае, думкі, лятуценьня мае... . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Усе людзі спаць палягглі, а яму... як яго?.. а Янцы ня сьпіцца.

Сядзіць ён, адзінота, у закопчэным куту пад закопчэнымі абразамі і чорную кнігу чытаіць. А вецер, вецер у коміні: „Гугу-за-гублю-у»... знай, пяець, як выіць, ды бярозавым гальлём над вакном аб мокрые сьцены

бьецъ, сьцёбаіць ды шастом хістаіць, гутаіць, усё: „Драб-драб... скі-гі...“ безперэстанку бушуіцца. А дожджык асеньні безупынны аб балонкі барабаніць, як нябошчык, стукаіцца і плачыць мутнымі дробнымі сьлязьмі.

Чорна на двары, а нійдзе сьветла ужо німа, а поўначы ўжо. Чорную кнігу чытаіць Янка, дабіваіцца-шукаіць адгадкі на пытаньня-дамаганьня свае... І чуіцца яму часам, — не, ня чуіцца, а думаіцца, што сярод цішы у ноччы гукі без канца жывуць, што ня вецер у коміні гудзець, а дзіцёнак то нехрашчоны, бо задавіла яго матка — дзяўчына, смутна-прыгожая грэхаводніца любоўная, няўмысная, задавіла цясёмкаю чырвонаю і пахавала каля шляху без сьвятога крыжу, што гэта ён плачыць-стогніць у коміні, крыжа просіць... І чуіцца-думаіцца Янцы, што ня вецер бярозавым гальлём аб сьценку бьець, а скрабецца той страшны чараўнік, што пры жыцьцю ваўком бегаў і па начох кажаном лётаў ды чэлавецкую кроў ссаў у сонных немаленнікаў, што гэта ён скрабецца у хату, бо ні маіць спакою на тым сьвеці. І чуіцца-думаіцца Янцы, што ня дождж за вакном сьлёзы льлець, самагубца страшны малітвы праведнай, да Бога даходнай, просіць, што гэта ён еньчыць там...

Жах на Янку лезіць, ды не паддаецца ён, знайдзіць ён захаванае, знайдзіць тое, што ў кнізі чорнай шукаіць...

Пасядзеў яшчэ каліва і адважыўся. З-за столу устаў, жупан надзеў і шапку віславуху. Узяў нож-складанчык асьвячоны, што у лубцы лежаў, калі паску насьвячалі, узяў грамніцу і праскурку жалобную-памінальную і на дыбачках за парог пайшоў. Зачыніў дзьверы ціхінька,

сенцы запёр і за вороты, па двару, на гарод к гумну пайшоў.

Чорна і цёмна. Сьцюдзёны вецер і прыкры дождж — а са ўсіх бакоў, і пятухі ні пяюць, і сабакі сьпяць, ня брэшуць.

Глядзіць Янка па бакох,—нічога не відаць, але страшнеіць яму неяк... А можа аттаго, што нічога не відаць?

Ху! Нехта цёмны баўтануўся з-за старые ігрушы... Не, гэта сьліўка там кіўнулася.

Далі к гумну ідзець Янка, а на галаве скура халадзеіць..

Узыйшоў на гумно. Цяпер толькі да асеці.

Ступіў колькі сігоў, на саху налез, цупнуўся. Апічупаўся—павесялеў.

Во й падасецьця. Падыймаіць дошку... — «А ці ні вярнуцца шчэ? Ці ня кінуць усё гэта? Сьмеяўся ж некалі, вясёлы быў... Што я вытвараю, што я вытвараю?»

Ад'ехала дошка на бок, палез у падасецьця... Цёмна, ціха копацьцю пахніць гуменнаю.

Адна прыступка, другая... Абпаснуўся на трэцьцяй у поцемку, скокнуў адразу на под, а зямля з няшчыльнай сьценкі: «Гур-р-р...» пасыпалася...

Сэрцэ закалацілася. Прысеў да зямлі і, хапаючыся, проскуркаю круг абводзіць пачаў. «Што там па чорнай кнізі? Як там па ёй?»—Зашэптаў ня чутна: „Сіла таёмная-чорная, сіла бязплотная-грэшная, сіла нячыстая Анціхрыстава, на паслухменства гукаю цябе раз, у другі, у трэцьці!.»

Раз ужо перэказаў і абвёў проскуркаю Янка і якбы супакоіўся, а ізноў: «Шпяк!» зваліўся камок зямлі са сьценкі каля жэрала. Пасьцюдзянела сьпіна, рукі і ногі. Грамніцаю сьвятою пачаў абводзіць, шэпчыць хрыпата: «Люцыпар,

Сатано, Арымане, Чорны Бог! Спасылай мне драбязу тваю на паслухменства кажу раз, у другі і ўтрэ!..»

Таўхануў нехта пад локаць, ці то здалося яму, ці то ён толькі падумаў, ці то сам няўмысьля за стоўп, што столь дзяржыць, зачапіўся?

— «Нэпэўна, што зачапіўся; нічога німа».

І давёў другі раз і ужо ножам асьвячоны узяў.

— «Што я вытвараю?» ізноў думка блісьнула, але і нажом круг павёў.

Вядзець, вядзець... Раптам: «дзынг...» зазьвінела у вушах... Што гэта?
Крыкнуў, мяўкнуў хто на таку?..

Маланкай схапіўся Янка і кінуўся вылазіць с падасецьця... Круга не давёў... без памяці схапіўся за прыступкі і палез... Скочыў на верх, а там з-заду пасыпалася земля, загурчэла сьцена подасецьця..

Бяжыць, бяжыць Янка па таку; валасы на галаве ежуцца, пад каленямі занямела.

Выляцеў з гумна, па гароду нясецца, шапку дзяржыць. Вецер дзьмець у рот, дожч у вочы хлешчыць.

Дабег да пуні, агоўтаўся, прыстоіў.

— «Чаго ж я пабег? Нічога ж німа? Спужаўся... І нож, і грамніца, і праскурка там. Не спраўдзіла чорная кніга»...

Затужыў... І зноў думы цягучые, смутные.

— „Ня вытрываў... Не прыйшлі сілы чорные. А можа б і спраўдзіла кніга чорная-чараўніцкая? А што хто знаіць? Не казалі б таго, не выдумлялі б. Пабег, спалохаўся, упудзіўся, як конь малады»...

Бязмоўные дрэвы чарнеюць невыразна у начы, вецер веіць часінаю.—«Так было, так есьць,

так будзіць, і німаведама, аткуля яно гэта ўсё, хто гэта даў, і што будзіць пасьля сьмерці? Памёр, згніў... а сілы таёмнае? Ніхто нічога не бачыў... С таго сьвету ніхто ні казаў. Можа й таго сьвету німа? Дык што ж тагды, як тагды? На што ж такі сьвет стварыў?»

Цёмна, глуха сонна...

Чараўнікі сучасные! Скажыця, як нячысьцікам душу прадаць, каб толькі спытацца нешта? Ня йдуць нячысьцікі, бо знаюць, паганые, у іх душа мая, нешчасная...

На што даў жудасны кірунак у падасецьця лезьці? На што?

Вера, вера! Вера малая! — Німа веры ні ў тое, ні ў гэта, а жудасны кірунак ёсьць, ёсьць ён, прокляты... На што мне далі яго, на што?

А быў ж я некалі вясёлы, сьмеяўся ж я...

* * *

— Дурны, дурны...

Разумные людзі дурным завуць.

Не спрэчаіцца, бо ўсё роўны дурна ён на людзкі розум.

А перш быў хлопцам пахмурным, пасьля «варонаю», далей прыдуркаватым, потым стаўся дурным.

— Дурны, дурны...

А ён хочыць па-свойму быць. Дурны...

Але крыўда ў чым? Што баліць яму? У чым туга-нуда яго дурная?

Не цямюць хіба таго звычайна-разумные людзі.

А чаго б, можа, пажадаў! Дурэнь, дурэнь!..

Самі яны усе дурные... Ці ж не дурные?

Хаваюцца толькі, тоюцца. Якбы так разумным і патрэбна жыць? Не, дурные, дурные...

Іх многа. Яны усе завуць яго дурным. Уся парахвія. І паны. А ён адзін; з яго сьмяюцца людзі, калі ён гукнець каго дурным. Людзі. . іх многа. А яму аднаму ня можна зваць іх дурнымі. Матка плачыць, бацька маўчыць, большы брат б'ецца, а братава сварыцца на дурнога, што ходзіць нячыста, і ня хочыць кашулю дурному памыць.

А ён па-свойму хочэ быць. Па свойму...

А дзеці плююцца і пылам у вочы сыплюць... Праўда — ня ўсе. А наругаюцца дурному.

Ідзець за гумнамі, за гародамі, па дарозі і кладзець крыжы на абодвы бакі; ксціць і поле, і бярозу, і сіня-залатога жука, і мятлушку нейкую, і жаўну, што крычыць там вун у гайку.

Дожджык прайшоў. Пыл прыбіў. Зеляней-весялей шчэ невялікіе лісточкі бярозавые, рунь весялейшая, чысьцейшая, шнурамі калышыцца, абмылася, папрыгажэла. Якое лёгкае паветра. А гаёк зялёнянькі-зялёнянькі, і птушачкі так ахватней пяюць.

Прайшоў дожджык, прыбіў пыл зямельку пасьвяжыў, траўку абмыў.

Кладзець крыжы, бо яму так хочыцца... Паветра такое прыемнае.

С-пад лесу едуць... Паня Іванецкая там едзіць. Враные коні шпарка бягуць, стаеннікі. Сядзіць у чорнай, бліскучай калясцы, як звычайны дурны чэлавек, з-зя шырокай Мінкавай сьпіны выглядаіць па бакох німа ведама што, яго угледзіла. Прыплюшчыла вочкі, выняла з мяшочку паркалёвую пахучую хвустачку,ківаіць пальцамі:

— А—а! Поді сюда, дурачок! Ково это ты благослоўляеш? благословi, дружок, меня...

Нi стаяць конi. Разумнейшы Мiнка цягнiць вожкi, цiшыць iх, азiрнуўся i на дурнога усьмехаiцца, расставiўшы таўстые, сытые, чырвоные губы.

А дурны моўчкi на iх пазiраiць, не выдаець сьмеху свайго.

— «Дурные! думаюць, што нештычка ўжо й ведаюць... Сьмяюцца, бо нагарыдзiлiся у Цёмным Лесi, а прыкры як, бо перакулiваюць вiд свой у разумны, дурнi...

А ён вiдзiць, чаго яны езьдзюць у лес, на гэта не дурные.

Прыстаўляюцца перад дурным. «Што яе бласлаўляць? Ад яе распустай сьмярдзiць, яна прыкiдываецца, што разумная, што у жыцьцi нешта ведаiць. Сказаць ей»...

— А Мiнка у лесi... гы-гы-гы...

Адразу пачырванела, дураты паменьшала i грошык iзноў схавала. «А нiхай нi даець, дзецi адбяруць».

— Что ты плецёш, дурак? Проч пашол, сумашэдшы! Мiна, трогай!..

Пакацiлi...

Засьмеяўся i пайшоў на гай сядзець, на могiлкi. «Трэба тую магiлу пераксцiць, гдзе жывога закапалi».

Задумаўся...

Сьмеху каля гэтай панi. Сьмеху й грэху. Паглядзiш на жыцьцё яе i замаркоцiшся. I памерцi хочэцца.

Жыцьцё жыцьцё, цi ж ты вартае таго, каб жыць? Вось паня жывець... А можа так i лепi. А весялей то напэўна. Але калi успомнiш усю

праўду жыцьцявую — сорам, сорам! Прылівамі мягкімі, цёплымі кроў да шчок коціцца,—чырвона.

Братава сварыцца і кашулі ня мыць. Памёр бы, ды сьмерць не прыходзіць. А трэба нажыцца даволі, каб не шкадаваць памёршы.

Трэба крыж пакласць на магілку, гдзе жывога закапалі.

Прашнуўся, ачуняў, шчуп... сьценкі са ўсіх бакоў, а ніводнай шчэлачкі. Дыхаць трудна. Крычаць — толькі хрып аддаецца, праз зямлю ні пачуюць. На сажэнь пад зямлёю цяжкаю, паветра німа, сьмерць. Валасы шуркаюць на скуры зморшчэнай. Дыхаць, дыхаць — німа, німа... Ай, хры...

Грыз, мусіць, рукі, галавою біўся, скорчыўся, выкаціў вочы, усё. Ні пачулі разумные людзі, дурному веры ні далі, жывы пад зямлёю... У вялікіх муках сканаў.

Згніў. Дух выйшоў. Які дух! Яму не хапіла духу, паветра не было, памёр. Паветра гэта дух яго.

Трэба пераксціць тую магілку... «Дурны, дурны»... А хачу па свойму быць... Я хачу па паветру хадзіць... Хачу... Хоць малюпацінькую часіначку... Чаму ня можна, чаму ня можна? На што цягніць земля да сябе? Мне не падабаіцца тут у лажчынах, сярод плятнёў, тынаў, платоў, загародаў, не... Чорта ня відна...

Чорта, чорта, чэрцяночка... І я чорт. «Дурны, дурны»... Папову батрачку у балота завёў. Плакала, плакала Рыпінка Непатступная... Ці я ведаю, на што было так?

Дурны, дурны...

* * *

Янка-чараўнік хварэіць, а не паміраіць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Выскачыў с патпечча сіняньві аганёк і пабег па хаці... Каціўся, каціўся і белым дымам сыйшоў. С таго дыму малюпаткі старычок у чорнай маргелцы выскачыў, у руцэ нейкую торбачку чырвоную меў, кійком патпіраўся..

Аткуль ён, нячысьцік, узяўся?

Расчыніў торбачку, выхапіў нейкіе відэльцы і адразу к Янцы патскочыў.

Што яму тут, што яму тут?

Зубы ў момэнт расьцяў, с сатанінскім імпэтам відэльцы ў рот садануў...

— Сотэр... Оропотоцівет... перакруціў...—захрыпеў Янка, таёмны знак на паветра паклаў,— і знік раптам нячысьцік, як скрозь доньня праваліўся. Серкаю і падлаю-тухляцінай па хаці запахла, туман разьляцеўся, і нічога німа.

Трэба, трэба Янцы уміраці, а ня йдзець душа с цела за ведзьмарства яго. Мукі непамерные, страхі вялікіе...

На хаці, на страсе: «Скраб, скраб»... Скрабецца быццым кот неўгамонны-збродлівы... Лезіць, разгрэбаіць страху.

Безупынку скрабець кіпцямі, безперэстаньня грызець войстрымі зубамі, рэзцамі-шыльцамі...

— Страляйце з майго дзядоўскаго заклятаго ружжа па страсе, — хрыпіць чараўнік.

Баяцца, усе баяцца, аткуль страх гэты вялікі у цямноту ночы бярэцца?

— Патрывайце, во набой... — сказаў і з рота чорна-гнілы зуб... не, ня зуб — галушачку хваць! Даець сыну-Васілю.

Анямеў Васіль, узяў зуб і ад вялікай болі крыкнуў бязвумна; як агнём пеканула яго руку ад той галачкі... Пальцы пачарнелі і гарам заняліся.

Схапіў Янка сына за руку, пачаў над ёю шэптаць, падуў, пахукаў, уклаў галачку яму у руку. Ні пячэцца цяпер...

— Ні палохайся, Васіле! Набій старую дрынкую стрэльбу і тахні па страсе у яго, таго.. Дык ня буду па начох прыходзіць дзяцей тваіх грызьці... Чуіш? — захрыпеў злосна-сатанінска.

Выбег Васіль на двор, ноч цёмная, а ні зорачкі на небі далёкім, толькі тучы-хмары чорные ідуць, як горы вялікіе, страшэнные, як таёмная грамада асілкаў-пужалоў...

Набіў ружжо Васіль, прыцэліўся-прымеціўся на самый вільчык у страху, сказаў ці памысьліў: «Памажы Божа Госп...»

Ірванула стрэльбу, кахнула, зыкнула, пасыпалася іскар'я каля воч, зарагатаў на страсе...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

О досыць мне, досыць мне, даволі ужо... Што я пішу? Людзі сьмеяцца будуць Усе будуць сьмеяцца с пісаньня майго: І таварышы-студэнты, што беларусам з-пад пучшы завуць мяне і таварышы хлопцы-шахцёры, што прыдуць к Міколі Вясенняму з Юзаўкі і пачуўшы ад мяне песьню маю адвечную, скажуць мне. «Ці ня ходзіш ты часам і маліцца за асець? Заплесьніў ты у Багацькаўцы... Пойдзім у восень да Юзаўкі, пабудзіш паўвярсты пад зямлёю, паламаіш каменьня— забудзішся троху на чэртаўню сваю, радзенькі будзіш выпіць, закусіць ды на кірмаш пайці. Вясёлы будзіш...

Забабоны мае! Аткуля вы? Я ж ведаю, што нічога таго німа... чаго... А ці ж ведаю? Не! я дзеткам кажу аб прыродзі па навучнаму, рэдка раскажу ім страшнае. Любые дзеткі. .

Думы мае! Аткуля вы? Калі тое было, што дзядуля-нябошчык (ніхай сьвяты ляжыць!) казкі мне страшные казаў, мэкай ды мышэшай пужаў.

Думы мае, аткуля вы?

---

# У чым яго крыўда?

---

I

Да яе.

*12-го студня 1910 г.*

Ці здарова ты, мая даражэнькая, мая прыгожынькая, мая любінькая Ганначка!

Каб ты ведала, як многа-многа чаго маю напісаць табе! Аж ні знаю, с чаго й пачаць...

Усе нашы вучні зьехаліся і хваляцца калядными навінамі, як хто атсьвяткаваў. Пансіон у-вечэры гудзіць і грыміць: той на балалайцы брынчыць, той скрыпку наводзіць, той пяець, іншы галёпаіць—мазурку вучыцца скакаць, іншы, грэючыся каля грубкі, гаворыць, як у дварэ на йгрышчы хадзіў (укруг яго груд хлапцоў, і ўсе рагочуць, аж столь у залі дрыжыць і агонь у лямпі мітусіцца), іншы у сталовай кілбаскі убіраіць ды пампушачкі розные смакуіць, успамінаючы Калядкі — сьвятые вечаркі, а каторы, схаваўшыся у куток дзе-небудзь, пісьмы пішыць, пішыць...

Хаджу я, хаджу, як непрытульны, з вугла ў вугал, па ўсяму пансіону хаджу, ці ў вакно

пажуруся, як там так рана невясёла цямнеіць, а сьнег сыпкі бялеіцца, зьверху круцюцца усё сьняжынкі, дзьмець замятуха касякамі па дарозі ат паркану, і нудна ж, нудна мне...

Тут, сярод гэтаго клуму і гоману, куды б я ні пайшоў, у вачах стаіш ты, Ганулька! Ня пьецца мне тут і не есца мне тут. Я дайжэ драгоны, і пірагі, і усё, што мама напекла і нарыхтавала мне сюды, прыехаўшы, аддаў таварышам, каторые на сьвяткі у-двору ня ездзілі. Сам толькі паедаў—дзеля гадзіся. Усё думаю й думаю аб табе, калі-то увіджу?.. Доўга як ждаці.

І ці ведаіш, сяньня на ўроку хіміі так залятуціўся, што й ня чуў, як вучыцель, паглядзеўшы, што я ня слухаю, торк! знецяўку да мяне, аж сэрцэ маё закалацілася: «Повторите, господинъ Зарембо, какъ, слѣдовательно, получается эта кислая фофсфорно-кислая соль?» Я пачырванеў, ускочыў і пачаў лупаць, вытрышчыўшы вочы. — «Не слушаете?» сказаў ён і-ткі атстаў.

А вурокі такіе ж доўгіе, цягнуцца-цягнуцца, званка жджэш не дажджэшся.

Пасьля гэтаго вуроку таварышы жартавалі і прыставалі ка мне: «Не слушаете? А-а, улюбіўся, панічок! Замаркоціўся, коця-варкоця! Так, так, хлопчэ... Ну, а якая ж яна? Чэрнявінькая? Як зоркі вочкі, крэмяны шчочкі... Вучыцца гдзе? Ай ды Касьцюк!» Як слова, ведалі, якая ты сапраўды. А што ты ня ўчылася, то німа нічога, друкаванае ж ты разьбіраеш, толькі пішыш ня дужа ладна. Ня думай, што ў грамаце усё шчасьця. Ат, каб можна было вучыцца, дык бы вучылася, праўда?

І цяпера-цька, каб напісаць табе гэту пі-

сульку, я залез у парожні клас, абгарадзіўся партамі і пільную, каб хто часам не падгледзіў. Лямпачка прада мною ціха і змрочна сьвеціць жаўтавата, у коміні вецер паціхеньку сьвішчыць, у нізу, у першым паверсі на гітары іграюць, і тужлівые, прыгожые, густые гукі так і лезуць з нейкай ціхай пакутай і ў вушы і ў сэрца, лезуць і жмуць пад грудзьмі...

Божа мой, Божа мой! Чаму я гэткі шчасьлівы, што спазнаўся с табою, Ганнуся мая, і нешчасьлівы, што жыву далёка-далёка? Здаецца, каб нейкая лятучая машына, ці кавёр-самалёт, як гаворыцца у казках, дык бы выўчыў вурокі, сеў і паляц-еў бы да Ганначкі, хоць бы на адну-адну мінутачку. Ах! Ніразу не забудуся я на тое ігрышчэ.

Як то жывеш ты цяпер? Ці здаровінька? А ці бываюць вечарынкі. Ці прыежджалі к нашым дзеўкам сваты? А можэ хлопец каторы наш дзераўенскі высватаўся? І як, ці-ткі бярэць Міхалка Аўгіньню, ці ўсё німа шчэ ладу? А к Банадысёвам у-супрадкі ты, Божа крый, не хадзі: іхны батрак, як усе кажуць, прыкры хлопец, мне ён надта не спадабаўся, такі буян. Мала за чым не пабіўся на заручынах у дзядзькі з бельскімі хлапцамі. Што яму вадзіла, што яны прыйшлі пагуляць? А гарэлкі ж наглытаўся! І мяне дзівіць, што ты з ім так любіш скакаць польку... Ці мала лепшых мальцаў ёсьць? А дылі ты не падумай чаго-якога, гэта я толькі так, к таму, што ён чэлавек ня то, што «не рахманы», як ты гаварыла, а дрэнны, скрыўдзіць як, і што ты яму такаму?

Прыпішы мне, што кажуць людзі аб дзядзь-

кіным вясельлі? Як жывуць нашы: тата, мама? Як маладая дзядзіна?

Марку я табе пасылаю у гэтым заказным пісьме; паперы возьмеш у Мэндаля, у яго ж і напішы пісьмо сама, адрэс напішыць табе Мэндалёўна Этка; павестку табе перадасьць таксама яна, а дзеўкам нічога не кажы... І майго пісьма Этцы чытаць не давай, а чытай сама, я пішу табе чытэльна.

Ну, а затым і бывай здаровінька, мая красачка, мая журавіначка! Ні нудзіся, прашу цябе, — што сказаў таго не забуду, дай Бог толькі скончыць школу, ужо ня доўга!..

А людзі, калі сьмяюцца, ніхай сьмяюцца, ці каму закажыш? І аб жыдаўчынцы, с каторай быццым то відзіў мяне слабадзкі Піліп у Гарадзкім саду, як езьдзіў у Богумільска,—брэхня, і не давай ты веры, можа катораму злосьніку зайздросна.

Ты у мяне адна, Ганя, мая першая і апошняя. Лепей за цябе ні знайдзіцца мне ў сьвеці.

Цалую цябе, Ганя, на ўсю сілу... Абшчапіўшы за шыйку, жалею-мілую на ўсю сілу...

Званок на вячэрную малітву... Дабранач, Анюта! Ганя!

На векі-вечные твой

Касьцючок Зарэмба.

*P. S.* (Пасьля пісана). Пішу пасьля малітвы. Прысылай пісульку скаранька па адрэсу: горад Богумільск, Могіслаўскай губ., пансіон такога-то вучылішча, такому-то. Мне вучыцель за каляднае сачыненьне па псіхалогіі (такая навука)

«Чуўство сымпаціі» паставіў чатыры с палавінаю. Дабраначі..

Твой Касьцючок.

Цалую цябе! Люблю...

---

II

Таварышу.

*13 студня 1910 г.*

Насьмешлівы Андрэю!

Віншаваць з Новым Годам у гэтым пісьме ня буду, бо я табе паслаў сваю картачку якраз 28 сьнежня (здаровіў цябе), ці дайшла яна, ай не?

Як атсьвяткаваў я у-дварэ, пісаць ня хочацца—сам добра ведаіш, як я жыву у дзярэўні, калі прыежджаю з вучылішча.

Ведаіш... Не, браце, насьмешлівы Андрэю, не дагадаішся, што стала с тваім Кастусём: ён цяпер саўсім другі чэлавек!

Я цяпер і сам дзіўлюся, як гэта мог я раней, у тые гады, прасядзець у сваёй хаці цэлые Каляды, не паказываючы нікуды носу? Помніш, бывала: у цэркву ня езджу (хоць і топіна тым крыўдзіць бацькоў), бо «сучасная вера — ашуканства;» к радні не езджу, бо радня мая — с хамскімі поглядамі, бачыць у ва мне «кандыдата у немалые паны,» і прыкра тым выстаўляіцца; на ігрышчы не хаджу, бо «што я там знайду?– тупых дзевак, буянаў хлапцоў, мацерш-

чыну і усякую брыдоту, карты, гідкае скалазубства, насьмешку над маімі славамі аб лепшым людзкім жыцьцю;» і так далі, і так далі, і так далі. Валяюся сабе тыдні тры у хаці за кніжкаю у гордай адзіноці і душу маладые здаровые кірункі сваё горкімі думамі: «Такая доля мужыцкаго сына з дзярэўні, што пайшоў вучыцца».

Кніжкі, кніжкі й кніжкі. У-вечары хіба прайдуся да лесу па дарозі занесенай сьнегам, з маленькім брацішкам ды й ізноў у хату.

Матка пачанець: «Сыночак! Трэба-ж-ткі табе сядзець у хаці цалюткі дзень!.. Прайдзіся ты хоць к дзядзькіным, калі ня любіш сядзець на вечарынках з дзеўкамі, прачытаў бы што дзядзіні, як бывала маленькі, яна ж дужа любіць слухаць цябе. І дзеўкі гукалі, кажуць, што гэта з ім, з вашым Касьцюком зрабілася, — людзей баіцца.» А я мамі па кніжнаму і так надуўшыся: «Што я там, на вечарынках, знайду?» А дрэнна было на душы, а цяпер успомню—чырванею.

А бацька: «Ня любіш дзеравенскай гульні,— к настаўніцам бы з'ездзіў... Ты ж вучышся... і ім бы весялей...»

А я тату: «Ага, паеду... Як слова я ў іх лепшае шчасьця знайду, чымся на ігрышчах... Яны с паненятамі круцюцца, зьвяжыся я — скажуць нашы: І Касьцючок, наўчыўся на сабаччы нюх— запанеў, да мужыкоў а ні блізка, пан»... Знаю я.

Змоўчыць бацька, а кіпіць, бо ні на яго выходзіць.

Так бывала й пакутую «горкую долю селянскаго хлопца, што вучыцца». Скваруся сам у сабе, не бачучы сьледу...

Вось была філазофія!

Чырванею цяпер: Госпадзі, які я дурус быў-

І адна злая уцеха у мяне: «Ці я адзін такі задаўся? Многа у нас такіх дурусаў. І ты, насьмешлівы Андрэйка, і ты... помніш? Цяпер, жывучы у горадзі, забыўся хіба на тое? А цікава ведаць, якіе у цябе думкі цяпер на гэтые пытаньня. Напішы хоць трошку, а хацеў бы убачыць цябе. Ці зразумееш мяне — здольны дэмакратычны працаўнічэ? Ня ведаю... За сваімі шырокімі грамадзянскімі поглядамі маіх маленькіх, вузенькіх, беларуска-селянскіх не ўбачыш. Многа маю пагаманіць с табою.

Я адрадзіўся! У мяне *новая плятформа...* тольکі, Андрэйчык, ня сьмейся, што я шчэ вучэнь. Як ты сам, помніш, кідаўся у розные бакі і сварыўся з дзядзькамі, прыезджаючы у вёску на вакацію.

Я адрадзіўся!

А с чаго пайшло? — Адзін раз, у сьвяты вечар, к нам у нашу хату прыйшлі і хлопцы й дзеўкі, і старые, і дзяцьвішча — гуляць. Набухтылася поўная хата.

Тата скрывіўся на іх быццым то, бо я меў дзікі від.

А потым, а потым... Разыйшоўся я, і ўся мая старая філазофія к чорту!

А ўсё знаіш хто?—Ганулька Леваноўначка... Толькі ты ня сьмейся: ну я, здаецца, улюбіўся... і ўсё

Бліжэй, бліжэй — пасядзеў я за ёю, пагаманіў, — якая слаўная дзяўчынка. Як я раней таго ня відзіў? Заклуміў галаву кніжкамі сам сабе, праз тое хіба.

А цяпер... (кніжкі то чытаю, ня бойся)... на йгрышчы хаджу, у цэркву езджу, к свату ў госьці колькі разоў бегаў і с хлапцамі ў дровы езь-

дзіў. Вясёла! Мама рада. Толькі тата троху не разумеіць мяне...

У гэтым уся паэзія нашаго народу! Толькі мы гадуімся на чужым грунці і забываімся добра разумець свой грунт. Ня сьмейся, што я — вучэнь... Як пазнаўся я з Ганулькай, я многа уцяміў. Каб нам, ведаіш, свой беларускі прарок, каторы б прамыў нам вочы, у чым наша істота, паэзія жыцьця, прыгажосьць жыцьця. Ато што: тое, лепшае чэлавецка-беларускае, што узгадувала ва мне семья (не ўся семья наша, а мама, дзядзіна, цётка, дзед, дзядзька і яшчэ той гэты) тое выкарэняла доўгі час школа. І мой вучыцель першы быў — беларус! Які сьляпы! Мала адукаваны, мала асьвячоны... Ці наўчыла нас, слухай, наша школа любіць сваё беларускае, шанаваць прыгажосьць роднай прыроды, пранікнуцца гармоніей родных зьяў? Чаму нас вучылі!

Во й вісі паміж двух магнітаў. Ці выкарэняй роднае карэньня і адрэкайся роднай хаты, ці уцекай ад панскай апраткі і цягайся за прыміціўнаю дзядоўскаю сахою.. хвароба на...

А як я з Ганулькаю? Ды што табе... Я ж скрытны беларус! Толькі ж ты мне блізкі, Андрэй, ты мяне зразумеіш і не прасьмяеш. .

Божа мой! До пісаць. Заўтра у мяне рэпэтыція па тэхналогіі, трэба зубрыць.

А шчэ граюць у вушах скамарохі, шчэ пяюць дзеўчаткі родные песьні, прад вачамі так і мітусяцца хлопцы й дзеўкі у скоках. А той міг! Сяджу я у вугольчыку на судніку з ёю. Заступілі нас сьпінамі гулянніkі, дзівячыся на танцораў, гамонім мы.. Ня горш нашы дзевачкі, с каторымі мы выраcьлі, за перашпіленых ненатуральных гарадзкіх паненак. Ай што я... і там ёсьць

слаўные дзяўчынкі... Дык вось... Сажмала мне ў атказ маю руку Ганулька і на пытаньне маё хлапецкае змуцілася, схіліла галоўку: «Ага... ты ж бачыш»... кажыць. Зашчымела, зашчымела маё сэрцэ!

Я і скакаць наўчыўся; з ею польку скакаў; танцы ужо не такі грэх...

Толькі табе хвалюся, даражэнькі Андрэй: люблю я Ганульку і яна мяне любіць. Ніхто ня ведаіць.

Чэраз два гады паскачыш, дружэ, на вясельлі, бо Ганні у наскім быце ня можна доўга ждаць. Калі я і ў высшае пайду — нічога, рукі ёсьць, спэцыяльнасьць будзе, абы здароўе, пражывём.

Працаваць і вучыцца! Так браце. Што там хавацца, будзім самі сабою, будзім самі здабываць сваё жыцьцё і долю. Працаваць і вучыцца. Не хачу я хлусіць; калі я палюбіў і даў слова, яна мая прад Богам і прад людзьмі. І што ты пішэш, як цяпер у вялікім горадзі у вас: сыйшоўся, зьвёў, канцы схаваў, хоць бы й проціў старой праўды, і кінуў яе, калі абставы і варункі жыцьця сучаснаго замінаюць — брыда гэта, і гідасьць і подласьць. Ваша гарадзкая моладзь сама творыць жыцьцё, дык сорам ёй зваліваць віну на ненармальнасць сучаснаго соціяльно-грамадзянскаго жыцьця.

Сорам ім, сорам. Ты выйшоў з народу і разумееш, дык будзь чэлавекам, разьбірайся у ісьцінна паступовым. Праўда? Ай, каб я с табою увідзіўся, ато на паперы выходзіць ня тое.

О, трудна, брат Андрэй, нам, мужыцкім сынам. Мы выпаўзаім са сваіх хат і па-праўдзі нам. Мы выпаўзаім са сваіх хат і па-праўдзі (толькі ня сьмейся!) маім жэ нейкую зямельную сілу ў сабе, гэта не мая навіна, але хаваімся са сваімі ідэаламі, нясьмела азіраімся на новай да-

розі, шукаім вачыма прыпынку і, не патрапіўшы і не даўміўшыся зьеднацца і пайці сваім шляхам, расплываімся патроху у гнілом балоці згрызеных мольлю чорных сьвітак...

Выўчыліся! Выйшлі «ў людзі!» Сталі панамі. .

Я не хачу так!

Ня ўжо ж табе не прыходзіла у галаву думка на паньскім балі: «Вось я, пан, гуляю тут, забыўшыся на калішніе жаданьня, а не магу прывясьці сюды свайго бацьку — селяніна (лекая, рабочаго, дворніка), матку — вясковую кабецінку (прачку, кухарку, швачку), братоў, сястрычак і др., бо яны — простые?»

Ведаіш, тут у нас у клубі на вечарынцы за буфэтам падавала гімназістачка, дачка буфетчыка; яе папрасіў на вальс адзін студэнт «І што-ж! Падыйшоў сярод залі старшына клубу і папрасіў дзяўчынку выйці з залі, альбо не працаваць за буфэтам. Што ты на гэта думаіш?

А у нашым вучылішчы 80% селянскіх дзяцей...

Дык гдзе ж дзьверы да жыцьцёвай праўды, як жа жыць.

Ня ведаю... Ня ведаю... А толькі я так не хачу!

А як будзе, як то будзе?

Ну аб жыцьці нашым вясковым пісаць многа ня буду. Ведаіш, сам жыў... Таксама усё чыста, як раней. Толькі троху быццым-то варушацца: хутары, кооперація, земства... Але мала разумеюць, мала знаюць, — ой патрэбна праца!

У вучылішчы у нас жыцьцё старое, грэшнае. Вучымся, вучымся... Многа часу лабараторыя адбіраіць. Вучыцелі на вуроках сьпяць, хоць і Каляды не даўно былі. Вучні, брат, на шкоду многіе, на прыватных кватэрах асабліва, пьюць

гарэлку, гуляюць у карты. Ня дужа даўно аднаго уволілі за пьянства, у другога адабралі стыпэндзію за карты, сам дырэктар аб 11-й гадзіне паехаў і застаў. Нядобра, ведаіш, што гэтые гаротные гулякі — хто? селянскіе дзеці; адзін з Міншчыны с-пад Ігуменя, другі з Магілёўшчыны з Горэцкаго павету. Як яны будуць цяпер? Той, што адабралі у яго стыпэндзію, атрымліваіць ад бацькі рублёў 5 ў месяц, а рубл. 5—7 прысылаіць яму брат вучыцель. А што, калі нам забараняюць рабіць вечарынкі, агульные чытаньня і т. д.; цяпер і самі хлопцы, праўда, ужо ня дужа цікавюцца... Эх, жыцьцё.

Ну бывай здароў. Во распісаўся я. На 2 сямікапеечн. маркі... Пісьмо гэта напісаўшы прачытаваць ня буду, бо баюся, што, прачытаўшы, не адважуся паслаць табе яго, па скрытнасьці сваёй беларускай... Толькі ты ня сьмейся, Андрэйчык! Ня сьмейся, напішы незабавам атказ, будзь здаровінік і не забывайся на твайго сьмешнаго

Косьцю Зарэмбо.

III

Дамоў (аткрытка).

*Студня 14 1910 г.*

Добры дзень тату ў хату! Як жывіцё? Як маіцеся? Я здароў. Даехаў аж надта добра й ладна. Вучуся. Смуціўся троху, што выезджаючы так заюшыўся, што не схадзіў к дзядзькіным папрашчацца. У дзядзінкі старэй прашу прабачэньня, што мала чытаў ёй на Каляды, яна ж мне маленькому столькі казак казала. І мамі вялікае-

вялікае спасібачка за ўсё, што мне напекла і нарыхтувала. Еxaў — не хацеў браць, а цяпер у пансіоні дык люба. А як маладая дзядзіна? Усім кланяюся, жычу здароўя і ўсяго добраго. Пішыця, якіе навіны ёсць і ўсё, усё... Ніхай Паўлік пішыць і Нінка дадасьць, як вучуцца і т. д. Ну бывайця здаровы і вясёлы, мае дарагіе! Татка, прасьціце, што ў Каляды было тое-сёе...

Ваш Кансьцянцік.

## IV

### Яму ад бацькі (пакарочэннае).

Дарагіе сынок!

Паведамляю цябе, што ў хаці, дзякуй Богу, усе цяцер здаровы. Праўда, на тэй нядзелі, матка, ішоўшы з абедні, троху прастудзілася і прахварэла дні са тры, але цяпер, хвала Богу, палепшала і каля печы сама упраўляіцца Ато дзядзька твой малады з дзядзінаю ужо выехаў на службу к пану у Пнеўшчыну, Антон жупаны хадзіў шыць у Міхасёўку, прабыў с паўмесяца, Панас канаплі ад Іцкі Броўды у Смаленска вазіў, — адрабляў, што набралі у Крамі, — а Паўлі з Нінкай цэлы дзень німа — зраньня у школку пойдуць, дык я астаўся адзін с хвораю маткаю, хоць ты вазьмі ды як хаця кіруйся. І вады прынясі, жывёлі падавай, дроў німа — дроў насячы, у погрэб злетай — проста хоць гвалту крычы. Каровы галодные мычаць, воўцы бляюць, сьвіньні скігочуць, — ну не дай Божа яйжэ і бабскую работу спраўляць. У сераду гукнуў старую Міхасіху печ тапіць; дык яна як выпаліла, рана юшку зачыніла, напусьціла чаду паў-

нюхтыньку хату. Як на ліха, я улучыў вольную часінку, прыйшоў у цёплую хату з марозу і пачаў задоўку віць. Чую смурод, кажу матцы: „Ідзітка ты памалу, напрануўшы шубу, к дзядзькіным, ато на хворую галаву учадзееш саўсім“. Выйшла яна, а я, шапку надзеўшы, сяджу, думаю — ня возьміць мяне. Але к вечару як заламала у мяне галава, як пачало мяне доргаць, на сілу агоўтаўся, думаў — жыў ня буду. Прыйшоў змроткам Юры Іванавіч са школы з Нінкаю і Паўлікам, кніжак тваіх у мяне прасіць. (Узяў некатарые беларускіе а таксама журналы і „Вайну і мір“ Талстога). Дык ужо ён мяне ратуваў. І вуксусам віскі цёр і чаім паіў. Да-душы, думаў—ня вытрываю.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Навін вялікіх німа. Паўля, здаецца, нішто сабе вучыцца, Нінка тож па арыфмэтыцы маіць «пяцёрку», чытаіць ужо гладка, адно дрэнь, ніяк ня можэ наламацца гаварыць правільна *). Як закулдыячыць: адно слова кніжнае, а дзесяць нашскіх хатніх... Але настаўніца яе шкадуіць, наўчыла вышываць. І за мову ня дужа-то школіць.

Слаўноўскаго папа жонка у захвіцэньню **) была доўга, троху за чым жывую не пахавалі. .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Андрэй с Пецярбургу дзядзькам ліст прыслаў. Ён далёка сігаіць: працуіць у нейкай рэдакцыі, ня дрэнна жывець. Вось і маламожнаго бацькі дзіцёнак, сірата, а у людзі вышаў. Ці пішыць

---

*) па рассійску.

**) у летаргічным сьне.

ён табе? І дзядзькі яго, як прыслаў паўсотні ужо не кажуць, што скруціць галаву, у турму патрапіць...

Паны ізноў нашым людзям за падзёншчыну грошы не аддалі. Вось паны! Судзіся з імі, чыркайся! Лес чысьценька зводзюць да рэшты: і каля нашаго поля Гаёк аднавокаму Хвальзону аддалі за даўгі.

Мясьцечковые жыды краму Саўчанкову спалілі, каб не перабіваў гандэль ім. Аднаго засадзілі у вайстрог, але што ж, нічога ня будзіць. А Саўчанак саўсім зжыўся: надзел прадаў, грошы, якіе былі, на тавар пусьціў, усё дымам пайшло. Вось ты казаў: «Каб нам такіх людзей, як Саўчанак, ды паболей. Каб нам ды сваіх гандляроў...» Куды ўжо там! Вось і натаргаваў, наскакаўся твой хвалёны Саўчанак.

Пішы, як жывеш, як вучэньня? Можа у грашах тугавата, можа дрэнна кормяць ў пансіоні— пішы, прышлю. А матка табе шкарпэткі і вязёнкі сплела. Шкарпэткі то ладные, цёплые, а вязёнкі—ня ведаю, мусіць пасаромішся насіць у горадзе. Далёка нашым бабам да матак тых латышоў, што, як ты казаў, і ў вучылішчы вашым у дамэтканых дужурках ходзюць. Толькі ты за гэта ня гневайся: што праўда, то праўда... Ну яны такіх маргелак ці валенак не звалюць, як наш Юстын.

У Хлімона воўк аўцу с пуні вывалак. Ваўкоў к нам панабегла с Цёмнаго Лесу — беда! А забабонные голавы кажуць тут, што гэта ехаў вясельны поезд каля чараўніцкаго двору гдзе бы то ды й абмінуў закінутаго зайца, не пачаставаўшы ведзьмака. Вось ён іх усіх і пракляў, і увесь поезд пабег воўкалакамі, с таго й ваўкоў

многа. Дуруць людзі галаву. А Паўлік ужо аб гэтым і казку ад дзядзіны запісаў, хацеў пасылаць табе, ды я грошы на марку не даў, нечэга яму, маламу, многа знаць ды грошы на глупства траціць.

Газэту, добра, што выпісаў. Нінцы я не даю чытаць, мала яна шчэ, а глаўнае, каб па расейску наламалася. А Паўлік ладна чытаіць; старые, вечарком калі, так уважна слухаюць. Шкада, што хаця мала-мала, адылі ёсць не нашскіе словы. Расталкуй нам у пісьме, што гэта такое: павэдлуг, кольвек, жэгнацца?

Кланяюцца табе усе, бывай здароў. Вучыся, будзь вясёлы, ні смуціся.

Твой бацька Міхась.

Са слоў Вашаго таты пісаў і Вас прывітаю
Юрка Алехновіч.

*24 студня 1910 г.*

Усё гэта з маіх слоў спісаў, дзякуй яму, Юры Йванавіч, калі быў у нас. А цяпер па маймy загаду пішыць Паўлік, бо я не хацеў пры Алехновічу пісаць. Што ты гэта уздумаў такіе пісьмы пісаць дзеўкам? Заказное! Ці прыслаў нам хоць калі заказное? І гдзе твае вочы? Ці тут разумеюць што. Ведамо дзеравенская дурата Адно—людзі сьмяюцца і аб дзеўцы і аб табе гаворка пойдзіць. Разлахаюць па ўсей валасьці. І мне будзіць стыдна, скажуць—да чаго даўчыў сына Каб у другі раз не пісаў. Падумай сам. Да-волі таго, што ты па мужыцку гаворыш, (дурэнь другі падумаіць, як бы ня ўмеіш па кніжнаму) і нійдзе за ўсе Каляды сярод паважнейшых людзей носу не паказаў, бытцым то, што мы жывём у дзярэўні, дык ужо пушчэйшые за другога

куртузаго панка ці лапцёваго шляхціца. Адумайся, Касьцюк; нешта ты, чым далей тым горэй. Алехновіч па просту гаворыць толькі з ветлысьці к табе.

## V

### Яму.

(Аткрытка з абразьлівай карцінкай на другім боку).

Pocztowaja pisulka. Почтовая писулька.
Atviras laiškas. POCZTÓWKA. ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО.

Калі ты дурак, дык ня бегай за вясковымі, а хапіць с цябе гарадзкіх. А то на Вялікадня пераламаім табе ногі і напішэм зьверх таго дырэктару у вучылішчэ.

Паклон з насьмешкаю ад Ганны.

6 к.
Доплатить

мясьцінка на марку.

Г. Богумильскъ

*Могилл. губ.*

Пансіонъ Химико-тэхническаго Училища.

*Касьцянціну Зарэмбі.*

*3 кл.*

## VI

### Пісьмо ад Паўліка.

Брато Косьця! Здароў!
Тата ня ведаіць, што я табе пішу ды шчэ

па-беларуску. А пішу я табе на тое, каб ты не прысылаў болі пісем Ганьні Леваноўні. Ато толькі сьмяюцца і гаворадь аб табе дрэнна. быццым ты які благі чэлавек. Тата сярдзіт. Толькі мама й дзядзіна, як даведаліся, дык сьмеяліся.

Калі прыслалі павестку, Ганна блізка што лётала, а не хадзіла. Усім чыста, якбы не наўмысьля, паказывала яе і пачынала тужыць і хваліцца. А даждалася сьвята, гукнула дзевак і Цімоха, муршчыкаваго сына, каб прачытаў, бо ён пісьменны, і пайшлі у мясьцечка к абедні і ў воласьць за пісьмом. Прышоўшы у-двору усім пасказала, як бы ня хочучы, закрываючыся хвустачкаю і чырванеючы. І бацька й матка Ганьніны тое пісьмо слухалі. Лявоніха адну палавінку адабрала у дачкі і носіць за кабатом на грудзёх. І цяпер тое пісьмо хлопцы чыталі колькі разоў у Лявона на ўсю хату. Ганьні наругаюцца, кажуць: «Кусьцюкова жонка». Адзін раз я дакляраваў Ганьнінай сястрэ маленькай Маньцы ажно цэлую сьпісаную цетрадзь, што вучыцель мне аддаў, каб толькі прынесла мне тваё пісьмо, дык яна перш згодзілася, а потым пачала прасіць кніжку з людзьмі. Я не даў. Калі-небудзь выхаплю гэта пісьмо і падзяру, толькі ты болі не пішы, ато мяне Ганьніным дзевярочкам дражнюць хлопчыкі і дзеўкі.

А Ганна й ня дужа ладная дзеўка; у яе на руках кароста. Адно што прыгажэйшая троху і байчэйшая за нашых другіх дзяўчынак, а любіць сварыцца і дужа ілжэць. Толькі ты ня сердзіся, я праўду кажу.

Лявоніха пабіла каля калодежа вядро старому Хомцы, што казаў ёй: «Ня возьміць Кась-

цюк твае курносай Гінесі, знайдзіць у горадзі пад брыльком сабе».

І сьмеху й грэху.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У нас атлега. Вучыцель даваў нам свае лыжы па сьнягу бегаць. . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І да т. пад. (пакарочэна). . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Твой брацішка Паўля Зарэмбо.

*27 лютаго 1910 г.*

## VII

### Яму ад яе.

Рука пісала, ня ведала каму, а сэрдэнька сказала, што міламу свайму. Пішу пісьмо ад сярдзечнай мукі, ляці пісьмо, міленькаму ў рукі.

Пісьмо ад Анны Лявонавай Валюжыніч няцэннаму другу, у першых страках маего пісьма, што зьвешчаю вас, як люблю, паважаемы Канcьцянцін Міхайлавіч, і што жыва і здарова і аб тым і вам зычу ад Госпада Бога і усяго усьпеха у руках і дзелах вашых. А цяперыцька мы прадзём найболі у сваёй хаці, то на Банадысёва батрака не сумневацца, патаму как мы панімаем, што ж ён, как сібе хацііш. Аб тым вясельлю усё ладна, і ўсе гаворуць або водкі было даволі і усі здаровы так што з мяне сьмяюцца, куды ж мне как мы няўчоная мужычка і болі нічаво. А мне на тое неспакой і што вы сумысьля усё гэта і па дзеравенску гаворыцця, а вы наўчоны, і каб можа пасьмеяцца за тым вас цалую і думаю як аба

мне і ці будзіць с таго што. У вас ёсць прыгажэйшые і багатые.

Астаюся любя

Анна Лявонава Валюжыніч.

*24 февраля 1910 г.*

VIII

З яго пісьма да бацькоў.

. . . . . . . . . . . . Паўля, кніжэк не шкадуй. Чытай сам і другім давай. І кніжачку з людзьмі якую небудзь ад'жалей. . . . . . . .

К Вялікадню я хіба што не прыеду. Экзамены зара пасьля сьвятак; трэбе рыхтавацца... Пагуляю у-летку. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

К. Зарэмбо.

*18 марца 1910 г.*

Ізноў таварышу.

Насьмешлівы і праўдзіва-разумны Андрэю!

Дужа, дужа прашу цябе: калі захаваў маё пісьмо, што я пісаў табе пасьля Каляд (доўгае такое), то ці спалі, ці падзяры, ці — што найлепей—прышлі мне яго. Не дзіві і ня сьмейся; сустрэцімся калі,—раскажу ўсё.

Скрыўджэны жыцьцём К. Зарэмбо.

*18 марца 1910 г.*

---

# Змест.

Стр.